БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ЎНІВЕРСІТЭТ

М. І. Свістунова
Г. К. Ціванова

# Гістарычная фанетыка беларускай мовы

*Дапушчана*
*Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь*
*у якасці вучэбнага дапаможніка*
*для студэнтаў устаноў вышэйшай адукацыі*
*па спецыяльнасці*
*«Беларуская філалогія (па напрамках)»*

МІНСК
БДУ
2016

УДК 811.161.3’342’0(075.8)
ББК 81.411.3-03я73
С24

Р э ц э н з е н т ы:
кафедра беларускага мовазнаўства
Беларускага дзяржаўнага педагагічнага
ўніверсітэта імя Максіма Танка (загадчык кафедры,
кандыдат філалагічных навук, дацэнт *Д. В. Дзятко*);
загадчык кафедры беларускай і рускай моў
Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта,
кандыдат філалагічных навук, дацэнт *І. У. Будзько*

**Свістунова, М. І.**
С24 Гістарычная фанетыка беларускай мовы : вучэб. дапам. / М. І. Свістунова, Г. К. Ціванова. – Мінск : БДУ, 2016. – 159 с.
ISBN 978-985-566-374-5.

Выкладзены асноўныя звесткі па галоўных тэмах гістарычнай фанетыкі, што вывучаюцца ў курсе гістарычнай граматыкі беларускай мовы; прапанаваны заданні для выканання на практычных занятках і тэсты для самакантролю.

Для студэнтаў устаноў вышэйшай адукацыі, якія навучаюцца па спецыяльнасці «Беларуская філалогія (па напрамках)».

**УДК 811.161.3’342’0(075.8)**
**ББК 81.411.3-03я73**

**ISBN 978-985-566-374-5**

# Прадмова

Гістарычная фанетыка – першая частка курса гістарычнай граматыкі. Вывучэнне гісторыі фанетычнай сістэмы неабходна для разумення слова- і формаўтваральных з’яў, што ў канчатковым выніку забяспечвае фарміраванне акадэмічнай і прафесійнай кампетэнцый у студэнтаў-філолагаў.

Асобнага вучэбнага выдання, прызначанага для засваення гістарычнай фанетыкі беларускай мовы, да цяперашняга часу не было.

У дадзеным вучэбным дапаможніку прадстаўлены 18 тэм, якія раскрываюць асноўны змест гэтай дысцыпліны. Кожная з іх пачынаецца са сціслага выкладу інфармацыі, неабходнай для наступнага выканання практычных заданняў. Тэарэтычныя звесткі падаюцца ў тым ліку ў выглядзе табліц і схем, што павінна садзейнічаць больш лёгкаму ўспрыняццю і засваенню адпаведнага матэрыялу. Для сучаснай лексікі, што выкарыстоўваецца ў якасці прыкладаў (у тым ліку ў табліцах), прынята курсіўнае напісанне (за выключэннем слоў, якія прапануюцца для выканання заданняў і тэстаў).

Практычная частка ў межах кожнай тэмы прадстаўлена падборкай заданняў, якія выконваюцца студэнтамі самастойна або з дапамогай выкладчыка, і тэстам для праверкі трываласці ведаў. Адказы на тэставыя пытанні змешчаны ў канцы вучэбнага дапаможніка.

У якасці фактычнага матэрыялу ў лінгвістычных заданнях часта выкарыстоўваюцца ўрыўкі і прыклады са старажытных пісьмовых помнікаў. У пераважнай большасці гэтыя прыклады выбіраліся з ілюстрацыйных частак артыкулаў «Гістарычнага слоўніка беларускай мовы» (Вып. 1–35. Мінск, 1980–2015), таму і пашпартызацыя крыніц даецца ў скарачэннях па правілах, прынятых у названым лексікаграфічным выданні. Прыклады з помнікаў старажытнага пісьменства пададзены адметным шрыфтам.

Паколькі курс гістарычнай граматыкі, аб'ектам якой выступаюць жывыя моўныя з'явы ў розныя гістарычныя перыяды, папярэднічае курсу гісторыі літаратурнай мовы, што вывучае фарміраванне пісьмовай традыцыі, аўтары вучэбнага дапаможніка змясцілі ўрыўкі са старажытных пісьмовых помнікаў з пытаннямі для аналізу іх фанетычных асаблівасцей. Такія заданні павінны не толькі забяспечыць засваенне матэрыялу па фанетыцы, але і падрыхтаваць студэнтаў да ўсебаковага аналізу старажытных тэкстаў, выяўлення ў іх з'яў, розных па часе і паходжанні.

Акрамя моўных фактаў старажытнай пары пры складанні лінгвістычных заданняў выкарыстоўваліся творы сучаснай беларускай мастацкай літаратуры, а таксама запісы дыялектнага маўлення. Такі шырокі дыяпазон прапанаванага моўнага матэрыялу, на думку аўтараў, павінен выпрацоўваць у студэнтаў навыкі «гістарычнага бачання» моўных фактаў і, акрамя гэтага, актуалізаваць набытыя імі веды па сучаснай беларускай мове і дыялекталогіі.

У вучэбным дапаможніку прысутнічаюць заданні, заснаваныя на параўнанні фактаў розных моў (пераважна славянскіх), таму ён можа быць карысным для студэнтаў не толькі аддзялення беларускай філалогіі, але і іншых філалагічных спецыяльнасцей.

У цэлым гэта кніга павінна паспрыяць арганізацыі працэсу навучання і фарміраванню ў студэнтаў трывалых ведаў і цікавасці да роднай мовы.

Аўтары выказваюць падзяку дацэнту кафедры беларускага мовазнаўства УА «Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка» кандыдату філалагічных навук М. С. Ржавуцкай за ўважлівае прачытанне рукапісу і слушныя парады.

Тэма 1

# Будова праславянскага склада. Асаблівасці складападзелу

Праславянскі склад утвараўся са складовага і нескладовага элементаў. У якасці складовага элемента выступалі галосныя, а таксама плаўныя санорныя *r̥, *l̥, у якасці нескладовага – часцей за ўсё зычныя; нескладаўтваральнымі маглі быць галосныя *i̯, *u̯. Склад мог утварацца толькі складовым элементам – галосным або плаўным санорным.

| ***Складовы элемент*** | ***Нескладовы элемент*** |
|---|---|
| галосны гук, | зычны гук, |
| *r̥, *l̥ | *i̯, *u̯ |

Будова старажытнага склада падпарадкоўвалася:
1) прынцыпу нарастаючай гучнасці,
2) закону адкрытага склада,
3) прынцыпу складовага сінгарманізму.

Акрамя гэтага, існавала тэндэнцыя да захавання меж склада.

1. ***Прынцып нарастаючай гучнасці*** вымагаў, каб гукі ў межах склада размяшчаліся ад найменш гучнага гука (шумнага зычнага) да найбольш гучнага (галоснага) (табл. 1).

2. Адкрытым называецца склад, які заканчваецца на галосны гук. ***Закон адкрытага склада*** звязаны з прынцыпам нарастаючай гучнасці: паколькі галосныя – самыя гучныя, то любы склад заканчваўся галосным.

3. ***Прынцып складовага сінгарманізму*** прадугледжваў спалучэнне ў межах аднаго склада гукаў аднароднай артыкуляцыі: гарманічным быў склад, у якім цвёрдыя зычныя спалучаліся з галоснымі непярэдняй зоны (рада) утварэння, а мяккія зычныя – з галоснымі пярэдняй зоны (рада) утварэння (табл. 2).

*Табліца 1*

**Ступені гучнасці фанем праславянскай мовы**

| Ступень гучнасці | Якасная характарыстыка | Фанемы |
|---|---|---|
| 5 | галосныя манафтонгі<br>і дыфтонгі | *a, *ě, *o, *e, *y, *i, *ъ, *ь,<br>*o͡i̯, *o͡u̯, *e͡i̯, *e͡u̯ |
| 4 | санорныя плаўныя | *r, *r’, *l, *l’ |
| 3 | санорныя няплаўныя | *m, *n, *n’,*j, *v |
| 2 | шумныя змычныя | *b, *p, *d, *t, *g, *k, *x[1] |
| 1 | шумныя шчылінныя | *z, *z’, *s, *s’,<br>*ž’, *š’, *č’, *c’,<br>*ž͡’d’ž’, *š͡’č’š’ |

[1] Гук *x быў не змычным, а фрыкатыўным зычным, аднак па ступені гучнасці далучаўся да гэтых фанем.

*Табліца 2*

**Спалучальнасць праславянскіх зычных і галосных у межах склада**

| Цвёрдыя зычныя | | Непярэднія галосныя | Мяккія зычныя | | Пярэднія галосныя |
|---|---|---|---|---|---|
| *b, *p,<br>*d, *t,<br>*v, *m,<br>*z, *s,<br>*r, *l, *n,<br>*g, *k, *x | + | *y, *u,<br>*o, *ъ,<br>*ǫ, *a | *z’, *s’,<br>*r’, *l’, *n’,<br>*ž’, *š’, *č’,<br>*c’,<br>*j,<br>*ž͡’d’ž’, *š͡’č’š’ | + | *i, *ě,<br>*e, *ь,<br>*ę |

Пры неадпавяданні прынцыпу складовага сінгарманізму адбывалася прыстасаванне артыкуляцый зычных да галосных (і часткова галосных да зычных).

Калі ў складзе было некалькі зычных, то іх спалучэнні таксама падпарадкоўваліся пэўным заканамернасцям. Так, двухфанемныя спалучэнні зычных маглі быць двух відаў:

1) *шумны* + *санорны* або *v (*slava, *trudъ, *xvostъ);

2) *шумны* + *шумны*, пры гэтым дзеля гармоніі абодва зычныя або звонкія (*kъgda, *mozgъ), або глухія (*lěpta, *skotъ).

Спалучэнні двух аднолькавых зычных (гемінаты) былі недапушчальнымі.

Трохфанемныя спалучэнні зычных мелі ў пачатку два звонкія або два глухія зычныя, а трэці – абавязкова санорны або *v (*nozdrь, *sklabitisa, *mьrtvъ).

У праславянскай мове дзейнічала ***тэндэнцыя да кансалідацыі склада*** – межы склада імкнуліся да пастаянства пры форма- і словаўтварэнні. Аднак з пачаткам дзеяння закону адкрытага склада гэта тэндэнцыя перастала быць актуальнай.

| Да пачатку дзеяння закону адкрытага склада | Ва ўмовах дзеяння закону адкрытага склада |
|---|---|
| *Формаўтварэнне* | |
| Н. *gor-a; | Н. *go-ra; |
| Р. *gor-y; | Р. *go-ry; |
| Д. *gor-ě; | Д. *go-rě; |
| В. *gor-ǫ; | В. *go-rǫ; |
| Т. *gor-ojǫ; | Т. *go-ro-jǫ; |
| М. *gor-ě; | М. *go-rě; |
| Кл. *gor-o | Кл. *go-ro |
| *Словаўтварэнне* | |
| *gor-ьn-ъ | *go-rь-nъ |

## Заданні

Заданне 1. Падзяліце агульнаўсходнеславянскія словы на склады ў адпаведнасці са старажытнымі законам і прынцыпамі складападзелу.

**братъ, гърньчаръ, жьрнъвъ, заꙗць, истина, клѣтъка, лъжька, огнь, сватъ, сторона.**

Заданне 2. Знайдзіце словы з няправільным падзелам на склады. Памылкі выпраўце.

**вы-сокъ, гѹ-м-ьно, зъло-ба, игъ-ла, ко-ло-ко-лъ, кра-сь-нъ, кънѧ-зь, л-ѹкъ, рать, пьшє-но, пъ-ти-ца, сто-льць, тьма, оѹ-хо, чє-лѧ-дь.**

Заданне 3. Адзначце ступені гучнасці ў складах.

**за-оѹ-трь-нꙗ, змє-ꙗ, зно-и, и-звѣ-сти-ѥ, и-ко-на.**

*Узор*: хлѣбъ – х$^{2}$л$^{4}$ѣ$^{5}$–б$^{2}$ъ$^{5}$.

Заданне 4. Адкажыце, ці маглі ў агульнаўсходнеславянскай мове пачатковага перыяду існаваць у межах аднаго склада наступныя спалучэнні зычных. Адказ патлумачце.

а) **нд, гн, рс, кс, хв, мж, зв, лн, вл;**

б) **брз, трв, нск, вст, стр.**

З а д а н н е 5. Растлумачце існаванне ў ранніх стараславянскіх тэкстах напісанняў, у якіх ёсць склады, што не адпавядаюць прынцыпу нарастаючай гучнасці.

**ангєлъ, архангєлъ, архиєреи.**

Звяртайцеся да этымалагічных слоўнікаў.

З а д а н н е 6. З «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы» выпішыце словы са спалучэннямі **гр, др, тр, пл, кл**. Падзяліце словы на склады ў адпаведнасці са старажытнымі законам і прынцыпамі.

*Узор*: **грѣ-хъ, вє-дро.**

З а д а н н е 7. Патлумачце ўзнікненне назоўнікаў *недра* (руск.), *нетры* (бел.), арыентуючыся на прыведзеныя ніжэй праславянскія словаформы:

*jadro, *vъn jadra > *vъ nědra.

*Для даведкі*: *jadra (мн. л.) – стрж. ‘глыбіня, лона’, *vъn – прыназоўнік.

З а д а н н е 8. Адкажыце, лёс якой фанетычнай з’явы, звязанай з дзеяннем закону адкрытага склада, праілюстраваны ў наступных словаформах:

*donga > *dǫga > **дѫга** > *дуга*.

З а д а н н е 9. Патлумачце той факт, што ў старажытнай назве беларускага горада *Мсціслаў* (вядомы з 1135 г.) ёсць спалучэнне зычных (дзе **ц** < **т**), якое не адпавядае прынцыпу нарастаючай гучнасці.

З а д а н н е 10. Ва ўрыўку з тэксту Астрамірава евангелля (1056–1057) знайдзіце слова, у якім ёсць склад, утвораны па мадэлі *фрыкатыўны зычны* + *выбухны зычны* + *плаўны санорны* + *галосны пярэдняй зоны ўтварэння*.

**тогда рєчє ц҃рь слоугамъ съвѧзавъшє ѥмоу рѫцѣ и нозѣ. възьмѣтє и и въврьзѣтє. въ тьмоу кромѣшьнѭѭ. тоу бѫдєть плачь. и скрьжєтъ зѫбомъ мънози бо сѫть зъвании. мало жє избьраныих.**

## ТЭСТ

**1.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Старажытны склад мог утварацца:

1) з некалькіх галосных;
2) некалькіх шумных зычных;
3) аднаго галоснага;
4) аднаго шумнага зычнага;
5) насавога санорнага;
6) са спалучэння *галосны* + *зычны*;
7) спалучэння *зычны* + *галосны*.

**2.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

У старажытнасці складаўтваральнымі элементамі маглі выступаць зычныя:

1) *r; 2) *m; 3) *j; 4) *l; 5) *n.

**3.** Састаўце чатыры суадносныя пары (лічба – літара).

| | |
|---|---|
| 1. Закон адкрытага склада... | а) дазваляе спалучэнне мяккіх зычных з галоснымі пярэдняй зоны ўтварэння, цвёрдых – з галоснымі непярэдняй зоны ўтварэння; |
| 2. Прынцып нарастаючай гучнасці... | б) імкненне склада стаць самастойнай, цэльнай, закончанай адзінкай, якая захоўвае межы пры слова- і формазмяненні; |
| 3. Прынцып складовага сінгарманізму... | в) рэгулюе размяшчэнне гукаў у межах склада: ад найменш да найбольш гучнага; |
| 4. Тэндэнцыя да кансалідацыі склада... | г) вымагае, каб склад абавязкова заканчваўся на галосны гук. |

**4.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Знікненне зычнага ў праславянскай словаформе *vĭlkŏs > *vьlkъ > *vъlkъ абумоўлена дзеяннем:

1) прынцыпу складовага сінгарманізму;
2) закону адкрытага склада;
3) прынцыпу нарастаючай гучнасці;
4) тэндэнцыі да кансалідацыі склада.

**5.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Спалучэнне гукаў *[pski] ў межах аднаго склада ў старажытную пару не было магчымым, таму што супярэчыла:

1) прынцыпу складовага сінгарманізму;
2) закону адкрытага склада;
3) прынцыпу нарастаючай гучнасці;
4) тэндэнцыі да кансалідацыі склада.

**6.** Адзначце правільны адказ.

Існаванне ва ўсходніх славян у старажытную пару (Х ст.) антрапонімаў накшталт **Алєксандръ**, **Євдокимъ**, **Євлампиꙗ**, у якіх падкрэсленыя спалучэнні зычных не адпавядаюць прынцыпу нарастаючай гучнасці, тлумачыцца:

1) узнікненнем устаўнога зычнага;
2) неславянскім паходжаннем гэтых антрапонімаў;
3) першапачатковым існаваннем паміж зычнымі галоснага гука, якія пазней страціўся.

**7.** Адзначце правільны адказ.

Патрабаванням да старажытнага склада і складападзелу адпавядае форма назоўнага склону множнага ліку назоўніка **пирогъ**:

1) **пир-оз-и**; 3) **пи-ро-зи**;
2) **пир-о-зи**; 4) **пи-р-о-зи**.

**8.** Адзначце правільны адказ.

У праславянскім інфінітыве *vendnonti адбыліся змены, выкліка273ныя патрабаваннямі да будовы і структуры склада: спрашчэнне зычнага, узнікненне насавых галосных і іх пазнейшая дэназалізацыя. Якая сучасная форма інфінітыва адпавядае яму?

1) ва́дзіць; 4) вудзіць;
2) ведаць; 5) вянуць.
3) вэндзіць;

**9.** Адзначце правільны адказ.

Вядома, што назоўнікі *нутро* і *ўтроба* паходзяць ад аднаго і таго ж праславянскага кораня *ǫtrъ. Пачатковы [н] у слове *нутро* з'явіўся ў выніку:

1) перараскладання асновы слова на мяжы з прыназоўнікам;
2) страты рэдукаванага галоснага;
3) узнікнення прыстаўнога гука.

**10.** Падзяліце наступныя словы на склады ў адпаведнасці са старажытнымі законам і прынцыпамі складападзелу:

1) **догънати**; 6) **искра**;
2) **дозьрѣти**; 7) **кисть**;
3) **звѣриѥ**; 8) **кръвь**;
4) **звѣздочьтьць**; 9) **толокъно**;
5) **змеи**; 10) **шьвьць**.

Тэма 2

# Змены ў групах зычных, выкліканыя асаблівасцямі будовы склада

Дзеянне закону адкрытага склада, прынцыпу нарастаючай гучнасці і прынцыпу складовага сінгарманізму абумовіла асіміляцыйныя і дысіміляцыйныя працэсы ў межах старажытнага (праславянскага) склада, а таксама з'явы спрашчэння і сцяжэння гукаў.

***Асіміляцыя*** – артыкуляцыйнае прыпадабненне гукаў адзін да другога, у выніку чаго павялічваецца іх фанетычнае падабенства.

***Дысіміляцыя*** – распадабненне артыкуляцыі двух ці некалькіх зычных гукаў у межах слова, страта імі фанетычнага падабенства.

Праявы асіміляцыі і дысіміляцыі можна назіраць на прыкладзе лёсу спалучэнняў *tt і *dt у складзе формаў інфінітыва, якія заўсёды заканчваліся на *ti.

Спалучэнне *tt падпала пад наступныя змены: распадабненне аднаго з выбухных *t (дысіміляцыя) з наступным ператварэннем яго ў фрыкатыўны *s:

*metti > *mesti (*месці*),
*pletti > *plesti (*плесці*).

У спалучэнні *dt назіраліся такія змяненні: выбухны звонкі *d быў асіміляваны наступным глухім *t, у выніку чаго *d > *t, а далей адбыліся тыя ж змены, што і са спалучэннем *tt:

*kladti > *klatti > *klasti (*класці*),
*vedti > *vetti > *vesti (*весці*).

У выніку ўзніклі чаргаванні ў каранях дзеяслоўных формаў:

[с'] // [т]: *месці – мяту*,
[с'] // [д]: *весці – вяду*.

Такім чынам, асіміляцыйны і дысіміляцыйны працэсы маглі паслядоўна адбывацца ў адной і той жа словаформе:

а) асіміляцыя па глухасці ў групе *dt:

*ĕdti > *ĕtti;

б) дысіміляцыя па спосабе вымаўлення ў групе *tt:

*ĕtti > *ĕsti (> ѣсти > *есці*).

***Спрашчэнне*** – гэта знікненне аднаго зычнага з групы для таго, каб складападзел пайшоў па-іншаму і выконваліся патрабаванні да будовы склада: *ĕd-mь >*ĕ-mь (ѣмь > *ем*).

Спрашчэнне адбывалася ў наступных групах зычных:

а) *выбухны* (*b, *p, *d, *t) + *насавы* (*n, *m) / *фрыкатыўны* (*s, *z, *v): *bn, *bm, *pn, *pm, *dn і інш.

У гэтых групах праславянскіх зычных выпаў адзін гук:

*top-non-ti > *to-nǫ-ti (*тануць*).

У выніку з'явіліся гістарычныя чаргаванні зычнага з нулём гука:

*тапіць – тануць* ([п] // Ø) і інш.;

б) *выбухны пярэднеязычны* (*d, *t) + *санорны* (*l, *m): *dl, *tl, *dm.

Змены ў гэтых спалучэннях зычных адбываліся ў пачатковы перыяд існавання агульнаўсходнеславянскай мовы. Спалучэнні *dl, *tl страцілі выбухны гук *d або *t у наступных формах:

- асобных назоўнікаў:

*gъrdlo > *gъrlo (*горла*),
*sadlo > *salo (*сала*);

- (былых) дзеепрыметнікаў на *l:

*kladla > *klala (*клала*, параўн.: *кладу*),
*pletla > *plela (*пляла*, параўн.: *пляту*);

- колькаснага лічэбніка *сем* і парадкавага *сёмы*:

*sedmь > *semь (*сем*), *sedmъjь > *semъjь (*сёмы*).

Спрашчэнне ў групах *dl, *tl закранула не ўсе праславянскія дыялекты: *dl, *tl захаваліся ў польскай мове: *gardło*, *malowidło*, *mydło*, *pletła*, *jodła*, *szedła* і інш.

У сучаснай беларускай мове наяўнасць спалучэнняў *дл* і *тл* у некаторых словах можа быць патлумачана некалькімі прычынамі:

а) польскамоўным уплывам: *клепадла*, *павідла*, *страшыдла* і інш.;

б) узнікненнем у выніку страты рэдукаваных, што адбывалася пазней за разглядаемыя фанетычныя змяненні:

*дліна* < дълина < *dьlina,
*пятля* < пѧтьлꙗ < *pętьla;

в) знаходжаннем на стыку марфем (кораня і суфікса): *балбатлівы, знаходлівы, клапатлівы* і інш.

***Сцяжэнне*** – замена двух аднолькавых зычных гукаў на адзін. Гэту з'яву можна назіраць на прыкладзе формы дзеяслова *ясі*:

(*ĕdti >) *ĕsti – *ĕssi (2-я ас., адз. л.) > *ĕsi (*ясі*).

Рэалізацыя закону адкрытага склада і прынцыпу нарастаючай гучнасці ў канцавым складзе абумовіла страту праславянскіх зычных на канцы слова:

*kamnĭs > *komonь > *konь > **конь** > *конь*.

Неабходнасць пераносу складападзелу для ўтварэння адкрытага склада выклікала змены праславянскіх спалучэнняў *kt, *gt перад *i і *ь, вынікі якіх у розных праславянскіх дыялектах былі неаднолькавымі. Так, ва ўсходнеславянскіх гаворках *kt, *gt перад *i і *ь далі *č', у заходнеславянскіх – *c', у паўднёваслаўянскіх – *št':

*kt: *noktĭs > *noktь > **ночь** > *ноч*

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| ***kt** | → | усх.-сл. | *č' [ч'] (>[ч]) | бел. | *ноч* |
| | → | зах.-сл. | *c' [ц'] (>[ц]) | польск. | *noc* |
| | → | паўдн.-сл. | *št' [шт'] | ст.-сл. | **нощь** |

Выразна прасочваюцца вынікі падобных змен у інфінітывах з асновамі на заднеязычныя гукі:

*gt: *bĕgti > **бєчи** > *бегчы*

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| ***gt** | → | усх.-сл. | *č' [ч'] (>[ч]) | бел. | *бегчы* |
| | → | зах.-сл. | *c' [ц'] (>[ц]) | польск. | *biec* |
| | → | паўдн.-сл. | *št' [шт'] | ст.-сл. | **бѣщи** |

У беларускай мове пад уздзеяннем формаў накшталт *магу, стрыгу* ў інфінітывах аднавіўся заднеязычны: *магчы, стрыгчы* (дзейнічае марфалагічная аналогія).

## ЗАДАННІ

З а д а н н е 1. Параўнайце праславянскія словы і словы розных індаеўрапейскіх моў. Патлумачце змены на канцы праславянскіх слоў.

| Праславянская мова | Санскрыт/старажытнаіндыйская мова | Лацінская мова | Літоўская мова | Гоцкая/нямецкая мова |
|---|---|---|---|---|
| *domъ | dámas | *domus* | *dimstis* ('маёнтак, двор') | |

*Заканчэнне табліцы*

| Праславянская мова | Санскрыт/старажытнаіндыйская мова | Лацінская мова | Літоўская мова | Гоцкая/нямецкая мова |
|---|---|---|---|---|
| *synъ | sūnúş | | *sūnùs* | *sunus* |
| *gostь | | *hostis* (‘чужаземец, вораг’) | | *Gast* |
| *ognь | agniş | *ignis* < *egnis* | *ugnìs* | |
| *sъnъ (<*sъpnъ) | svápnas | *somnus* | *sãpnas* | |

З а д а н н е 2. Укажыце карані ў прыведзеных ніжэй роднасных словах, карыстаючыся «Марфемным слоўнікам беларускай мовы» А. М. Бардовіча і Л. М. Шакуна (Мінск, 1989).

Заснуць, засынаць, санлівасць, соннік, соня, спальня, спаннё, спаць.

Патлумачце варыянтнасць каранёў, зыходзячы з этымалогіі назоўніка ***сон***: прасл. *sъnъ паходзіць з *sъpnъ, якое роднаснае з *sъpati.

З а д а н н е 3. У прапанаваных праславянскіх інфінітывах растлумачце змены ў групах зычных, якія спрасціліся. Падбярыце сучасныя беларускія адпаведнікі, а таксама аднакарэнныя словы, у якіх гучыць зычны, што спрасціўся ў праславянскіх інфінітывах:

*dvignǫti, *ględnǫti, *gybnǫti.

*Узор*: *topnǫti > *tonǫti – тануць; тапіць, тапелец.

З а д а н н е 4. Укажыце, ад якіх дзеясловаў утварыліся прыведзеныя ніжэй праславянскія назоўнікі, і запішыце іх па правілах X ст.

*vědtĭs, *nenavidtĭs, *stradtĭs.

*Узор*: *mьst-ĭs < mьst-i-ti; **мьсть, мьстити**.

Патлумачце гістарычныя змены, што адбыліся з гэтымі формамі.

З а д а н н е 5. Параўнайце прапанаваныя словаформы. Які вывад можна зрабіць адносна характару і часу ўзнікнення гэтага гістарычнага чаргавання зычных?

| Беларуская мова | Польская мова | Старaславянская мова |
|---|---|---|
| *плесці – пляту*<br>*месці – мяту*<br>*весці – вяду* | *pleść – plotę*<br>*mieść – miotę*<br>*wieść – wiodę* | **плести – плетѹ**<br>**мести – метѹ**<br>**вести – ведѹ** |

З а д а н н е 6. У праславянскай дзеяслоўнай форме *met-l-ъ (*met-ti) у паўднёва- і ўсходнеславянскіх гаворках адбылося спрашчэнне зычнага *t, заходнеславянскім гаворкам гэта з'ява невядома:

*metlъ → бел. *мёў* (дзе [ў] < [лъ])
*metlъ → ст.-сл. **мелъ**
*metlъ → польск. *miotł*

Як патлумачыць, што ў назоўніку *мятла* спалучэнне зычных [тл] ёсць?

З а д а н н е 7. Прачытайце верш А. Разанава. Патлумачце адрозненні ў лёсе праславянскага спалучэння *dl у розных славянскіх мовах.

**Вілы**

Праславянскія v i d l a справядлівыя: што б яны ні рабілі, яны заўсёды робяць для кагосьці – для «вы».

Сербскія в и л е, нібы пракудлівыя німфы-вілы, штохвілі ўхіляюцца ад вайны, а ўхіліўшыся ад вайны, ухіляюцца і ад міру.

Украінскія в и л а працавітыя, як валы; але калі яны маюць сілу, не маюць «вільності», калі маюць «вільность», не маюць сілы.

Беларускія в і л ы, ці яны ўбіваюцца ў гной, ці ўвіхаюцца з сенам, усялякі раз мусяць ведаць, у якім баку Вільня.

Польскія w i d ł y відушчыя: яны глядзяць у ваду Віслы, а бачаць, што робіцца далёка ў наваколлі.

Рускія в и л ы, куды б ні вялі, заўсёды апынаюцца перад немінучым выбарам: *или – или*.

З а д а н н е 8. Дакажыце, што словы *сесці* і *сядло* – роднасныя, для чаго аднавіце праформы і растлумачце фанетычныя змены ў іх (формы інфінітыва заканчваліся на *ti).

Чаму ў сучасным слове *сала* (< *sadlo) няма спалучэння *дл*, а ў слове *сядло* – ёсць?

З а д а н н е 9. Прачытайце частку слоўнікавага артыкула (ЭСБМ. Т. 1. С. 431).

**Бы́дла** (засведчана з XV ст.; Булыка, запазыч.). Укр. *бúдло* (з XV ст.), рус. дыял. *быдло*. Запазычанне з польск. *bydło* 'тс' (*by-dlo*, да *byti* 'быць', гл. Слаўскі, 1, 52).

У ніжэйпрыведзеным сказе ў падкрэсленай форме гэтага назоўніка адбылася змена ў групе зычных. Што гэта за змена і чым яна тлумачыцца?

**мусите простыхъ овочов поживат яко <u>бытло</u>** (Алекс., 34 б).

З а д а н н е 10. Вядома, што сучасныя ўсходнеславянскія формы парадкавага лічэбніка *сёмы* (бел.), *седьмой* (руск.), *сьомий* (укр.) узыходзяць да *sedm-ъjь. Чым тлумачацца несупадзенні ў каранях гэтых формаў? Ці маюць месца аналагічныя несупадзенні ў каранях усходнеславянскіх формаў адпа-

веднага пэўнакалькаснага лічэбніка? Параўнайце са стараславянскімі формамі **седмь – седмъ** і польскімі *siedem – siódmy*.

З а д а н н е 11. Слова *лесвіца* паходзіць ад дзеяслова *лезці* (ЭСБМ. Т. 6. С. 289) і ў праславянскай мове мела выгляд *lěstvica, у стараславянскай – **лѣствица**. Якія фанетычныя змены адбыліся ў праформе гэтага слова?

З а д а н н е 12. Беларускія словы *ноч*, *накцюрн* і рускае *нетопырь* паходзяць ад аднаго і таго ж кораня *nokt-:

*noktĭs > *noktь > **ночь** > *ноч*,

*nekt- (< *nokt-) + *per-/*por- (параўн.: *пяро, пары́ць, пырхаць*) > *нетопырь* (літаральна ‘які лётае ўначы’),

лац. *nox*, *noctis* (Р. скл.) > лац. *nocturnus* > фр. *nocturne* ‘начны’ > *накцюрн*.

Растлумачце лёс спалучэння *kt у аналізуемых словах.

## ТЭСТ

**1.** Адзначце правільны адказ.

У праформе *nosdrja (ад *nos-) назоўніка *ноздра* прадстаўлена наступная фанетычная змена зычных:

1) дысіміляцыя; 3) спрашчэнне;
2) асіміляцыя; 4) сцяжэнне.

**2.** Адзначце правільны адказ.

Вядома, што праславянскі назоўнік *gorstь ўтвораны пры дапамозе суфікса *-t-(ь) ад кораня *gort- (параўн.: *гартаць*). У корані ўтворанага слова прадстаўлена наступная фанетычная змена:

1) дысіміляцыя; 3) спрашчэнне;
2) асіміляцыя; 4) сцяжэнне.

**3.** Адзначце правільны адказ.

У праславянскай форме інфінітыва *tisknonti (параўн.: назоўнік *tiskъ) адбылася наступная змена ў групе зычных:

1) дысіміляцыя; 3) спрашчэнне;
2) асіміляцыя; 4) сцяжэнне.

**4.** Адзначце правільны адказ.

Праславянскаму назоўніку *ob-voz-ъ адпавядае сучаснае беларускае слова:

1) абуза; 3) абоз;
2) абавязак; 4) давоз.

**5.** Адзначце правільны адказ.

Вядома, што ў індаеўрапейскай словаформе *louk-s-nā спрасціліся два гукі ў групе зычных. Гэтай форме адпавядае сучаснае слова:

1) лука;
2) луна;
3) лунка;
4) луска.

**6.** Пастаўце праславянскія формы інфінітыва *класці* ў адпаведнасці з парадкам змен у групе зычных.

1) *kla-tti;
2) *kla-sti;
3) *klad-ti;
4) *kla-dti.

**7.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Гістарычна да праславянскага кораня інфінітываў *věd-ě-ti/*věd-a-ti ўзыходзяць словы:

1) абвестка;
2) абводка;
3) адведкі;
4) ведзьма;
5) вястун;
6) звада;
7) нявеста;
8) перавод;
9) разведка;
10) развесці.

**8.** Суаднясіце прапанаваныя групы слоў з тлумачэннямі ўтварэння ў іх спалучэнняў зычных *дл*, *тл*.

1) адліга, здагадлівы, клапатлівы, надлом, падліва, спагадлівы;

2) вяндліна, грабавідла, кавадла, модлы;

3) кудлы, мятла, пятля, святло, сядло;

а) наяўнасць спалучэнняў зычных *дл* у гэтай групе слоў тлумачыцца тым, што яны запазычаны з польскай мовы;

б) наяўнасць спалучэнняў зычных *дл*, *тл* у гэтай групе слоў тлумачыцца тым, што названыя спалучэнні ўзніклі на месцы *дъл*, *тъл* пасля страты рэдукаваных галосных;

в) наяўнасць спалучэнняў зычных *дл*, *тл* у гэтай групе слоў тлумачыцца тым, што названыя спалучэнні знаходзяцца на стыку марфем.

**9.** Размясціце праславянскія формы назоўніка *племя* ў паслядоўнасці, адпаведнай парадку змен, звязаных з перабудовай складоў.

1) *ple-dmen;
2) *pled-men;
3) *ple-mę;
4) *ple-men.

**10.** Размясціце праславянскія формы інфінітыва *магчы* ў паслядоўнасці, адпаведнай парадку змен групы зычных.

1) *moč'i;
2) *mogti;
3) мочи;
4) магчы.

### Тэма 3

# Пачатак слова: галосныя і пратэтычныя зычныя

У пачатку слова ў праславянскай мове ў розныя перыяды яе існавання маглі знаходзіцца розныя галосныя. Пашырэнне тэндэнцыі да нарастаючай гучнасці склада паўплывала на ўзнікненне пратэз – прыстаўных зычных гукаў *v і *j. Яны павінны былі нейтралізаваць магчымы хіатус (спалучэнне двух галосных гукаў побач), які ўзнікаў, калі папярэдняе слова заканчвалася, а наступнае пачыналася на галосны гук.

Перад пачатковым *у, а таксама рэдукаваным *ъ ў праславянскі перыяд узнік пратэтычны *v:

*высокі* < *vysokъ – параўн.: і.-е.*ūpsokъ, грэч. *hypsi*,
*вопль* <*vъrlь – параўн.: *vъzъpiti.

Перад рэдукаваным пярэдняй зоны ўтварэння развіўся пратэтычны *j:

**имꙋ** (форма дзеяслова **имати**) < *jьmu – *vъzьmu (*вазьму*).

Пратэтычны *j развіўся таксама перад пачатковымі *ě, *e:

*ēxati > *ěxati > *jěxati > **ѣхати** > *ехаць*,
*elь > *jelь > **єль** > руск. *ель*, бел. *елка*.

У пісьмовы перыяд пратэтычны праславянскі *j перад пачатковымі *ě, *e звычайна не адлюстроўваўся (не меў спецыяльнай графічнай формы).

Перад пачатковым *а ў праславянскіх дыялектах пратэтычны *j развіўся непаслядоўна – у стараславянскай мове былі пашыраны формы і без *j:

*arьmo > *jarьmo > **ꙗрьмо** > *ярмо*,
але ст.-сл. **авити** – параўн.: **ꙗвити**, **агнєць** – параўн.: *ягня*.

Пад уплывам царкоўнаславянскага пісьменства формы з пачатковым *а без пратэтычнага *j распаўсюдзіліся і ў кніжна-літаратурнай мове ўсходніх славян.

У канцы праславянскага і ў пачатковы агульнаўсходнеславянскі перыяд пратэтычны *j развіваецца перад *ę:

*ęzykъ > *językъ > **ѧзыкъ** > *язык*.

Паступова пратэзы ператвараюцца ў частку кораня.

У агульнаўсходнеславянскай мове ў абсалютным пачатку слова маглі знаходзіцца галосныя гукі *і, *ǫ, *о, *u (адносна двух апошніх ніжэй зробім некалькі заўваг):

*i: *igъla > **игла** > *ігла, іголка,*
*ǫ: *ǫda > **ѹда** > бел. *вуда*, руск. *удочка,*
*o: *olenь > **олєнь** > *алень,*
*u: *ugъ > **ѹгъ** ('поўдзень').

Традыцыйна лічыцца, што праславянскае пачатковае спалучэнне *je захавалася ў паўднёва- і заходнеславянскіх мовах і спрацілася ў *о ў мовах усходнеславянскіх[1]. Часцей за ўсё гэта адбывалася, калі ў наступным складзе выступаў галосны пярэдняй зоны ўтварэння *і ці *е. Параўн.:

бел. *возера,* руск. *озеро* – балг. *езеро* – польск. *jezioro,*
бел. *восень,* руск. *осень* – балг. *есень* – польск. *jesień,*
бел. *адзін,* руск. *один* – балг. *еден* – польск. *jeden.*

Аднак выразна раскрыць фанетычныя ўмовы, пры якіх адбывалася гэта змяненне, аказваецца нездзяйсняльнай задачай. А. Я. Супрун разглядаў усходнеславянскія формы як прыклады магчымых дысіміляцыйных змен у слове[2]. Паводле іншага меркавання[3], ужо ў самой праславянскай мове існавалі словы-дублеты з па-рознаму аформленым пачатковым складам накшталт *osenь/*esenь.

Перад пачатковым *u ў паўднёваславянскіх гаворках, прынамсі ў стараславянскай мове, узнік пратэтычны *j. Параўн.:

ст.-сл. **ютрєнꙗ, югъ** – усх.-сл. **ѹтрєнꙗ, ѹгъ.**

---

[1]*Янкоўскі Ф. М.* Гістарычная граматыка беларускай мовы. Мінск, 1989. С. 86.

[2]*Супрун А. Я.* Праславянский язык. Минск, 1993. С. 32.

[3]*Иванов В. В.* Историческая грамматика русского языка. М., 1990. С. 133–134.

З пашырэннем хрысціянства на землях усходніх славян распаўсюджваюцца творы на царкоўнаславянскай мове, пад уплывам якой і ў жывой народнай гаворцы паступова замацоўваюцца формы з пачатковым *ju.

## Заданні

З а д а н н е 1. Параўнайце некаторыя індаеўрапейскія назоўнікі, што называюць жывёлу выдру. Якую можна зрабіць выснову пра час і ўмовы ўзнікнення пратэзы ў славянскіх адпаведніках? Аднавіце праславянскую форму гэтага назоўніка (назоўнікі такога тыпу мелі праславянскую аснову на *ā).

| Усходнеславянскія мовы | Заходнеславянскія мовы | Паўднёваславянскія мовы | Неславянскія мовы |
|---|---|---|---|
| бел. *выдра*<br>руск. *выдра*<br>укр. *видра* | польск. *wydra*<br>в.-луж. *wudra*<br>н.-луж. *hudra*<br>чэшск. *vydra*<br>слвц. *vydra* | балг. *ви́дра*<br>макед. *ви́дра*<br>славенск. *vídra*<br>сербск. *ви̏дра*<br>харв. *ви̏дра* | ст.-інд. udráh<br>‘вадзяная жывёла’<br>грэч. ὕδρος, ὕδρα<br>‘гідра, вадзяная змяя’<br>лат. *ûdris*<br>літ. *ū́dra*<br>авест. udrā |

З а д а н н е 2. Вядома, што назоўнік *вымя* мае паралелі ў розных старажытных індаеўрапейскіх мовах:

| | |
|---|---|
| бел., руск. *вымя*<br>укр. *виме* | ст.-інд. *ū́dhar<br>лац. *ūber*<br>ст.-в.-ням. ûtar<br>ст.-англ. úder |
| польск. *wymię*<br>чэшск. *wýmě* | |
| балг., макед. *ви́ме* | |

Растлумачце паходжанне пачатковага склада *вы-* ў славянскіх формах.

З а д а н н е 3. Што аб'ядноўвае назоўнікі *вугор* і *вуж* у фанетычным афармленні і ў семантычных адносінах? Для адказу выкарыстайце прыведзеныя ніжэй звесткі з ЭСБМ (Т. 2. С. 183, 209).

**Вугор.** Рус. *угорь*, ц.-слав. **жгорищь** (позняе), польск. *węgorz*, каш. *wangorz*, чэш. *úhoř*, славац. *úhor*, в.-луж., н.-луж. *hugoŕ*, серб.-харв. *у̏гор*,

славен. *ogór*. Прасл. *ǫgorь. Роднасныя: ст.-прус. *angurgis* ‘вугор’, літ. *ungurỹs* ‘тс’ (з **angurỹs*). Лічаць, што *вугор* роднаснае *вуж* (гл.) і іншым словам таго ж кораня; параўн. літ. *angìs* ‘вуж, змяя’, лац. *anguis* ‘змяя’, *anguilla* ‘вугор’, ст.-в.-ням. *uns* ‘вуж’, ст.-ірл. *esc-ung* ‘вугор’ (літаральна ‘вадзяная змяя’). У гэтым выпадку значэнне *ǫgorь ‘падобны на змяю’.

**Вуж.** Рус. *уж, ужа*, укр. *вуж*, ст.-рус. *вужь*, польск. *wąż, węża*, чэш., славац. *užovka*, н.-луж. *huž* ‘змяя, чарвяк’, славен. *vôž*. Прасл. *ǫžь. Роднаснымі з’яўляюцца літ. *angìs*, він. скл. *añgį* ‘ядавітая змяя’, лат. *ùodzs, uôdze* ‘гадзюка’, ст.-прус. *angis* ‘змяя’, лац. *anguis* ‘змяя’, ст.-в.-ням. *unc* ‘змяя’, ірл. *esc-ung* ‘вугар’ (г. зн. вадзяная змяя).

З а д а н н е 4. Прачытайце і высветліце, пра якое слова ідзе гаворка. Патлумачце фанетычную адметнасць яго ўтварэння. Укажыце першапачатковае і сучаснае лексічнае значэнне гэтага слова ў славянскіх мовах (гл.: ЭСБМ. Т. 2. С. 52).

Праславянская форма гэтай лексемы – *onĭa – роднасная старажытнаіндыйскім словам anas ‘подых’, aniti ‘дыхае’, грэчаскаму avemos ‘вецер, подых’, лацінскаму animus ‘дух’, anima ‘душа’ і інш.

З а д а н н е 5. Патлумачце фанетычныя змены на пачатку слова *ajьce. Назавіце іншыя словы, у якіх адбыліся падобныя фанетычныя змены.

З а д а н н е 6. Прааналізуйце формы назоўніка *асетр* у розных славянскіх мовах. Як тлумачыцца адрозненне ў афармленні іх пачатковых складоў? Якія вядомыя вам словы маюць такую ж асаблівасць?

| Усходнеславянскія мовы | Заходнеславянскія мовы | Паўднёваславянскія мовы |
|---|---|---|
| бел. *асетр* (*асяцёр*, *асётр*) | польск. *jesiotr* | балг. *есетра* |
| руск. *осётр* (*осётер*, *осетер*) | в.-луж. *jasotr* | макед. *есетра* |
| укр. *осетер* (*осетр*) | н.-луж. *jesotr* | славенск. *jesèter* |
| | чэшск., слвц. *jesetr* | сербск., харв. *jèсетра* |

З а д а н н е 7. Адзначце сказ, у якім падкрэсленае слова адлюстроўвае паўднёваславянскую фанетычную асаблівасць у афармленні пачатковага склада.

1) **за нечистые положены бꙋдꙋть… кроликъ тхоръ норⷭка <u>ꙗщерⷭка</u> кротъ и ѡжикъ** (Скар. КЛ, 22 б);

2) **глаголѫть сѫшта <u>аштера</u> здѣлена** (патрэбна – **зелена**) **нь нѣстъ зависти** (патрэбна – **завистливыхъ**) **зеленаꙗ** (патрэбна – **зеленѣи**) (Супр. 399, 24).

З а д а н н е 8. Адзначце сказ, у якім падкрэсленае слова адлюстроўвае паўднёваславянскую фанетычную асаблівасць у афармленні пачатковага склада.

1) **приде уноша… реком по истинѣ іже зѣло тя люблю и олижьды тя вижю акы огньнъ буду вьсь** (Сін. патэрык, 116, X–XII стст.);

2) **веселися юношо во младости твоеи** (Скар. ЕК, 16 б).

З а д а н н е 9. Якая пратэза ўзнікла ў праславянскай словаформе *ēndro? Раскажыце пра фанетычныя змены ў гэтым слове.

З а д а н н е 10. З дапамогай «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы» размяркуйце ніжэйпрыведзеныя словы па групах у адпаведнасці з паходжаннем гука, абазначанага літарай *я*.

1) я < *ja; 2) я < *ję; 3) я < *jě; 4) я < *je.

Яблык, явар, ягня, ядок, язва, язда, язык, яліна, ясень, яхідна, ячмень.

## ТЭСТ

**1.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

У агульнаўсходнеславянскай мове пратэзы ўзнікалі перад галоснымі:

1) *a; 3) *y; 5) *ę; 7) *ъ; 9) *i;
2) *u; 4) *o; 6) *ǫ; 8) *ь; 10) *ě.

**2.** Адзначце правільны адказ.

У праславянскай мове пратэза ўзнікла ў наступнай назве рыбы:

1) акунь; 3) вобла; 5) уклейка;
2) асетр; 4) гарбуша; 6) карась.

**3.** Адзначце правільны адказ.

Падкрэсленае слова адлюстроўвае паўднёваславянскую фанетычную асаблівасць у афармленні пачатковага склада ў сказе:

1) **оувы мнѣ свѣтѣ ѡчию моею. и сиꙗніє зарѧ лица моего. оудержанꙗ оуности моеꙗ** (Чэцця, 238);

2) **Во юности не хотяще трꙋждатисꙗ во старости злѣ постраждешь** (Алекс. 1697, 102).

**4.** Адзначце правільны адказ.

Лішнім сярод ніжэйпрыведзеных назоўнікаў з’яўляецца:

1) яблык; 3) яліна; 5) явар.
2) ягада; 4) ясень;

**5.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

У агульнаўсходнеславянскай мове ў абсалютным пачатку слова маглі знаходзіцца галосныя:

1) *а; 3) *у; 5) *ę; 7) *ъ; 9) *і;
2) *u; 4) *о; 6) *ǫ; 8) *ь; 10) *ě.

**6.** Адзначце правільны адказ.

Падкрэсленае слова адлюстроўвае паўднёваславянскую фанетычную асаблівасць у афармленні пачатковага склада ў сказе:

1) **єлєѡпомазаніє єстъ пѧтый сакраментъ, коли ієрей хорого намазȣєтъ єлєѡмъ с҃тымъ въ здравіє** (Зб. вып., 47 б);

2) **возмєшъ… зъ ѡлѣю намазова"ıа, покропишъ аарона** (Біблія, 146).

**7.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Ва ўрыўку **въ єсєни, подъ часъ самоє поры подглıаданьıа пчолъ, вы-дарто… пщолъ чєтвєры** (АВК, XVIII, 484, 1670) афармленне пачатковага склада падкрэсленага слова адлюстроўвае фанетычную асаблівасць, уласцівую мовам:

1) заходнеславянскім – параўн.: польск. *jesień*;
2) паўднёваславянскім – параўн.: балг. *есента́*;
3) усходнеславянскім – параўн.: бел. *восень*;
4) неславянскім.

**8.** Адзначце правільны адказ.

Роднасныя словы *елка, ёлка, ельнік, яліна, ядловец, яловец* узыходзяць да пачатковай праславянскай формы кораня:

1) *el-; 3) *jedl-; 5) *jadl-.
2) *edl-; 4) *jel-;

**9.** Прачытайце частку слоўнікавага артыкула «Вырай» з «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы» (ЭСБМ. Т. 2. С. 280) і ніжэй адзначце правільны адказ.

Паводле Мартынава (БЛ, 1975, 7, 69), крыніцай усходнеслав. слоў (польск. *wyraj* < бел. *вырай*) з’яўляецца заходнебалт. pluralia tantum **i̯uriai̯* (ст.-прус. *iuriay* ‘мора’), якое адпавядае рус. *ирей* (*i̯ū* > *i̯i*). Бел. і ўкр. формы ўзніклі ў выніку пераўтварэння фразеалагізма **vъ irejь* ‘у вырай’. Апрача таго, на сучаснай Гродзеншчыне (старажытная заходнебалтыйская тэрыторыя) існуе паданне пра тое, як птушкі збіваюцца зімой у вялікі шар, які апускаецца ў мора.

Паводле гіпотэзы В. У. Мартынава, у назоўніку *вырай* пачатковы зычны з’яўляецца:

1) каранёвым; 3) рэфлексам займенніка;
2) пристаўным; 4) рэфлексам прыназоўніка.

**10.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Пратэтычны *j графічна перададзены ў наступных варыянтах напісання старабеларускіх слоў:

| | |
|---|---|
| 1) ꙗгнѧ; | 6) ѥлеи; |
| 2) ѧзыкъ; | 7) ѣда; |
| 3) ѥвангелѥ; | 8) ѣзда; |
| 4) ꙗсень; | 9) ꙗгода; |
| 5) елъка; | 10) езеро. |

Тэма 4

# Асаблівасці старажытнага націску. Змены пачатковых спалучэнняў *ort, *olt

У сучаснай мове ***націск*** – гэта выдзяленне аднаго са складоў слова, вымаўленне яго з асабліва напружанай артыкуляцыяй і сілай выдыхаемага паветра. Націск можа прыпадаць на любы склад, г. зн. з'яўляецца ***разнамесным***, або ***свабодным***, можа перамяшчацца на розныя марфемы пры змяненні слова, г. зн. з'яўляецца ***рухомым***.

У праславянскую эпоху націскны склад меў такія ж лакальныя характарыстыкі. Тыя славянскія мовы, якія сёння маюць фіксаваны націск (польская – на перадапошнім складзе, чэшская – на першым), атрымалі яго ў больш познія часы.

Акрамя таго, націскныя склады мелі колькасную характарыстыку: маглі быць доўгімі або кароткімі.

Адметнай асаблівасцю праславянскага націску была яго ***політанічнасць*** (музычнасць), г. зн. вымаўленне націскнога склада з ***узыходнай*** (***акутавай***) або ***сыходнай*** (***цыркумфлекснай***) інтанацыяй. Віды націску названы ў адпаведнасці са значкамі, якімі яны абазначаюцца, – узыходная інтанацыя паказваецца значком ´ (аку́т), сыходная – значком ˜ (цыркумфле́кс).

Тып інтанацыі націскнога склада залежаў ад колькаснай характарыстыкі галоснага і яго паходжання: акутавую інтанацыю мелі склады з доўгімі галоснымі, а таксама галоснымі, што з'явіліся на месцы дыфтонгаў з доўгай складовай часткай; цыркумфлексную інтанацыю мелі склады з кароткімі галоснымі *ŏ, *ĕ, а таксама галоснымі, што з'явіліся на месцы дыфтонгаў з кароткай складовай часткай.

У праславянскіх дыялектах гэтыя інтанацыйныя тыпы змяніліся. З цягам часу націск страціў тонавы характар. У сучаснасці толькі ў сербскай, харвацкай і славенскай мовах ёсць інтанацыйныя адрозненні вымаўлення націскных складоў. Ва ўсходнеславянскіх мовах некаторыя словы зведалі ***метатонію*** (перанос націску): развіліся новаакутавая і новацыркумфлексная інтанацыі. Націск у сучаснай беларускай мове з'яўляецца дынамічным (або сілавым).

І тым не менш напамін пра старажытныя інтанацыйныя тыпы застаўся ў сучасных славянскіх мовах і праявіўся ў заканамернасцях вынікаў фанетычных змяненняў. Так, ад характару праславянскага націску залежалі змены спалучэнняў тыпу *ort, *olt у славянскіх мовах.

У праславянскіх спалучэннях *órt, *ólt (з акутавай інтанацыяй) першапачаткова склад быў закрытым, аднак закон адкрытага склада стаў вымагаць змены такіх спалучэнняў. Вызваленне ад закрытасці склада ва ўсіх праславянскіх дыялектах ішло праз перастаноўку галоснага за плаўны і адначасовае падаўжэнне галоснага, у выніку чаго ўтварыліся спалучэнні *rat, *lat:

*órt > rat: *órdlo > ст.-сл. **рало**, бел. *ра́ла*, польск. *radło*,
*ólt > lat: *ól > сербск., харв. *лане*, бел. *лань*, польск. *łania*.

Вынікі далейшага развіцця формаў з пачатковымі *õrt, *õlt (з цыркумфлекснай інтанацыяй) у розных праславянскіх дыялектах аказаліся рознымі. У паўднёвых славян яны супалі з вынікамі аналагічных спалучэнняў з акутавай інтанацыяй – далі спалучэнні *rat, *lat. У заходніх і ўсходніх славян пазбаўленне ад закрытасці склада ішло таксама шляхам перастаноўкі галоснага за плаўны, але галосны не падоўжыўся (не змяніўся на *a):

*õlt < lat / lot

*õldjā < ст.-сл. **ладии** / бел. *лодка*, польск. *łódź*;
*õlkътъ < ст.-сл. **лакътъ** / бел. *локаць*, польск. *łokieć*.

Пачатковыя *ла-*, *ра-* на месцы праславянскіх *õrt, *õlt – прыкмета царкоўнаславянізмаў.

У словах з поўнагалоснымі спалучэннямі націск на першым складзе з'яўляецца сведчаннем таго, што там некалі быў цыркумфлекс:

*горад* < *gõrdŏs,
*золата* < *zõltŏm;

націск на другім складзе з'явіўся на месцы акута:

*дарога* < *dórgā,
*балота* < *bóltŏm.

## Заданні

Заданне 1. Запішыце агульнаўсходнеславянскія і старaславянскія словы, якія мелі наступныя праславянскія формы:

*õrtь, *õrlьja, *õrbъ.

Заданне 2. Пазначце характар інтанацыі ў праформах, прааналізаваўшы галосныя ў пачатковых складах усходнеславянскіх і стараславянскіх адпаведнікаў.

*orzumъ > *розумъ*, **разꙋмъ**; *ortais > *ратай*, **ратаи**;
*orkyta > *рокита*, **ракита**; *orzbiti > *разбити*, **разбити**.

Заданне 3. Супастаўце гукавыя адпаведнасці ў пачатку слоў і запішыце агульнаславянскія праформы, улічваючы інтанацыю націскных складоў.

| Агульнаўсходнеславянская мова | Стараславянская мова | Польская мова |
|---|---|---|
| **розныи** | **разнъи** | *różny* |
| **лакомыи** | **лакомъи** | *łakomy* |
| **ровьныи** | **равьнъи** | *równy* |

Заданне 4. З дапамогай этымалагічнага слоўніка высветліце паходжанне пачатковых складоў *ро, ра, ло, ла* (з'яўляюцца яны спрадвечнымі або паходзяць з *ort, *olt) у прапанаваных словах.

Разбіць, раме, рамёны (уст. паэт. 'плечы'), рана, расход, рог, рост, рот.

Заданне 5. З дапамогай этымалагічнага слоўніка высветліце паходжанне пачатковых складоў *ло, ла* (з'яўляюцца яны спрадвечнымі або паходзяць з *olt) у прапанаваных словах.

Лаза, ламаць, ланіты (уст. паэт. 'шчокі'), лапа, лоб, лой, лопух, лось.

Заданне 6. Патлумачце адрозненні ў вымаўленні складоў *ро, ра* ў беларускіх словах і іх рускіх адпаведніках.

*Бел.*: розум, узрост, роўнасць, робіш, розніца;
*руск.*: разум, возраст, равенство, работаешь, разница.

З а д а н н е 7. У наступных прыкладах са старабеларускіх тэкстаў супастаўце напісанні слоў з пачатковымі *ла*, *ло*, *ра*, *ро* і адзначце выпадкі ўплыву кніжна-славянскай (царкоўнаславянскай) традыцыі:

1) **ꙗко лодьѧ плывущаѧ по быстрой водѣ, ега же следъ не можеть знайденъ быти внегда минетъ** (Скар. ПБ, 8); **Андрѣⷩ… ѡставиⷧ ладью и мрѣжю пошол ко хⷭоу** (Чэцця, 224 б – 225);

2) **ставъ ми еси роскопалъ** (КСД, 648); **требище ихъ раскопаите** (Скар. ДЗ, 27);

3) **Ижъ бы… тыхъ пенезей… ни на чый росказъ не выдавали, одно на посполитую оброну земъскую** (КПД, 142, 1547); **Не оувидишь по них жадного оущепленіѧ ѡ расказ8 8мысла твоего** (Арыст., 161);

4) **ѡⷮ розбоⷥникоⷡ моⷬскиⷯ выⷥволиⷧ море медитераⷩское** (Бельск., 91 б); **естли бы разбойники або злодеи чіи люди были пойманы, а поволали на кого, абы ся делит з ними…** (Ст. 1529, 102).

З а д а н н е 8. Аднавіце праславянскую форму падкрэсленага слова і вызначце характар інтанацыі ў ёй:

1) **гекторъ кторыиⷤ <u>работою</u> валечною не мог сѧ оутомить великостью гнева своего многи греки побиⷧ** (Троя, 46);

2) **съ топоромъ на дворъ господарский къ <u>роботе</u> и въ сторож до скарбу господарьского до Вилна стеречи ходимъ** (КСД, 118, 1514).

З а д а н н е 9. У «Этымалагічным слоўніку беларускай мовы» (Т. 11. С. 162) прачытайце пра паходжанне назоўніка *робат*. Падбярыце аднакарэнныя словы ў беларускай і рускай мовах. Патлумачце наяўнасць гукаў [о] і [а] ў пачатковых складах гэтых слоў.

З а д а н н е 10. Супастаўце формы дыялектных беларускіх прыслоўяў *ланей*, *лані*, *лоні* ‘ў мінулы, прошлы год’ з адпаведнымі формамі ў іншых славянскіх мовах (прыведзены паводле ЭСБМ. Т. 6. С. 225). Аднавіце праславянскую форму прыслоўяў і вызначце характар інтанацыі ў ёй.

| Усходнеславянскія мовы | Заходнеславянскія мовы | Паўднёваславянскія мовы |
|---|---|---|
| бел. *ланей, лані, лоні*<br>зах.-укр. *лони, влони, цопу*<br>паўн.-руск. *лони*<br>ст.-руск. *лони, лани* | польск. *łoni, łuńi*<br>в.-луж. *loni, łoni*<br>н.-луж. *łoni*<br>чэшск. *loni, vloni, lúňi, łuńi, łuň*<br>слвц. *vlani, lani, loňi* | славенск. *láni, ułâń*<br>сербск. *лâни, лáне, лāни*<br>харв. *lâni*<br>макед. *лани*<br>балг. *лáнú*<br>ст.-сл. **лани** |

## ТЭСТ

**1.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Праславянскаму націску былі ўласцівы характарыстыкі:

1) колькасная;
2) дынамічная;
3) тонавая;
4) лакальная;
5) акцэнталагічная.

**2.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Старажытны ўсходнеславянскі націск быў:

1) разнамесным;
2) пастаянным;
3) нерухомым;
4) рухомым;
5) замацаваным;
6) свабодным.

**3.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Паводле асаблівасцей вымаўлення старажытныя націскныя склады былі:

1) доўгія;
2) кароткія;
3) сярэднія;
4) з узыходнай інтанацыяй;
5) з сыходнай інтанацыяй;
6) моцныя;
7) слабыя.

**4.** Адзначце правільны адказ.

Слова, корань якога ўзыходзіць да праформы *õld-:

1) голад;
2) аладка;
3) лодка;
4) лад;
5) лёд.

**5.** Адзначце правільны адказ.

Слова, корань якога ўзыходзіць да праформы *óln-:

1) лань;
2) ланцуг;
3) лён;
4) нуль;
5) улонне.

**6.** Адзначце правільны адказ.

Слова, якое мела праформу з акутавай інтанацыяй:

1) работа;
2) ратнік;
3) розум;
4) разлік;
5) расліна.

**7.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Словы, якія мелі праформы з цыркумфлекснай інтанацыяй:

1) разгон;
2) рамёны (‘плечы’);
3) ралля;
4) ромб;
5) рахунак.

**8.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Словы, якія мелі праформы з акутавай інтанацыяй:

1) лодка;
2) ласяня;
3) ланіты ('шчокі');
4) лакамы;
5) локаць.

**9.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Усходнеславянскай традыцыі адпавядае напісанне старабеларускіх слоў:

1) **росторгненый**;
2) **расправа**;
3) **росторопный**;
4) **растворенный**;
5) **розорваный**.

**10.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Паўднёваславянскай (стараславянскай, царкоўнаславянскай) традыцыі адпавядае напісанне старабеларускіх слоў:

1) **разважный**;
2) **розвязаный**;
3) **раздельный**;
4) **розмысльный**;
5) **разумный**.

### Тэма 5

# Першае поўнагалоссе

Ва ўсіх славянскіх мовах адбыліся змены праславянскіх спалучэнняў *tort, *tolt, *tert, *telt, дзе *t – зычны. Прычынамі гэтых змен былі патрабаванні да будовы склада (закон адкрытага склада) і страта плаўнымі складовасці.

Вынікі змен супрацьпастаўляюцца ў трох групах славянскіх моў:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| *tort | усх.-сл. | *torot | *borda | бел. *барада* |
| | зах.-сл. | *trot | | польск. *broda* |
| | паўдн.-сл. | *trat | | ст.-сл. брада |
| *tolt | усх.-сл. | *tolot | *bolto | бел. *балота* |
| | зах.-сл. | *tlot | | польск. *błoto* |
| | паўдн.-сл. | *tlat | | ст.-сл. блато |
| *tert | усх.-сл. | *teret | *bergъ | бел. *бераг* |
| | зах.-сл. | *tret | | польск. *brzeg* |
| | паўдн.-сл. | *trět | | ст.-сл. брѣгъ |
| *telt | усх.-сл. | *tolot, t’elot | *melko | бел. *малако* |
| | зах.-сл. | *tlet | | польск. *mleko* |
| | паўдн.-сл. | *tlět | | ст.-сл. млѣко |

Толькі ва ўсходнеславянскіх мовах плаўны ў спалучэннях гэтага тыпу (*tort і інш.) набыў *двухбаковую агаласоўку*. Такая з’ява атрымала назву ***I* (*першае*) *поўнагалоссе***.

Асаблівай увагі патрабуюць змены тыпу *telt ва ўсходнеславянскіх мовах: тут пасля цвёрдага зычнага адбываецца лабіялізацыя *е > *о:

*telt > *tolot.

Напрыклад, *pelnъ > *polonъ – *палон*.

Калі ж пачатковы зычны быў мяккім, то лабіялізаваўся толькі другі галосны поўнагалоснага спалучэння:

*t'elt > *t'elot.

Напрыклад, герм. helm > *š'elmъ > *š'elomъ – *шалом* (*шлем*).

Няпоўнагалосныя спалучэнні *ро, ло, рэ, ле* ў беларускай мове могуць быць прыкметай паланізмаў. Напрыклад, *derv- > усх.-сл. *дерево*, зах.-сл. *дрэва*.

У паўднёваславянскіх мовах з прычыны адсутнасці доўгіх плаўных у дыфтангоідных спалучэннях адбылося падаўжэнне галоснага: *o > a, *e > ě. Няпоўнагалосныя спалучэнні *ра, ла, рэ* (рѣ), *ле* (лѣ) з'яўляюцца адзнакай іх царкоўнаславянскага (стараславянскага) паходжання. Напрыклад, *xorm- > усх.-сл. *харомы*, паўдн.-сл. *храм*.

Сказанае не выключае наяўнасці спрадвечных (праславянскіх) складоў *ра, ла, рэ, ле, ро, ло*. Напрыклад: *рама, лама, рэпа, поле*.

## Заданні

Заданне 1. Запішыце беларускія словы, якія ўтварыліся з наступных праформаў:

*bergъ, *vorna, *golva, *gordъ, *kolda, *pelnъ, *perxodъ.

Ці толькі каранёвыя марфемы зведалі I поўнагалоссе?

Заданне 2. Запішыце агульнаўсходнеславянскія адпаведнікі наступным дзеясловам у форме 1-й асобы адзіночнага ліку:

*berjǫ, *poborjǫ, *meljǫ, *koljǫ, *govorjǫ.

Чаму I поўнагалоссе ў іх не адбылося?

Заданне 3. Падбярыце беларускія адпаведнікі да слоў польскай мовы.

Broda, głos, groch, droga, drzewo, krowa, mleko, przeskoczyć, srebro.

Заданне 4. Запішыце па-старабеларуску наступныя стараславянскія словы:

**брѣза, класъ, кравай, младъ, млатъ, мразъ, плѣти, прѣдавати, шлѣмъ.**

Заданне 5. Размяркуйце ніжэйпрыведзеныя словы па групах адпаведна паходжанню спалучэнняў *ра, рэ, ла, ле* (1 – стараславянскае, 2 – агульнаславянскае).

Град (з'ява прыроды), гразь, грэх, плаваць, правы, прах, слепнуць, улада, храм, шлем.

Да старaславянізмаў падбярыце роднасныя словы з поўнагалоснымі спалучэннямі.

З а д а н н е 6. Падкрэсліце словы з поўнагалоснымі спалучэннямі.

Баравік, барада, варатар, зарабіць, золата, набярэжная, наладзіць, нораў, паламаць, парада, параход, пераход, порах, саладзіць, саланіна.

Зрабіце марфемны разбор слоў з «уяўным» поўнагалоссем.

З а д а н н е 7. Сярод беларускіх назваў птушак з поўнагалоснымі спалучэннямі знайдзіце лішнюю. Пры неабходнасці звяртайцеся да «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы». Патлумачце свой выбар.

Варона, верабей, жаваранак, зімародак, салавей, сарока.

З а д а н н е 8. Аднавіце праформу слова *парася*. Растлумачце паходжанне беларускага слова *парсюк*, калі вядома, што па-польску – *prosiak*, па-літоўску – *paršùkas*. Пры неабходнасці звяртайцеся да «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы» (Т. 8. С. 167).

З а д а н н е 9. Супастаўце роднасныя словы *змрок* і *абмарачэнне*. Аднавіце праформу кораня і растлумачце паходжанне яго варыянтаў.

З а д а н н е 10. Знайдзіце ўсе словы з I поўнагалоссем у вершы М. Багдановіча.

**Зімой**

Здароў, марозны, звонкі вечар!
Здароў, скрыпучы, мяккі снег!
Мяцель не вее, сціхнуў вецер,
І волен лёгкіх санак бег.

Як мары, белыя бярозы
Пад сінявой начной стаяць,
У небе зоркі ад марозу
Пахаладзеўшыя дрыжаць.

Вільготны месяц стуль на поле
Празрысты, светлы стоўп спусціў
І рызай срэбнаю раздолле
Снягоў сінеючых пакрыў.

Ўзрывайце ж іх санямі, коні!
Звіні, вясёлых бомаў медзь!
Вакол лятуць бары і гоні,
Ў грудзях пачала кроў кіпець.

З а д а н н е 11. Прааналізуйце паходжанне беларускага прыслоўя *блага*, далучальнага злучніка *балазе* (‘добра што’) і рускага тапоніма *Балагое*. Чым адрозніваюцца беларускае слова *блага* і рускае *благо*?

З а д а н н е 12. Прааналізуйце варыянтнасць каранёвых марфем у парах тапонімаў *Брэст* і *Бераставіца*, *Навагрудак* і *Гарадок*, *Крулеўшчызна* і *Каралёў Стан*. Растлумачце з’яўленне няпоўнагалосных назваў. Прывядзіце яшчэ прыклады геаграфічных назваў з поўнагалоснымі спалучэннямі.

З а д а н н е 13. Адзначце тыя назвы твораў У. Караткевіча, у якіх ёсць словы, што перадаюць I поўнагалоссе, назавіце гэтыя словы.

1) «Дзікае паляванне караля Стаха»;
2) «Каласы пад сярпом тваім»;
3) «Паляшук»;
4) «Маленькая балерына»;
5) «Хрыстос прызямліўся ў Гародні».

З а д а н н е 14. Знайдзіце і прааналізуйце ўсе славянскія формы назоўніка *малако* ў аднайменным вершы А. Разанава.

**Малако**

Беларускае м а л а к о смачнейшае за мак і маліну: малым яно дае моц і розум, а старых малодзіць.

Стараславянскае м л ѣ к о як Мекка: усе да яго імкнуцца, усім яно лекі.

Рускае м о л о к о падмацунак касцу і малацьбіту і *лакомство* катку.

Балгарскае м л я к о мляўкае, як летні сон: яно лашчыць язык і нёба.

Праславянскае m e l k o змялелае, як Няміга.

Лужыцкае m l o k o закрашвае локшыну.

Шведскае m j o l k пахне мёдам і зёлкамі.

Нямецкае M i l c h мілае, нібы малітва маці за сваё немаўля.

## ТЭСТ

**1.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Першае поўнагалоссе прадстаўлена ў словах:

| | |
|---|---|
| 1) волас; | 4) калос; |
| 2) голас; | 5) палас. |
| 3) колас; | |

**2.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Першае поўнагалоссе прадстаўлена ў словах:

1) арэна;
2) барон;
3) барана;
4) бярэмя;
5) варона.

**3.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

«Уяўнае» поўнагалоссе прадстаўлена ў словах:

1) карова;
2) нарада;
3) барадач;
4) парадак;
5) зараўняць.

**4.** Адзначце правільны адказ.

Праформу каранёвай марфемы *zolt- мела слова:

1) лазіць;
2) злосць;
3) жоўты;
4) жалоба;
5) золата.

**5.** Адзначце правільны адказ.

Праформу каранёвай марфемы *bolt- мела слова:

1) лабаты;
2) болт;
3) балбатаць;
4) балота;
5) балет.

**6.** Адзначце правільны адказ.

Праформу каранёвай марфемы *pors- мела слова:

1) парасон;
2) парася;
3) проса;
4) проза;
5) порах.

**7.** Адзначце правільны адказ.

Праформу каранёвай марфемы *ž’elb- мела слова:

1) жолаб;
2) лежабока;
3) жалоба;
4) жэле;
5) жаль.

**8.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Праформу каранёвай марфемы *sold- мелі словы:

1) салідны;
2) салідарны;
3) салодкі;
4) саладуха;
5) слодыч.

**9.** Суаднясіце нумар сказа (1, 2, 3) з паходжаннем падкрэсленага слова (а, б, в).

1) словеса… длатомъ… выриты были на кремени (Скар. КІ, 25);

2) за отостроване длотъ чотырехъ дали… осмак (ИЮМ, X, 150, 1695);

3) также за пилы, свердла, долота, гебли… мають быти сужоны и плачоны водлугъ доводу (Ст. 1588, 517);

а) царкоўнаславянскае;

б) старабеларускае;

в) польскае.

**10.** Адзначце правільны адказ.

Царкоўнаславянскі варыянт назоўніка падкрэслены ў сказе:

1) тогожъ року и тогожъ дня у верху написаного увотъкнуломъ у врота того двора Прылуцкого позовъ земский Меньский (АВК, XXXVI, 92, 1582);

2) тогда иде Воозъ ко вратамъ градовымъ (Скар. КР, 6 б);

3) пустившы их внутръ, ворота замкнули (Тыст., 70).

## Тэма 6

# Гісторыя мяккіх зычных: І, ІІ, ІІІ палаталізацыі заднеязычных, змены спалучэнняў *gvě, *kvě

Сучасныя славянскія катэгорыі цвёрдасці/мяккасці зычных сфарміраваліся паступовa і істотна адрозніваюцца ад існаваўшых у глыбокай старажытнасці. Вядома, што ў агульнаўсходнеславянскай мове пачатковага перыяду як спадчына ад папярэдняй праславянскай эпохі існавалі спрадвечна цвёрдыя і спрадвечна мяккія зычныя. У адпаведнасці з тэндэнцыяй да складовага сінгармanізму яны адрозніваліся магчымасцю спалучэння з галоснымі гукамі: цвёрдыя зычныя нармальна спалучаліся з галоснымі непярэдняга рада (зоны) утварэння, а мяккія зычныя – з галоснымі пярэдняга рада (зоны) (гл. с. 6, табл. 2).

У тых выпадках, калі цвёрдыя зычныя апыналіся перад галоснымі пярэдняга рада, яны выступалі ў сваім паўмяккім алафоне:

| цвёрды зычны | | пярэдні галосны | | паўмяккі алафон |
|---|---|---|---|---|
| *sad̲(ъ) | + | *-ě | = | *sad̲·ě |

Вельмі адметна паводзілі сябе ў азначанай сітуацыі заднеязычныя *g, *k, *x, якія спалучаліся толькі з непярэднімі галоснымі:

*gynǫti, *kъnigy, *xytrъ.

У выпадку, калі заднеязычныя *g, *k, *x выступалі перад галоснымі пярэдняга рада, яны не станавіліся паўмяккімі, як гэта адбывалася з іншымі спрадвечна цвёрдымі зычнымі, а чаргаваліся з мяккімі шыпячымі або свісцячымі – палаталізаваліся. Вядомы I, II і III палаталізацыі заднеязычных, або пераходныя памякчэнні заднеязычных.

**I палаталізацыя** – чарגаванне заднеязычных з шыпячымі – адбываецца перад галоснымі пярэдняга рада *i (< *ī), *ě$_1$ (< *ē), *e, *ь, *ę:

*g → *ž’: *drugъ – *druž’ina (бел. *друг – дружына*);
*k → *č’: *rǫka – *porǫč’iti (бел. *рука – паручыць*);
*x → *š’: *muxa – *muš’ьka (бел. *муха – мушка*).

Галосны *ě$_1$ (< *ē) не толькі абумовіў чаргаванне заднеязычных з шыпячымі гукамі, але і сам змяніўся ў выніку прыстасавання артыкуляцыі – стаў гучаць як [a]:

i.-e. *gērŏs > прасл. *gěrъ > *ž’ěrъ > *ž’arъ (усх.-сл. *жаръ*);
прасл.*dьrgěti > *dьrž’ěti > *dьrž’ati (усх.-сл. *држати*);
прасл.*sluxěti > *sluš’ěti > *sluš’ati (усх.-сл. *слушати*).

Апісанае гістарычнае чаргаванне заднеязычных з шыпячымі, вядомае ўсім славянскім мовам, спыніла сваё дзеянне, аднак вынікі яго наяўныя і ў сучаснасці.

У некаторых выпадках гэта чаргаванне стала адметнасцю словаўтварэння. Напрыклад, прыметнікі, утвораныя ад назоўнікаў з асновай на *-к* пры дапамозе суфікса *-н-*, маюць чаргаванне *к // ч*: *лексіка – лексічны*, *фанетыка – фанетычны* (параўн.: *мука – мучны* з *muka – *mukьnъi > *muč’ьnъi).

У беларускай мове шыпячыя зацвярдзелі і ўзніклі гістарычныя чаргаванні *г // ж*; *к // ч*; *х // ш*.

**II палаталізацыя** – чаргаванне заднеязычных са свісцячымі – адбываецца перад галоснымі пярэдняга рада *i, *ě$_2$, якія паходзяць з дыфтонгаў *oi̯, *ai̯:

*g → *z’: *drugъ – *druz’i (дрꙋзи);
*k → *c’: *rǫka – *rǫc’ě (рꙋцѣ);
*x → *s’: *muxa – *mus’ě (мꙋсѣ).

II палаталізацыя адбывалася таксама ў праславянскую эпоху, аднак пазней за першую: паміж імі ляжыць фанетычны працэс манафтангізацыі дыфтонгаў *oi̯, *ai̯, якія пераўтварыліся ў *i, *ě$_2$. У некаторых граматычных формах вынікі II палаталізацыі былі страчаны ў пазнейшыя часы. У беларускай мове гэта можна назіраць на прыкладзе наступных формаў:

1) Н. і М. скл. мн. л. назоўнікаў: замест *stoz’i – *стагі*, *vъlc’i – *ваўкі* (Н. скл.), *stoz’ěxъ – (*у*) *стагах*, *vъlc’ěxъ – (*аб*) *ваўках* (М. скл.) і інш. У такіх формах дзеля захавання асновы слова адбылося аднаўленне заднеязычнага;

2) 2-й і 3-й ас. адз. л., а таксама 1-й і 2-й ас. мн. л. дзеясловаў загаднага ладу: замест *bez’i, *bez’ite – *бяжы*, *бяжыце*, *soc’i, *soc’ite – *сачы*, *сачыце*, *pec’i, *pec’ite – *пячы*, *пячыце* і інш. У падобных формах замест свісцячага зычнага стаў выступаць шыпячы. Такія змены абумоўлены выраўноўваннем асновы па формах абвеснага ладу.

**III палаталізацыя** – чаргаванне заднеязычных з шыпячымі – адбываецца не перад, а пасля галосных пярэдняга рада *i, *ь, *ę (рэгрэсіўны напрамак). Яна не была выклікана тэндэнцыяй да складовага сінгарманізму, як I і II палаталізацыі заднеязычных. Яе ўзнікненне звязваюць з міжскладовым прыстасаваннем, з дзеяннем тэндэнцыі да гармоніі слова[1].

*g → *z’: прагерм. *kuningaz > *kъnęzь (бел., руск. *князь*);
*k → *c’: *dēvika > *děvic’a (руск. *девица*);
*x → *s’: *vьxь > *vьsь (бел. *увесь*).

Вынікі III палаталізацыі аказаліся яшчэ больш абмежаванымі і непаслядоўнымі, чым вынікі II палаталізацыі. Так, напрыклад, не адбылася III палаталізацыя ў форме *kъnęgyni, але мае месца ў форме *kъnęzь. Не адбылася яна і ў назоўніку *likъ, але прадстаўлена ў назоўніку *lic’e. У беларускай мове ўжываюцца словы *яйка*, *вольха*, якія не зведалі III палаталізацыі. А вось у беларускіх словах – найменнях ягад III палаталізацыя прадстаўлена паслядоўна: *брусніцы*, *дурніцы*, *касцяніцы*, *суніцы*, *чарніцы*.

З прычыны існавання апісаных асаблівасцей III палаталізацыю называюць парадаксальнай і часам нават разглядаюць як варыянт II палаталізацыі.

У праславянскую пару адбыліся змены і са спалучэннямі ***gvě**, ***kvě**, у якіх *ě (*$ě_2$) паходзіць з індаеўрапейскага дыфтонга *oi̯. У паўднёва- і ўсходнеславянскіх мовах тут узнікаюць чаргаванні заднеязычных са свісцячымі нават тады, калі заднеязычны аддзелены ад галоснага гукам *v:

*gvězda > *zvězda > руск. *звезда*, балг. *звезда*;
*květъ > *cvětъ > руск. *цветы*, балг. *цвят*.

Такога тыпу змены невядомы заходнеславянскім мовам:

польск. *gwiazda*, *kwiat*, чэшск. *hvězda*, *květ*.

Ва ўсходнеславянскіх гаворках паўмяккія зычныя пастунова сталі мяккімі (іх яшчэ называюць ***другасна памякчонымі***). У выніку ўсіх гэтых змен прыкладна да XI ст. сфарміраваліся пары, суаднос-

[1]*Супрун А. Е.* Праславянский язык. Минск, 1993. С. 31.

ныя па цвёрдасці/мяккасці. У вымаўленні такія зычныя перасталі адрозніваецца ад спрадвечна мяккіх, параўн.:

*ognĭs > *ogn·ь ([n·] паўмяккі) > **огнь** ([н’] другасна памякчоны),
*kamnĭs > *kon’ь > **конь** ([н’] спрадвечна мяккі).

Пазней развілося ***неpераходнае памякчэнне заднеязычных*** – узніклі спалучэнні *гі, кі, хі*: **гинѹти, къниги, хитръ**. Помнікі перадаюць гэту з’яву з XII ст.

Спалучэнні *ге, ке, хе* сталі выступаць у памяншальных формах прыметнікаў: **легонькъи** > **легенькии, мяконькъи** > **мякенькии, сѹхонькъи** > **сѹхенькии** – па аналогіі з формамі прыметнікаў з суфіксам *-еньк-*: **веселенькии, зелененькии** і інш.

Спалучэнні *гі, кі, хі, ге, ке, хе* траплялі ва ўсходнеславянскія гаворкі і ў складзе запазычаных слоў: *геена, гімн, келіх, кірмаш, кіот, кіпарыс, херувім.*

## Заданні

Заданне 1. Ахарактарызуйце падкрэсленыя зычныя паводле катэгорыі цвёрдасці/мяккасці – вызначце, з’яўляюцца яны спрадвечна цвёрдымі, спрадвечна мяккімі або памякчонымі.

1) *byti – *biti;
2) *vozъ – *voziti;
3) *vorta – *verteno;
4) *ž’ьnьc’ь – *ž’ena;
5) *kъniga – *kydati;
6) *loza – *laziti;
7) *mъхъ – *měra;
8) *ryba – *rěka;
9) *piti – *snopъ;
10) *podnosъ – *podneslъ;
11) *sadъ – *siděti;
12) *slovo – *slezati;
13) *solь – *sila;
14) *xytrъ – *xoditi.

Заданне 2. Параўнайце літоўскія словы і словы розных славянскіх моў. Зрабіце вывад аб характары і часе ўзнікнення чаргаванняў *г // ж, к // ч*. У якіх фанетычных умовах адбыўся пераход заднеязычных у шыпячыя зычныя ў гэтых словах?

| Літоўская мова | Агульнаўсходнеславянская мова | Беларуская мова | Балгарская мова | Польская мова |
|---|---|---|---|---|
| *gilė* (‘жолуд’) | **желѧдь** | *жолуд* | *жълъд* | *żołądź* |
| *gyvénti* (‘жыць’) | **жити** | *жыць* | *живея* | *żyć* |
| *vãkaras* (‘вечар’) | **вечеръ** | *вечар* | *вечер* | *wieczór* |

З а д а н н е 3. Як вядома, I палаталізацыя заднеязычных адбывалася ў пазіцыі перад галоснымі пярэдняга рада. Растлумачце, чаму ў наступных словах сучаснай беларускай мовы вынікі I палаталізацыі адзначаюцца перад галосным [а]. Аднавіце адпаведныя праславянскія формы.

а) крычаць, маўчаць (параўн.: крык, змоўк);
б) можаш, ляжаш (параўн.: магу, лягу);
в) калышаш, аглушаць (параўн.: калыхаць, глухі).

З а д а н н е 4. Патлумачце, чаму ў наступных групах слоў не прадстаўлена I палаталізацыя заднеязычных:

а) гігант, гідра, гімн; кентаўр, кіно, кіт; херувім, хімера, хітон;
б) глухенька, лёгенька, мякенька, сухенька, ціхенька;
в) берагіня, варагіня, княгіня;
г) гінуць, кідаць, хітрыць.

З а д а н н е 5. Вядома, што назоўнікі тыпу **городъ**, **сватъ** ў месным склоне адзіночнага ліку ў агульнаўсходнеславянскай мове выступалі з канчаткам -ѣ (> *a͡i̯): **городѣ**, **сватѣ**. Пастаўце назоўнікі (таго ж тыпу) у гэту ж граматычную форму.

1) **волкъ**;
2) **горохъ**;
3) **дозоръ**;
4) **молотъ**;
5) **плоугъ**;
6) **провозъ**;
7) **роботникъ**;
8) **смѣхъ**;
9) **стогъ**;
10) **теремъ**.

Назавіце гістарычнае чаргаванне зычных, якое адбываецца ў некаторых з прыведзеных вамі словаформаў.

Ахарактарызуйце паводле катэгорыі цвёрдасці/мяккасці апошні зычны асновы ўтвораных вамі словаформаў.

З а д а н н е 6. Знайдзіце «лішняе» слова і вызначце, якая фанетычная з'ява аб'ядноўвае астатнія.

(На/у) бярозе, дарозе, папрузе, трывозе, чарзе.

З а д а н н е 7. Утварыце агульнаўсходнеславянскія словы паводле прыведзенай мадэлі і растлумачце фанетычныя змены ў іх.

1) *otьkь > *otьc'ь – **отьць**;
2) *konьkь;
3) *larьkъ;
4) *nĕmьkъ;
5) *palьkь.

З а д а н н е 8. Аднавіце каранёвыя праформы і патлумачце паходжанне падкрэсленых зычных.

**кънѧзь – кънѧжє!**
**старьць – старьчє!**

З а д а н н е 9. У «Этымалагічным слоўніку фразеалагізмаў» І. Я. Лепешава (Мінск, 2004. С. 317) знайдзіце выраз *прытча ва языцах* і высветліце яго значэнне і паходжанне.

Патлумачце фанетычныя ўмовы, пры якіх адбылося наступнае чаргаванне зычных у формах назоўніка *язык*:

**ѧзыкъ** (Н. скл., адз л.) – **ѧзыци** (Н. скл., мн. л.),

(**въ**) **ѧзыцѣхъ** (М. скл., мн. л.).

Вядома, што словы *язычнік*, *язычніцтва*, *язычніцкі* ўтвораны ад назоўніка *язык* ‘народ’. Пакажыце гістарычныя ўмовы, якія выклікалі чаргаванне зычных у корані гэтых слоў.

З а д а н н е 10. «Слоўнік гаворак цэнтральных раёнаў Беларусі» падае такі слоўнікавы артыкул (Мінск, 1990. Т. 1. С. 93):

**ҐВЯЗДАЧКА** *ж*. Бат. Іскарка, разнавіднасць гваздзікоў. *А-йе-йа-ей, як красіва, як зорачкі, выглядаюць ґвяздачкі с травы. Яны цьвітуць чырвонінькімі кветкамі.* Ляшчынск Мядз.

Знайдзіце ў запісе дыялектнага маўлення два словы, у якіх ёсць спалучэнне зычных, не характэрнае для ўсходнеславянскіх моў. Як можна патлумачыць існаванне такіх слоў у беларускіх гаворках?

## ТЭСТ

**1.** Адзначце правільны адказ.

Памякчоныя алафоны зычных – гэта варыянты праславянскіх:

1) спрадвечна цвёрдых зычных у становішчы перад галоснымі пярэдняга рада;

2) спрадвечна цвёрдых зычных у становішчы перад галоснымі непярэдняга рада;

3) спрадвечна мяккіх зычных перад галоснымі пярэдняга рада;

4) спрадвечна мяккіх зычных перад галоснымі непярэдняга рада.

**2.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Падкрэсленая зычная літара абазначае памякчоны алафон у словаформах адзіночнага ліку:

1) Н. **дѫб̲ъ**;

2) Р. **дѫб̲ъ(а)**;

3) Д. **дѫб̲ꙋ**;

4) В. **дѫб̲ъ**;

5) Т. **дѫб̲ъмь**;

6) М. **дѫб̲ѣ**;

7) Кл. (зваротак) **дѫб̲є**!

**3.** Адзначце правільны адказ.

У слове *снежны* чаргаванне *г // ж* (з праславянскага *g > *ž’) выклікана ўплывам гука:

1) *n;  3) *ь;
2) *e;  4) *ě.

**4.** Адзначце правільны адказ.

Ва ўрыўку **Ѡфросиньꙗ же раба хв҃а сътѧжавъши кр҇тъ сии•приметь <u>вѣчнꙋю</u> жизнь съ всѣми ст҃ыми** (Надп. на кр. Ефр., 1161) у падкрэсленай словаформе прадстаўлена:

1) I палаталізацыя заднеязычных;
2) II палаталізацыя заднеязычных;
3) III палаталізацыя заднеязычных.

**5.** Адзначце зыходную форму (Н. скл., адз. л.) слова, падкрэсленага ва ўрыўку.

**Тогда отець иⷯ Ізраиль рече к нимⷭ, естъли же тако муситⷭ быти Ꙋчините жъ ꙗкоже хощете. А наберите ѿ плоду избраннаго земли сее вⷭ сосуды ваше, и донесите мужу дары. Нечто Ладану И Меду Мирры И Балсамꙋ И Мигдаловъ. Пенези теже двое несите сⷭ собою И тые которыи есте знашли в <u>месехъ</u>[1] к нему ѿнесите, еда Ꙋбо како омылилсѧ естъ** (Скар. I КБ, 79 б).

[1] Замест ѣ ў Скарыны тут надрукавана є – павінна быць (в) мѣсѣхъ. – *заўв. аўт.*

1) мѣсто;  3) мъхъ;
2) мѣхъ;  4) мѧсо.

**6.** Адзначце правільны адказ.

Вынік II палаталізацыі заднеязычнага ў сучаснасці захоўваецца ў словаформе:

1) беражок;  4) (на) берагах;
2) (на) беразе;  5) узбярэжжа.
3) берагі (мн. л.);

**7.** Да наступных праславянскіх слоў падбярыце сучасныя беларускія адпаведнікі:

1) *kunika;  4) *stolika;
2) *lisika;  5) *ranika.
3) *palika;

**8.** Суаднясіце прапанаваныя тэзісы са словамі-прыкладамі, каб атрымалася пяць пар.

1. II палаталізацыя заднеязычных прадстаўлена ў словах...

2. III палаталізацыя заднеязычных прадстаўлена ў словах...

а) **варѧзи** (Н. скл., мн. л.);
б) **молодьць** (Н. скл., адз. л.);
в) **стози** (Н. скл., мн. л.);
г) **черньць** (Н. скл., адз. л.);
д) **дроузи** (Н. скл., мн. л.).

**9.** У надпіс на Рагвалодавым камені (1171) замест пропуску ўстаўце патрэбную форму загаднага ладу дзеяслова **помо́чи**:

**въ лѣ҃ ҂ѕхо҃ѳ м҃ца маиѧ въ ѕ҃ д҃нь доспень кр҃ъ сиі ги ______ рабоу своюмоу Василию в крщени именемь Рогволод(оу) с҃ноу Борисовоу**

1) **помоги**;
2) **помогти**;
3) **помогчи**;
4) **поможи**;
5) **помози**.

*Для даведкі*: форма загаднага ладу 2-й асобы адзіночнага ліку дзеяслова **помо҃чи** (< *po-mog-ti) утваралася далучэннем да асновы цяперашняга часу канчатка **-и** дыфтангічнага паходжання.

**10.** Адзначце правільны адказ.

Слова, у якім адбылася змена праславянскага спалучэння *kvě:

1) цвёрды;
2) цвісці;
3) цвыркун;
4) цвік;
5) цвярозы.

## Тэма 7

# Спалучэнні зычных з *j

Прычынай утварэння мяккіх зычных у становішчы перад наступным гукам *j быў закон складовага сінгарманізму: папярэднї цвёрды зычны змякчаўся, каб артыкуляцыйна прыстасавацца да мяккага *j, які заўсёды быў у постпазіцыі. Пры гэтым памякчэнне магло быць пераходным (з'яўляецца іншы мяккі зычны) або непераходным (цвёрды зычны змякчаецца і не мяняе іншых артыкуляцыйных прыкмет). Калі *j знаходзіўся пасля групы зычных, то палаталізаваўся кожны зычны. Вынікі j-палаталізацый прыведзены ў табл. 3.

*Табліца 3*

**Вынікі j-палаталізацый**

| Зычны | Вынік спалучэння з *j |
|---|---|
| заднеязычныя:<br>*g, *k, *x | шыпячыя:<br>*ž', *č', *š' |
| зубныя:<br>*z, *s | шыпячыя:<br>*ž', *š' |
| пярэднеязычныя сананты:<br>*r, *l, *n | пярэднеязычныя сананты:<br>*r', *l', *n' |
| губныя:<br>*m, *p, *b, *v | губны + l-эпентычны<br>*ml', *pl', *bl', *vl' |
| пярэднеязычныя выбухныя:<br>*d, *t | шыпячыя:<br>*ž' (*$\widehat{dz}$'), *č' |
| спалучэнні зычных:<br>*st, *sk,<br>*zd | спалучэнні зычных:<br>*$\widehat{š'č}$',<br>*$\widehat{ž'd'ž}$' |

Усе ўтвораныя ў выніку j-палаталізацыі зычныя з’яўляюцца ***спрадвечна мяккімі***.

Прадстаўленасць вынікаў j-палаталізацый у розных славянскіх мовах дае магчымасць датаваць гэты працэс.

Так, змены *заднеязычных*, *зубных* і *пярэднеязычных санантаў* у спалучэнні з *j аднолькавыя для ўсіх славянскіх моў:

*gj: *drъgjǫ > *drъž’ǫ (*дрыжу*);
*kj: *plakjь > *plač’ь (*плач*);
*xj: *paxjǫ >*paš’ǫ (*пашу*);

*zj: *kazjǫ >*kaž’ǫ (*кажу*);
*sj: *vasjь >*vaš’ь (*ваш*);

*rj: *zarja >*zar’a (*зара*);
*vj: *volja > *vol’a (*воля*);
*gj: *gonjǫ > *gon’ǫ (*ганю*).

Гэта значыць, што яны адбыліся ў праславянскі перыяд.

Праславянскімі з’яўляюцца і змены *губных* у пачатковым (!) складзе:

*pj: *pjevati > *plevati (*пляваць*);
*bj: *bjudo > *bludo (*блюда*).

Вынікі змен спалучэння *губны + j* у непачатковым складзе проціпастаўляюць заходнеславянскія мовы паўднёва- і ўсходнеславянскім:

*zemja → польск. *ziemia*, чэшск. *země*
*zemja → ст.-сл. **землꙗ**, бел. *зямля*.

Змены ў спалучэнні *пярэднеязычны выбухны + j* проціпастаўлены ў трох групах славянскіх моў і, значыць, адбыліся не раней за VII ст.:

*xodjǫ → польск. *chodzą*
*xodjǫ → ст.-сл. **хождѫ**
*xodjǫ → бел. *хаджу*

*světja → польск. *świeca*
*světja → ст.-сл. **свѣща**
*světja → бел. *свечка*.

Падобнымі з’яўляюцца і вынікі змен *gt, *kt перад галоснымі пярэдняга рада (гл. тэму 2, с. 13).

## ЗАДАННІ

З а д а н н е 1. Назавіце сучасныя словы, якія ўзыходзяць да прыведзеных праславянскіх адпаведнікаў. Запішыце іх па правілах X ст.

1) *plakjōs, *slugjon, *pastuxjь; 2) *nosjā, *vozjon, *vasjь;

3) *burjā, *gonjon, xvaljon;
4) *kupjā, *lomjon, *lovjā;
5) *medjā, *xodjon, *vidjon;
6) *oxotjь, *platjon, *xvatjon.

*Узор*: *lugjā > **лꙋжа**, *paxjǫ > **пашѫ** > **пашꙋ**.

*Для даведкі*: праславянскія фіналі ў працэсе эвалюцыі змяніліся ў канчаткі: *-ā > -а, *-ŏs > -ь, *-on > ǫ > -u (*-у/-ю*).

З а д а н н е 2. У прыведзеных словах пакажыце гукі, утвораныя ў выніку j-палаталізацый. Запішыце праформы гэтых слоў.

1) ганю, дрыжу, крычу, люблю, ляплю, пішу, рэжу, сушу, хаджу;
2) доля, душа, круча, лоўля, ноша, паша;
3) варожы, Мсціслаўль (‘горад Мсціслава’), мядзведжы, рабочы.

З а д а н н е 3. Вызначце паходжанне гука [ж] у назоўніку *нож* шляхам параўнання яго з гістарычна роднаснымі словамі **вънъзити**, **заноза**.

З а д а н н е 4. У сказах знайдзіце прыналежныя прыметнікі, пры ўтварэнні якіх адбывалася j-палаталізацыя.

1) **Се азъ мьстиславъ володимирь снъ дьржа рꙋськоꙋ землю в своѥ кнѧжениѥ повелѣлъ ѥсмь**… (Гр. Мсц. 1130);
2) **Поклонъ и бласловлѣнье ѿ ꙗкова епископа полотьского бровстови**[1] **намꙗстьникꙋ пискꙋплю**… (Гр. Мсц. 1300).

[1]**бровстови** – форма давальнага склону ўласнага імя **Бровстъ**.

З а д а н н е 5. Растлумачце паходжанне падкрэсленых зычных.

Мёд з вашчынай, мароз трашчыць, вецер свішча, тоўшча зямлі, хвалі плешчуцца, хрышчоны чалавек, гушчар лесу.

З а д а н н е 6. У гісторыі беларускіх інфінітываў з асновамі на заднеязычныя адбываліся змены па фанетычных заканамернасцях, а таксама па марфалагічнай аналогіі. Прааналізуйце змены: *mogti > moč’i > **мочь** > *магчы*. Што можна сказаць адносна паходжання назоўніка *моц*?

З а д а н н е 7. Растлумачце паходжанне гукаў [л], [л’] (спрадвечны гэта гук ці ўзнік у выніку j-палаталізацыі) у спалучэннях з губнымі зычнымі ў прапанаваных словах.

Аблезлы, воблака, злеплены, каноплі (параўн.: польск. *konopie*), кемлівы, куплю, плакаць, плаўлены, раблю, руплівы, самлець (параўн.: польск. *mdleć* ‘тс’), сплю.

З а д а н н е 8. Аднавіце першаснае значэнне і растлумачце гукавыя адпаведнасці ў парах слоў:

1) даць – удача, парода – рожа;
2) плоскі – плошча, пусты – пушча.

З а д а н н е 9. Зрабіце рэканструкцыю праформаў старабеларускіх назоўнікаў *печь* ‘печка’ і *печа* ‘клопат, турбота’.

*Для даведкі*: канчатак -ь ўтварыўся з праславянскай фіналі *-ĭs, канчатак -а < *ā.

З а д а н н е 10. Слова *е́жа* ‘прадукты харчавання’ мела ў старабеларускай мове амонім *ежа́* ‘дзіцяня вожыка’. Зрабіце рэканструкцыю праформаў гэтых слоў, калі вядома, што па-латышску вожык – *ezis*.

*Для даведкі*: назвы маладых істот утвараліся пры дапамозе праславянскага суфікса *-ent, які зведаў шэраг змен пад уплывам закону адкрытага склада: страту канцавога зычнага і замену *en > *ę > [’a].

З а д а н н е 11. Аднавіце праформы 1-й асобы адзіночнага ліку прапанаваных ніжэй дзеясловаў-амаформаў.

Лячу (на крылах) – лячу (хворага).

Дакажыце, што форма другога дзеяслова ўтварылася раней за форму першага.

З а д а н н е 12. Высветліце паходжанне гука [ч] у прыведзеных словах.

Качу, кручаны, кручок, мучны, печка, скачу, сячы (секчы), хачу.

У якіх словах гэты гук «маладзейшы» (г. зн. утварыўся пазней)?

З а д а н н е 13. Высветліце паходжанне гука [ж] ([дж]) у прапанаваных словах.

Гляджу, кажу, кніжка, кружны (шлях), мяжа, сажа, сняжок, хаджу.

У якіх словах гэты гук утварыўся пазней?

## ТЭСТ

**1.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Гук [ж] з’явіўся ў выніку j-палаталізацыі ў словах:

1) беражок;
2) сажа;
3) служу;
4) служыць;
5) сцюжа.

**2.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Гук [ч] з’явіўся ў выніку j-палаталізацыі ў словах:

1) бегчы;
2) даручыць;
3) мачыць;
4) плачу́;
5) пла́чу.

**3.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Гук [ш] з'явіўся ў выніку j-палаталізацыі ў словах:

| | |
|---|---|
| 1) пашу; | 4) суша; |
| 2) пішу; | 5) сшытак. |
| 3) сошка; | |

**4.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Гук [л'] з'явіўся ў выніку j-палаталізацыі ў словах:

| | |
|---|---|
| 1) абляпаны; | 4) скрываўлены; |
| 2) асаблівы; | 5) хрыплю. |
| 3) зламлю; | |

**5.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Гук [л'] з'яўляецца спрадвечным у словах:

| | |
|---|---|
| 1) абліты; | 4) купля; |
| 2) абляпіць; | 5) ухаплю. |
| 3) гняўлівы; | |

**6.** Складзіце пяць суадносных пар, дзе лічба – нумар слова, а літара – назва фанетычнай з'явы, у выніку якой узнік гук [ж] ([дж]) у гэтым слове.

| | |
|---|---|
| 1) жонка; | а) I палаталізацыя; |
| 2) мажу; | б) j-палаталізацыя (*gj); |
| 3) узва́жу; | в) j-палаталізацыя (*zj); |
| 4) хаджу; | г) j-палаталізацыя (*dj). |
| 5) цяжкі; | |

**7.** Складзіце пяць суадносных пар, дзе лічба – нумар слова, а літара – назва фанетычнай з'явы, у выніку якой узнік гук [ж] ([дж]) у гэтым слове.

| | |
|---|---|
| 1) агароджа; | а) I палаталізацыя; |
| 2) ваджу́; | б) j-палаталізацыя (*gj); |
| 3) важкі́; | в) j-палаталізацыя (*zj); |
| 4) важу́; | г) j-палаталізацыя (*dj). |
| 5) ва́жу; | |

**8.** Складзіце пяць суадносных пар, дзе лічба – нумар слова, а літара – назва фанетычнай з'явы, у выніку якой узнік гук [ч] у гэтым слове.

| | |
|---|---|
| 1) вочка; | а) I палаталізацыя; |
| 2) гучаць; | б) j-палаталізацыя (*kj); |
| 3) крычу; | в) j-палаталізацыя (*tj); |
| 4) малачу; | г) j-палаталізацыя (*stj). |
| 5) тлушч; | |

**9.** Складзіце пяць суадносных пар, дзе лічба – нумар слова, а літара – назва фанетычнай з’явы, у выніку якой узнік гук [ш] у гэтым слове.

| | |
|---|---|
| 1) кашу́; | а) I палаталізацыя; |
| 2) ноша; | б) j-палаталізацыя (*xj); |
| 3) парашок; | в) j-палаталізацыя (*sj); |
| 4) пароша; | г) j-палаталізацыя (*skj). |
| 5) пішчалка; | |

**10.** Складзіце тры суадносныя пары, дзе лічба – нумар сказа, а літара называе паходжанне падкрэсленага слова.

1) **Паробка наняли ꙋ ратꙋшꙋ дрова сечь и въ <u>пецахъ</u> палить** (ИЮМ, VI, 28, 1689);

2) **Пришолъ єсми на сени в Берестьи смотрети <u>печи</u> и бꙋдованьꙗ домовъ** (КСД, 147, 1552);

3) **Тремъ ѡтроком ѡбросил єси <u>пещь</u> ѡгнꙋю** (Чэцця, 65);

а) царкоўнаславянскае;

б) старабеларускае;

в) польскае.

Тэма 8

# Гісторыя насавых галосных

У індаеўрапейскай мове-аснове існавалі дыфтонгі *āі̯, *ăу̯, *ēі̯, *ēу̯, *ōі̯, *ŏу̯ і інш., арганізаваныя са складовага элемента: *ā, *ă, *ē, *ĕ, *ō, *ŏ – і нескладовага: *і̯, *у̯. У выніку дзеяння закону адкрытага склада ў праславянскай мове ў становішчы перад наступным зычным дыфтонгі ператварыліся ў манафтонгі, напрыклад:

i.-e.*boi̯-dhā > *bě-da (*бяда*),
i.-e.*ghēi̯-mā > *zi-ma (*зіма*).

Акрамя дыфтонгаў у індаеўрапейскай і праславянскай мовах існавалі спалучэнні галоснага з наступным насавым зычным – дыфтангоіды:

*am, *an, *em, *en, *ьm, *ьn, *im, *in, *om, *on, *ъm, *ъn.

Калі такое спалучэнне аказвалася перад наступным галосным, то ў выніку дзеяння закону адкрытага склада мянялася мяжа складоў:

*pom-ьn-i-ti > *po-mь-ni-ti > **по-мь-ни-ти**,
*zvon-i-ti > *zvo-ni-ti > **зво-ни-ти**.

Аднак у выпадках, калі дыфтангоіды выступалі ў становішчы перад зычным або на канцы слова, яны супярэчылі законам адкрытага склада і ўзыходнай гучнасці. Пазбаўленне ад закрытасці склада ішло праз утварэнне з такіх спалучэнняў насавых галосных *ę ([е$^н$]) і *ǫ ([о$^н$]):

*pam-en-tĭs >*pa-men-tь > **па-мѧ-ть**,
*zvon-kъ > **звѫ-къ**.

Насавыя галосныя ўзнікалі ў розных марфемах, напрыклад:

1) у каранях слоў на месцы дыфтангоідаў:

*menso > *męso (*мяса*), *menta > *męta (*мята*),
*pontь > *pǫtь (*пуць*), *donbъ > *dǫbъ (*дуб*),
*vъzьnti > *vъzęti (*узяць*);

2) у канчатках назоўнікаў скланення на *ā/*jā ў форме вінавальнага склону адзіночнага ліку (тут *-m – канчатак):

*voda (Н. скл.) – *vodam (В. скл.) > *vodǫ (*ваду*),
аналагічна *ženǫ (руск. *жену*), *rybǫ (*рыбу*) і інш.;

3) у канчатках назоўнікаў ніякага роду скланення на зычны, якія:

а) абазначалі маладых істот:

*telent (канцавы *t адпаў) > *telę (*цяля*),
аналагічна *jagnę (*ягня*),*žerbę (у гэтай форме развілося
І поўнагалоссе – *жарабя*);

б) утвараліся пры дапамозе суфікса *-en: *imen > *imę (*імя*), *pledmen > *plemę (*племя*), *sěmen > *sěmę (*семя*) і інш.;

4) у канчатках дзеясловаў 1-й асобы адзіночнага ліку цяперашняга або будучага простага часу абвеснага ладу:

*bьrati – *bьron > *bьrǫ (*бяру*),
*gъnati – *gъnjon > *gъnjǫ (*ганю*).

Насавыя галосныя ўзніклі ў апошні перыяд існавання праславянскай мовы (прыкладна ў IV–VI стст.). У старажытнасці насавыя галосныя былі вядомы ўсім праславянскім дыялектам. У сучаснасці яны захоўваюцца толькі ў польскай і кашубскай мовах, а таксама ў асобных македонскіх гаворках. Ва ўсіх астатніх славянскіх мовах насавыя галосныя страціліся – дэназалізаваліся.

У жывой агульнаўсходнеславянскай мове к пачатку пісьмовага перыяду (да канца Х ст.) насавыя галосныя зніклі і на іх месцы сталі вымаўляцца іншыя галосныя:

*ę > [’a]: *měsęcь > *месяц*,
*ǫ > [u]: *krǫgъ > *круг*.

Аднак у першых помніках агульнаўсходнеславянскага пісьменства літары ѧ (ѩ) і ѫ (ѭ), якімі абазначаліся насавыя галосныя ў адпаведнасці са стараславянскай пісьмовай традыцыяй, працягвалі ўжывацца. У той перыяд іх напісанне часам блыталася з напісаннем літар, якімі абазначаліся чыстыя (ненасавыя) галосныя гукі (ꙗ, а, оу, ȣ, ү), што і з’яўляецца сведчаннем страты насавых галосных ва ўсходніх славян яшчэ да пачатку пісьмовага перыяду, г. зн. да канца Х ст.

У сучасных усходнеславянскіх мовах захаваліся некаторыя факты, якія даказваюць існаванне насавых галосных. Напрыклад, у беларускай мове гэта чаргаванні:

1) галосных [а], [’а] (<*ę) // [у] (<*ǫ) у гістарычна аднакарэнных словах:

*запрагаць – падпруга,*
*вязкі – вязаць – абабвязаць – вязень – саюз – вузкі – вузел – вуздэчка*;

2) гукаў [а], [’а], [у] са спалучэннем, утвораным па мадэлі *галосны + насавы зычны*:

*пачаць – пачынаць,*
*мяць – размінаць,*
*племя – плямёны.*

Для таго каб высветліць паходжанне галоснага – узнік ён на месцы былога насавога ці не, – можна зрабіць наступнае:

• параўнаць слова з адпаведным словам мовы, у якой насавыя галосныя захаваліся, напрыклад польскай:

*вязанка – wiązka,* *мудрасць – mądrość,*
*голуб – gołąb,* *свята – święto*;
*луг – łąka,*

• параўнаць слова з адпаведным словам індаеўрапейскай мовы, дзе захавалася спалучэнне галоснага з наступным насавым зычным:

*гусь* – ням. *die Gans,* *месяц* – літ. *mėnuo,*
*дуга* – літ. *dangùs,* *мята* – ням. *die Minze*;

• прааналізаваць паходжанне мяккага зычнага перад [’а] – пасля другасна памякчоных [’а] < [ę]:

*вянуць* (польск. *zwiędnąć*), *мяккі* (польск. *miękki*),
*дзяцел* (польск. *dzięcioł*), *пятніца* (польск. *piątek*),
*дзякаваць* (польск. *dziękować*), *пятля* (польск. *pętla*).

Але не блытаць з яканнем: вясна, дзявочы, мяшок, пячнік і пад., дзе [а] < [э].

## Заданні

Заданне 1. Параўнайце словы розных славянскіх і неславянскіх моў. Зрабіце вывад аб характары і часе ўзнікнення, а таксама захаванасці насавых галосных.

| Неславянскія мовы | Стараславянская мова | Паўднёваславянскія мовы | Заходнеславянскія мовы | Усходнеславянскія мовы |
|---|---|---|---|---|
| лац. *menta* (‘мята’)<br>англ. *mint* (‘мята’)<br>ісп. *mentha* (‘мята’)<br>ням. *Minze* (‘мята’) | мѧта | балг. *мята*<br>харв. *metvica* | польск. *mięta*<br>чэшск. *máta*<br>слвц. *meta* | бел. *мята*<br>укр. *м’ята*<br>руск. *мята* |

*Заканчэнне табліцы*

| Неславянскія мовы | Старасла-вянская мова | Паўднёва-славянскія мовы | Заходне-славянскія мовы | Усходне-славянскія мовы |
|---|---|---|---|---|
| літ. *ungurỹs* (‘вугор’)<br>ст.-пруск. *angurgis* (‘вугор’)<br>лац. *anguis* (‘змяя’)<br>лац. *anguilla* (‘вугор’) | **жгорищь** | макед. *јагула*<br>харв. *jegulja* | польск. *węgorz*<br>чэшск. *úhořovití*<br>слвц. *úhor* | бел. *вугор*<br>укр. *вугор*<br>руск. *угорь* |

З а д а н н е 2. Прасачыце лёс слоў, праформы якіх прыведзены ніжэй. Растлумачце ўмовы і прычыны ўзнікнення насавых галосных на месцы дыфтангоідаў у гэтых прыкладах.

1) *bom-bь-nъ, *zon-brъ;
2) *rěka-m, *ryba-m, *sila-m;
3) *orьl-ent, *otrok-ent;
4) *da-jon, *xod-jon.

З а д а н н е 3. Самы старажытны лакалізаваны і датаваны помнік усходнеславянскага пісьменства – Астрамірава евангелле (1056–1057). Параўнайце напісанні падкрэсленых слоў у працытаваных з гэтага твора сказах і патлумачце разыходжанні ва ўжыванні графемы ѧ.

**ѥгда же приближисѧ <u>врѣмѧ</u> плодомъ · посъла рабы своѩ · къ дѣлателюмъ · приѩти плоды ѥго** (С. 78 б)

**виноградъ прѣдасть инѣмъ дѣлателюмъ · иже въздадѧть ѥмоу плоды въ <u>врѣмена</u> своꙗ** (С. 79)

З а д а н н е 4. Прааналізуйце напісанне падкрэсленага назоўніка ў сказе з кнігі Ісуса Навіна, перакладзенай і надрукаванай Ф. Скарынай у 1518 г. Ці адпавядае такое напісанне кніжна-славянскай традыцыі? Адкажыце, абапіраючыся на тое, што слова ўзыходзіць да праславянскага кораня *golomb-.

**И се ѿверзошесѧ емоу небеса и виде доухъ божий исходѧщъ ꙗко <u>голубь</u>** (Скар. ІН, 3 б).

З а д а н н е 5. Праславянскую форму падкрэсленага назоўніка можна рэканструяваць як *prendjā (Н. скл., адз. л.). Якая агульнаўсходнеславянская форма выступала на яе месцы? Ці адпавядаюць падкрэсленыя напісанні кніжна-славянскай (царкоўнаславянскай) традыцыі?

1) **цена… за локоть скатерте<sup>s</sup> водлѹгъ важности <u>прꙗжы</u> и тка<sup>н</sup>ѧ такъ же ꙗко и за полотно** (Ст. 1588, 516);

2) **выкрали… <u>пражы</u> суконное до запон розное фарбы клупков двадцат шест** (АВК, XXXVI, 356, 1582).

Якія яшчэ фанетычныя асаблівасці перадаюць падкрэсленыя словы?

З а д а н н е 6. Параўнайце прапанаваныя фразеалагізмы.

*Бел*. ні ў пяць ні ў дзесяць;

*польск*. nie pięć, nie dziewięć (‘дрэнна і непапраўна (зрабіць)’);

*літ*. nei penki, nei devyni (‘ні тое ні сёе’, літаральна ‘ні пяць ні дзевяць’).

Якую выснову можна зрабіць адносна праславянскай формы кораня лічэбніка *пяць*? Якая фанетычная асаблівасць аб’ядноўвае яго з праславянскай формай кораня лічэбніка *дзесяць*? Параўнайце з польск. *dziesięć* і літ. *dẽšimt*.

З а д а н н е 7. Прачытайце частку слоўнікавага артыкула з «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы» (Т. 2. С. 170).

**Ві́цязь** (БРС). Рус. *ви́тязь*, укр. *ви́тязь*, ст.-рус. *витязь*, в.-луж. *wićaz* ‘герой; селянін, арандатар’, чэш. *vítěz*, славац. *vít’az*, славен. *vítez*, серб.-ц.-слав. **ви́тѧѕь**, серб.-харв. *ви̏тêз*, балг. *ви́тез*, макед. *витез*. <…> Большасць даследчыкаў лічаць славянскае слова запазычаным з герм… узводзяць *vitędzь* да герм. **víking-*, ст.-ісл. *víkíngr*, якія звязаны са ст.-саксон. *wîk* ‘жыллё’, ст.-в.-ням. *wîch* ‘тс’; славянская форма ўзнікла ў выніку другой палаталізацыі і дысіміляцыі.

Патлумачце характар і ўмовы, пры якіх адбыліся названыя фанетычныя змены ў запазычаным славянамі корані *víking-.

З а д а н н е 8. Прааналізуйце напісанні падкрэсленых слоў.

1) **поєхал ꙋ поле и стрѣтилъ ѡдного <u>витєзѧ</u>** (Бава, 138);

2) **ѡ мои милыи… все$^{х}$ ꙗзыкъ силнеишии великии <u>витѧзи</u>** (Алекс. XV, 1 б).

Корань у якім з напісанняў адпавядае царкоўнаславянскай традыцыі, а ў якім не адпавядае? Чым гэта тлумачыцца?

З а д а н н е 9. Абапіраючыся на «Этымалагічны слоўнік беларускай мовы» (Т. 7. С. 81–82, 119; Т. 8. С. 146), дакажыце, што словы *мудры*, *мысль*, *памяць* паходзяць ад аднаго і таго ж індаеўрапейскага кораня. Патлумачце фанетычныя змены, што адбыліся ў ім.

З а д а н н е 10. Растлумачце прычыны чаргавання [а] // [ін] у парах гістарычна аднакарэнных слоў.

Звякаць – звінець, клятва – праклінаць, памятаць – запамінаць.

## ТЭСТ

**1.** Адзначце правільны адказ.

Прычынай узнікнення насавых галосных з’яўляецца:

1) другаснае памякчэнне зычных;

2) закон адкрытага склада;
3) прынцып складовага сінгарманізму;
4) тэндэнцыя да складовага сінгарманізму.

**2.** Адзначце правільны адказ.

Дэназалізацыя – гэта:
1) страта галоснымі насавога прыгуку;
2) утварэнне насавых галосных;
3) чаргаванне насавых галосных са спалучэннем ненасавога галоснага і санорнага зычнага.

**3.** Размясціце формы назоўніка *гуслі* ў парадку ад самай старажытнай да сучаснай.

1) **гѫсли**; 4) gǫsli;
2) gonsli; 5) gondsli;
3) гусли; 6) гуслі.

**4.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Канчаткі назоўнікаў – назваў маладых істот пададзены ў адпаведнасці з кніжна-славянскай традыцыяй у сказах:
1) **за ꙗгне шесть грошеⷭ** (Ст. 1588, 513);
2) **найдете осьлицу привѧзаную и жеребѧ зⷭ нею** (Цяп., 28 б);
3) **провадили ослицꙋ и ослѧ преⷣ ꙋлицꙋ** (Зб. 255, 33);
4) **слиша телѧ златое и поклонишесѧ емꙋ** (Скар. КВ, 80 б).

**5.** Адзначце правільны адказ.

На месцы насавых *ę і *ǫ ў сучаснай беларускай мове выступаюць гукі:
1) [э] і [о];
2) [а] і [у];
3) [і] і [ы].

**6.** Адзначце правільны адказ.

Слова, якое мела праформу *prendti:
1) прадаць; 4) прайсці;
2) пара́дзіць; 5) параніць.
3) прасці;

**7.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

У беларускай мове гук [’а] выступае на месцы *ę, калі пры змене слова або ў аднакарэнным слове можна знайсці чаргаванні:
1) [а] // [у] (*вязаць – вузел*); 3) [а] // [о] (*акно* // (*за*) *вокнамі*);
2) [а] // [э] (*начарціў* // *чэрціць*); 4) [а] // [ын] (*пачаць* // *пачынаць*).

**8.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Словаформы, у якіх прысутнічае галосны гук, што развіўся на месцы былых насавых галосных:

1) жаць;
2) жну;
3) жняя;
4) жатва;
5) дажынкі.

**9.** Размяркуйце ўсе прыведзеныя словы па дзвюх групах.

1. Словы, у якіх падкрэсленая галосная абазначае гук, што ўтварыўся з *ę:

2. Словы, у якіх падкрэсленая галосная абазначае гук, што ўтварыўся з *ǫ:

а) зяць;
б) дуброва;
в) месяц;
г) мяснік;
д) вуда;
е) муж.

**10.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

У сучаснасці насавыя галосныя захоўваюць:

1) балгарская мова;
2) кашубская мова;
3) некаторыя македонскія дыялекты;
4) некаторыя ўкраінскія дыялекты;
5) польская мова.

Тэма 9

# Гісторыя *ě (яць)

Гісторыя фанемы <ě> пачынаецца ў праславянскі перыяд: спачатку з і.-е. *ē ўтварыўся гук *$ě_1$, які разам з іншымі галоснымі пярэдняга рада выклікаў I палаталізацыю заднеязычных, пры гэтым сам гук *$ě_1$ пасля шыпячых пачаў вымаўляцца як [а]:

*gērŏs > *žěrъ > *žarъ (**жаръ**).

Пасля іншых зычных гэты галосны вымаўляўся як доўгі пярэдні сярэдне-верхняга пад'ёму:

*zvērĭs > *zvěrь (**звѣрь**),
*sēmen > *sěmę (**сѣмѧ**).

Пазней у выніку манафтангізацыі дыфтонгаў з'явіўся *$ě_2$, які выклікаў II палаталізацыю заднеязычных:

*koina > *kěna > *cěna (**цѣна**).

Так званы *$ě_3$ прадстаўлены ў паўднёваславянскіх мовах у зменах спалучэнняў тыпу *tert, *telt (**брѣгъ, шлѣмъ**), усходнеславянскія поўнагалосныя адпаведнікі якіх (з *ере*, *ело*) ніколі не маюць **ѣ** (**берегъ, шеломъ**).

На пэўным этапе фанема <ě> перажыла змены і супала па гучанні з іншымі галоснымі фанемамі. У літаратурных беларускай і рускай мовах на месцы этымалагічнага [ě] часцей за ўсё вымаўляецца [э] (трэба мець на ўвазе, што ў беларускай мове гэты [э] ў ненаціскным становішчы можа пераходзіць у [а]). Ва ўкраінскай мове этымалагічнаму [ě] адпавядае [і]. У асобных гаворках на месцы [ě] можна пачуць [ê] ([э] закрыты) і дыфтонг [$\widehat{\text{ie}}$], а ў некаторых палескіх гаворках – [і] (больш дакладна гл.: карта № 34 ДАБМ). У невялікай

колькасці беларускіх слоў на месцы былога [ĕ] вымаўляецца [і]: *дзіця* (але *дзеці*), *усміхацца* (але *смех*), *світанак* (але *свет*), *цвісці* (але *цвет*), *квітнець* (але *кветка*).

Старабеларускія помнікі паказваюць дэфаналагізацыю <ĕ> з XIII ст.: на месцы літары **ѣ** часам ужываецца **є** або **ь**.

Такім чынам, сучасны [э] можа быць спрадвечным (**вєсна** > *вясна*[1]) або паходзіць з рэдукаванага *ь (**дьнь** > *дзень*) ці з *ĕ (**лѣто** > *лета*).

Пры вызначэнні прататыпа гука [э] трэба памятаць, што *ĕ ніколі не чаргуецца:

- з нулём гука (*дзень – дня* < **дьнь, дьнꙗ**);
- з [о] (*вясна – вёсны* < **вєсна**)[2].

Прыём знешняй рэканструкцыі параўнальна-гістарычнага метаду дазваляе выявіць прататып сучаснага гука.

Так, калі слова ў беларускай і рускай мовах вымаўляецца з гукам [э], а ва ўкраінскай на яго месцы гучыць [і], значыць, у праформе на іх месцы вымаўляўся [ĕ]:

бел., руск. *хлеб*, укр. *хліб* < **хлѣбъ**.

Калі пасля галоснага ідзе зычны [з], [с], [д], [т], [н], то можна параўноўваць з польскай мовай, дзе ў такой пазіцыі вымаўляецца [а]:

бел. *лета, дзед* < **лѣто, дѣдъ** – польск. *lato, dziad*.

Акрамя таго, варта скарыстаць звесткі з гісторыі словазмянення. Так, форма вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў утваралася пры дапамозе суфікса *-ейш-/-эйш-* < *-ĕjьs-:

*смялейшы, шырэйшы* < **смѣлѣи, ширѣи**.

Канчатак -**ѣ** мелі назоўнікі жаночага роду з цвёрдымі асновамі ў давальным і месным склонах адзіночнага ліку (**сєстрѣ, водѣ, (по) руцѣ, (на) дорозѣ**), са спрадвечна мяккімі – у родным склоне адзіночнага ліку і назоўным склоне множнага ліку ((**бєзъ**) **мєжѣ**, (**добрыѣ**) **зємлѣ**). Назоўнікі мужчынскага роду тыпу скланення на *ŏ – у месным склоне адзіночнага ліку ((**о**) **братѣ**, (**въ**) **городѣ**). З *ĕ паходзіць канчатак *-е* ў назоўным склоне множнага ліку неасабовых займеннікаў (**вьсѣ, моѣ, твоѣ, своѣ** > *усе, мае, твае, свае*).

[1] У беларускай мове тут [э] > [а].

[2] Выключэнне складаюць словы *вядро* (**вѣдро**), *гняздо* (**гнѣздо**), дзе чаргаванне адбылося па фанетычнай аналогіі (*вёдры, гнёзды*).

## ЗАДАННІ

З а д а н н е 1. Параўнайце сучасныя беларускія і ўкраінскія словы, запішыце іх у адпаведнасці з пісьмовай традыцыяй XI ст.

*Бел.*: век, верх, выбягаць, дзяліць, ежа, ехаць, зерне, зіма, меншы, мераць, меч, мяцеліца, недавер, пацалунак, след, сляпы, цемя, цеста, цёмны, цёплы, цэлы;

*укр.*: вік, верх, вибігати, ділити, їжа, їхати, зерно, зима, менший, міряти, меч, метелиця, недовір'я, цілунок, слід, сліпий, тім'я, тісто, темний, теплий, цілий.

З а д а н н е 2. Параўнайце польскія словы з іх усходнеславянскімі адпаведнікамі і высветліце, у якіх з іх некалі быў гук *ě.

Berkut, biały, chmiel, dąb, gwiazda, las, miara, miedza, niebo, obiad, piec, siano, siejba, siekiera, talent, wiatr, wiara.

З а д а н н е 3. Запішыце па правілах XI ст. словы, якія развіліся з наступных праформаў; растлумачце фанетычныя змены ў іх.

*begēti, *dyxēti, *krikēti, *legēti, *mъlkēti, *sluxēti.

З а д а н н е 4. Вядома, што ў старaславянскай мове назоўнікі ў давальным і месным склонах адзіночнага ліку мелі канчатак, які паходзіць з індаеўрапейскіх дыфтонгаў *$\widehat{oi}$/*$\widehat{ei}$. Запішыце наступныя назоўнікі па правілах XI ст. у форме:

а) *давальнага склону*: дарога, кніга, кніжка, муха, нага, рака, рука, сваха;

б) *меснага склону*: бераг, бок, воблака, вораг, воўк, гарадок, кубак, пастух, снег.

З а д а н н е 5. У дагаворнай грамаце князя Юрыя Святаславіча з каралём польскім і літоўскім Уладзіславам і вялікім князем Скіргайлам 1386 г. чытаем:

**ми с нимъ за ѡдинъ быти и не ѡстати ми короля никоторымъ веремянемъ а никоторым дѣломъ ни оу лисе а ни оу добрѣ не ѡтверечи ми ся короля.**

Запішыце падкрэслены назоўнік у пачатковай форме (Н. скл., адз. л.). Ці адпавядае канчатак гэтага назоўніка ў тэксце кніжнай традыцыі?

З а д а н н е 6. Вядома, што назоўнікі мужчынскага і ніякага роду з індаеўрапейскімі асновамі на *ŏ ў месным склоне множнага ліку мелі канчатак **-ѣхъ** (дзе *ě паходзіць з дыфтонга). Запішыце па правілах XI ст. форму меснага склону множнага ліку наступных назоўнікаў:

**дроугъ, грѣхъ, коньникъ, мохъ, плоугъ, порогъ, порохъ, поутьникъ, страхъ, оурокъ.**

З а д а н н е 7. Не карыстаючыся этымалагічным слоўнікам, вызначце, у якіх з наступных слоў гук [э] спрадвечны, а ў якіх паходзіць з *ě. Адказ абгрунтуйце.

Бярэзнік, вячэрні, жэрдка, рэчка, рэпа, сярэдзіна, чэрці, шэсць, цэлы.

З а д а н н е 8. Вызначце, у якіх з наступных слоў гук [э] паходзіць з *е або *ь, а ў якіх – з *ě. Адказ абгрунтуйце.

Дзень, дзеўчына, канец, мелкі, медуніца, месці, несці, сем, сесці.

З а д а н н е 9. З дапамогай «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы» аднавіце праформы каранёў.

*Бел.*: дзіцця, цвісці, усміхацца; *руск.*: мизинец, сидя.

З а д а н н е 10. Аднавіце праформы падкрэсленых слоў; у тых, дзе быў гук *ě, адзначце яго паходжанне. Улічвайце неўнармаванасць старабеларускай арфаграфіі. Пры неабходнасці звяртайцеся да «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы».

1) **ѡнъ собе на кривомъ столе прилегъ спати по ѡбеде** (КВЗС, 103 б, 1539);

2) **ты же єдина прелесть погꙋбиши и печаль преложиши на радость** (Чэцця, 37);

3) **коли Бово тыє пѣсни порозумел, прышодшы к неи и рече: Пани, поведаи ми, што за пѣсни** (Бава, 170);

4) **по$^{д}$часъ в$^{ѕ}$ глꙋбокомъ мол$^{ѕ}$чан$^{ѕ}$и, тихости и покою, в часꙋ д҃ша заживаєтъ, в$^{ѕ}$ самой дꙋховной роскоши и невымовной тишинѣ и цѣлости трваючи** (Мак., 194).

З а д а н н е 11. Ацаніце напісанні падкрэсленых слоў паводле адпаведнасці кніжнай традыцыі ці жывому вымаўленню.

**пасꙗхусꙗ по брѣгу тоежь реку по местехъ зеленыхъ** (Скар. ІН, 74).

З а д а н н е 12. Прачытайце ўрывак з паэмы Я. Коласа «Новая зямля» і адзначце словы (словаформы), у якіх прысутнічае гук на месцы былога *ě.

Дзень добры, новая мясціна!
Спаткай ты нас, як маці сына
Па часе доўгае разлукі,
І разгарні прыветна рукі
Для тых, хто змушаны ў няволі
Жывіцца хлебам твайго поля…

## ТЭСТ

**1.** Для кожнага варыянта фанемы *ě падбярыце характарыстыкі, каб атрымаліся правільныя выказванні.

1) *$ě_1$; 2) *$ě_2$; 3) *$ě_3$;

а) утварылася ў выніку манафтангізацыі дыфтонгаў;
б) утварылася з *ē;
в) утварылася ў выніку змен спалучэнняў тыпу *tert, *telt;
г) выклікала I палаталізацыю заднеязычных;
д) выклікала II палаталізацыю заднеязычных;
е) у беларускай мове дэфаналагізавалася ў [э];
ж) сёння пасля шыпячых вымаўляецца як [а];
з) прысутнічае толькі ў паўднёваславянскіх мовах.

**2.** Адзначце правільны адказ.

З праформы *kēra ўтварылася слова:

1) кара́; 4) чара;
2) ка́ра; 5) чэрап.
3) сера;

**3.** Адзначце правільны адказ.

З праформы *gēba ўтварылася слова:

1) гібель; 4) жаба;
2) губа; 5) жэрабя.
3) гэбель;

**4.** Суаднясіце слова (1, 2, 3) і праформу яго кораня (а, б, в).

1) (мы) нази; а) *nozj-;
2) (по) нозѣ; б) *nog-;
3) (на) ножи; в) *nag-.

**5.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Гук [э] паходзіць з *ě ў словах:

1) абед; 4) вера;
2) белы; 5) зацвердзіць.
3) бераг;

**6.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Гук [э] паходзіць з *ě ў словах:

1) жалеза; 4) пень;
2) лета; 5) песня.
3) мера;

**7.** Суаднясіце гук [э] ў сучасным слове (1, 2, 3, 4, 5) з яго паходжаннем (а, б, в).

| | |
|---|---|
| 1) вылет; | а) < *е; |
| 2) маладзец; | б) < *ь; |
| 3) медзь; | в) < *ѣ. |
| 4) снег; | |
| 5) несці; | |

**8.** Суаднясіце гук [э] ў сучасным слове (1, 2, 3, 4, 5) з яго паходжаннем (а, б, в, г).

| | |
|---|---|
| 1) пер’е; | а) < *е; |
| 2) звер; | б) < *ь; |
| 3) палец; | в) < *ѣ; |
| 4) звесткі; | г) устаўны [э]. |
| 5) рубель; | |

**9.** Суаднясіце гук [э] ў сучасным слове (1, 2, 3, 4, 5) з яго паходжаннем (а, б, в, г).

| | |
|---|---|
| 1) карабель; | а) < *е; |
| 2) светлы; | б) < *ь; |
| 3) возера; | в) < *ѣ; |
| 4) везці; | г) устаўны [э]. |
| 5) авадзень; | |

**10.** Суаднясіце падкрэслены канчатак (1, 2, 3, 4, 5) з яго паходжаннем (а, б).

А.

| | |
|---|---|
| 1) у нас свае дарогі; | а) < *е; |
| 2) здароўе; | б) < *ѣ. |
| 3) на малацэ; | |
| 4) усе справы; | |
| 5) па дарозе; | |

Б.

| | |
|---|---|
| 1) па лесе; | а) < *е; |
| 2) твае заданні; | б) < *ѣ. |
| 3) смецце; | |
| 4) поле; | |
| 5) у сне; | |

Тэма 10

# Гісторыя рэдукаваных галосных: пазіцыі рэдукаваных у слове

У фанетычнай сістэме праславянскай і пачатковага перыяду агульнаўсходнеславянскай мовы існавалі спецыфічныя галосныя гукі [ъ] (ёр) і [ь] (ер), якія адрозніваліся ад кароткіх і доўгіх галосных тым, што вымаўляліся вельмі каратка нават пад націскам. Менавіта таму іх называюць ***рэдукаванымі*** (а таксама ***звышкароткімі***, ***галоснымі няпоўнага ўтварэння***).

Рэдукаваныя паходзяць з індаеўрапейскіх кароткіх галосных *ŭ (> *ъ), *ĭ (> *ь):

*і.-е.**ŭ > *ъ: *mъхъ > **мохъ**, параўн.: лац. *mŭscus*,
і.-е *synъ > **сынъ**, параўн.: літ. *sūnús*;

*і.-е.* *ĭ > *ь: *ovьc'a > **овьца**, параўн.: лац. *ovĭs*,
*lьnъ > **льнъ**, параўн.: літ. *lìnas*.

Вымаўленне рэдукаваных залежала ад пазіцыі ў слове: у моцнай пазіцыі вымаўленне [ъ] набліжалася да [о], [ь] – да [э], у слабай пазіцыі рэдукаваныя вымаўляліся звышкаратка і паступова страціліся (табл. 4).

*Табліца 4*

**Пазіцыі рэдукаваных галосных**

| Слабая | |
|---|---|
| 1) абсалютны канец слова | **животъ, снѣдь** |
| 2) перад складам з больш гучным галосным:<br>а) поўнага ўтварэння;<br>б) моцным рэдукаваным | <br>а) **правьда, узьрите;**<br>б) **дьньсь, сънъмь, шьвьць** |

*Заканчэнне табл. 4*

| Моцная | |
|---|---|
| 1) перад складам са слабым рэдукаваным | **дьнь, мъхъ** |
| 2) у шматскладовых (тры склады і больш) словах пад націскам | **тъпътъ, шьпътъ** |

**Правілы вызначэння пазіцыі рэдукаванага галоснага**

1. Пачынаць вызначэнне пазіцыі трэба з канца слова: **шьпътъ**.

2. У шматскладовых словах пад націскам пазіцыя рэдукаванага заўсёды моцная: **шьпътъ**.

3. Два слабыя рэдукаваныя ў суседніх складах не сустракаюцца, два моцныя могуць быць: **шьпътъ**.

4. Пры форма- і словазмяненні пазіцыя рэдукаванага таксама можа мяняцца: **шьпътъ – шьпътати**.

Працэс знікнення рэдукаваных [ъ] і [ь] ў слабай пазіцыі і вакалізацыя, або праясненне іх у галосныя поўнага ўтварэння, у моцнай носіць назву ***страты рэдукаваных***. Знікненне *ъ і *ь адбывалася найперш у такіх становішчах, дзе не было спрыяльных умоў для ўзмацнення (падаўжэння), – у безальтэрнатыўнай[1] пазіцыі (**вьдова, къниги, кънязь, мъногы, пътица**), потым – на канцы слоў (**городъ, домъ, соль**) і нарэшце – у сярэдзіне слова перад складам з галосным поўнага ўтварэння (**иголъка, письмо, правьда**).

Страта рэдукаваных галосных вядома ўсім славянскім мовам. У кніжна-славянскай мове гэты працэс зафіксаваны з канца X ст., ва ўсходнеславянскіх гаворках ён праходзіў пазней і скончыўся прыкладна да XII ст. Аднак на пісьме рэдукаваныя захоўваліся вельмі доўга (да арфаграфічнай рэформы 1917–1918 гг.), што тлумачыцца традыцыйнасцю правапісу.

У розных славянскіх мовах лёс рэдукаваных галосных аказаўся неаднолькавым. Ва ўсходнеславянскіх мовах рэдукаваныя ў слабай пазіцыі зніклі, а ў моцнай вакалізаваліся ў гукі поўнага ўтварэння: [ъ] > [о] і [ь] > [э]. У заходнеславянскіх мовах (напрыклад, у польскай) са слабымі рэдукаванымі адбылося тое ж, а рэдукаваныя ў моцнай пазіцыі вакалізаваліся наступным чынам:

[ъ] > [э]: *sъnъ > *sen* (*сон*), *lъbъ > *leb* (*лоб*),
[ь] > [э]: *lьnъ > *len* (*лён*), *pьsъ > *pies* (*пёс*).

У наступныя эпохі развіцця асобных славянскіх моў галосныя, што з'явіліся на месцы моцных рэдукаваных, падпадаюць пад далейшыя

[1]Безальтэрнатыўнай лічыцца пазіцыя, пры якой рэдукаваны ніколі не станавіўся моцным пры форма- і словазмяненні.

змены. Так, напрыклад, у беларускай мове [о] і [е] на месцы былых моцных рэдукаваных у ненаціскным становішчы падлягаюць аканню:

[ъ] > [о] // [а]: **тъпътати** > *таптаць*,
[ь] > [э] // [а]: **шьпътати** > *шаптаць*.

У некаторых выпадках рэдукаваныя ў слабай пазіцыі былі заменены гукамі поўнага ўтварэння не з-за фанетычных умоў, а ў выніку дзеяння марфалагічнай аналогіі – так адбылося, напрыклад, выраўноўванне асновы назоўнага склону назоўніка *шавец* на ўзор асновы ўскосных склонаў:

**шьвьць – шьвьца, шьвьцу** і г. д.,
*шавец – шаўца, шаўцу* і г. д.

Страта рэдукаваных абумовіла глабальную перабудову фанетычнай сістэмы ўсіх дыялектаў агульнаўсходнеславянскай мовы, напрыклад:

1) было канчаткова страчана супрацьпастаўленне галосных па даўжыні/кароткасці вымаўлення: раней кароткія *е, *о падоўжыліся і перасталі колькасна адрозніваецца ад іншых галосных;

2) закон адкрытага склада перастаў быць абавязковым, сталі з'яўляцца закрытыя склады: **лѣ-съ** > *лес*; **ть-сть** > *цесць*;

3) змянілася колькасць складоў у слове, а таксама іх межы: **дьнь** > *дзень*, **до-бы-тъ-къ** > (*з*)*да-бы-так*;

4) з'явіліся раней немагчымыя спалучэнні зычных, якія да гэтага былі размежаваны слабым рэдукаваным: **седьло** > *сядло*, **метьла** > *мятла*, **локъти** > *локці*.

Гэтыя змены, у сваю чаргу, выклікалі розныя віды кантактнай асіміляцыі, спрашчэнне і сцяжэнне груп зычных, дысіміляцыю.

## ЗАДАННІ

З а д а н н е 1. Вызначце і ахарактарызуйце моцную і слабую пазіцыі рэдукаваных галосных у словах:

| | |
|---|---|
| 1) **бьрати**; | 8) **лапъть**; |
| 2) **бъдръ**; | 9) **льгокъ**; |
| 3) **вьсь**; | 10) **овьнъ**; |
| 4) **вьсѩкъ**; | 11) **зълъ**; |
| 5) **дъва**; | 12) **сънъ**; |
| 6) **дългъ**; | 13) **юньць**; |
| 7) **къто**; | 14) **чьто**. |

З а д а н н е 2. Вызначце і ахарактарызуйце моцную і слабую пазіцыі рэдукаваных галосных у групах слоў:

1) **гърньчаръ;** 2) **красьнъ;**
**гършьчьникъ;** **льгъкъ;**
**мъножьство;** **мьдьльнъ;**
**свьрчькъ;** **скъльзъкъ;**
**сьрдьцє;** **съмьртьнъ;**
**пасынъкъ;** **тьмьнь.**

З а д а н н е 3. Зрабіце транскрыпцыю наступных слоў X ст.:

1) **высъкъ;** 6) **мєдвьнъ;**
2) **гривьна;** 7) **низъ;**
3) **кънѧгыни;** 8) **пирогъ;**
4) **късьнъ;** 9) **солодъ;**
5) **ладъ;** 10) **сѫдъ.**

*Узор*: **тъпътъ** – [$т^{о}п^{о}т^{ъ}$] > [топот].

З а д а н н е 4. Зрабіце транскрыпцыю наступных словаформаў X ст.:

1) **отьць – отьцьмь** (Т. скл., адз. л.) – **отьци** (Н. скл., мн. л.) – **отьцємъ** (Д. скл., мн. л.);

2) **цьркы** (Н. скл., адз. л.) – **цьркъвь** (В. скл., адз. л.) – **цьркъви** (Д. скл., адз. л.).

З а д а н н е 5. Запішыце наступныя словы па правілах X ст.:

1) сом, сон, сінь, сын;
2) жнец, касец, маладзец;
3) акраец, палец, сырэц.

З а д а н н е 6. Да першай часткі падкрэсленага антрапоніма падбярыце аднакарэннае слова так, каб слабы рэдукаваны ў ім вакалізаваўся.

**Се азъ Мьстиславъ Володимирь сн҃ъ дьржа роусьскоу землю въ своє княжєниє повелѣлъ єсмь сн҃оу своємоу Всеволодоу ѿдати Боуицѣ ст҃моу Гєѡргиєви**[1] (Гр. Мсц. 1130).

[1]**ѿдати Боуицѣ ст҃моу Гєѡргиєви** – ‘перадаць права валодання пасяленнем пад назвай **Боуицѣ** манастыру Святога Георгія’.

Прааналізуйце напісанне іншых антрапонімаў з гэтага ўрыўка. У якім з іх ёсць парушэнні ва ўжыванні рэдукаваных галосных? Чым гэта можна патлумачыць?

З а д а н н е 7. У старажытнасці, прыкладна з IX па XVIII ст., існаваў вайсковы і адміністратыўна-тэрытарыяльны чын, які называўся *сотнік* – камандзір, кіраўнік над сотняй чалавек. Запішыце назоўнікі *сотнік* і *сотня*, а таксама лічэбнікі *сто* і *соценны* (у кароткай форме) па правілах X ст.

З а д а н н е 8. Дакажыце, што ў словах *канец*, *пазногаць*, *соннік* гукі, абазначаныя падкрэсленымі літарамі, паходзяць з рэдукаваных галосных.

З а д а н н е 9. Вызначце пазіцыі рэдукаваных ва ўсіх склонавых формах і пакажыце ў транскрыпцыі адрозненні ў іх вымаўленні. Патлумачце змены, што адбыліся ў парадыгме тапоніма *Віцебск* пасля страты рэдукаваных галосных.

Н. **витьбьскъ**;
Р. **витьбьска**;
Д. **витьбьскꙋ**;
В. **витьбьскъ**;
Т. **витьбьскомь**;
М. **витьбьсцѣ**.

Фанетычнымі ці марфалагічнымі прычынамі выклікана гэтыя змены?

У назвах якіх беларускіх гарадоў прадстаўлены аналагічныя з’явы? Звярніце ўвагу на паходжанне гэтых тапонімаў. Ад назвы якога геаграфічнага аб’екта яны ўтвораны?

З а д а н н е 10. Ахарактарызуйце ўжыванне рэдукаваных ва ўрыўку са Смаленскай граматы 1229 г. Памылковыя выпадкі размяркуйце па трох групах:

1) замест рэдукаванага ўжыты галосны поўнага ўтварэння;
2) пропуск слабага рэдукаванага;
3) рэдукаваны на месцы галоснага поўнага ўтварэння.

**Что сѧ дѣѥтѣ по вѣремьнемь. то ѿидето по вѣрьмьнемь. приказано боудѣтѣ добрымъ людѣмъ. а любо грамотою оутвѣрдѧть. како то боудѣте всемъ вѣдомъ. или кто посль живыи ѡстанѣтьсѧ. того лѣт коли алъбрахтъ. Вл҃дка ризкии оумьрлъ. Ѹздоумалъ кнѧзѣ смольнескыи. мьстиславъ. Дв҃двъ с҃нъ. прислалъ въ ригоу своѥго лоучьшего попа. ѥрьмеꙗ. и съ нимь оумьна моужа пантельꙗ. исвоѥго горда смольнеска. та два была послъмъ оу ризѣ. Из ригы ѥхали на гочкыи берьго. тамо твердити миръ.**

*Для даведкі*: арфаграфічная традыцыя патрабавала напісання: 1) фіналі **-мь** ў формах Т. скл. адз. л. назоўнікаў і прыметнікаў м. і н. р., 2) фіналі **-мъ** ў формах Д. скл. мн. л. назоўнікаў, прыметнікаў і неасабовых займеннікаў, 3) фіналі **-ть** ў дзеясловах адз. і мн. л.

## ТЭСТ

**1.** Адзначце правільны адказ.

Галосныя гукі *ъ і *ь адрозніваліся ад іншых галосных гукаў старажытнасці:

1) сілай, з якой яны вымаўляліся;
2) інтанацыяй, з якой яны вымаўляліся;
3) даўжынёй, з якой яны вымаўляліся.

**2.** Адзначце правільны адказ.

Працэс страты рэдукаваных ва ўсходнеславянскіх дыялектах завяршыўся:

1) да пачатку X ст.;
2) да канца XII ст.;
3) да сярэдзіны XIV ст.;
4) у XVI ст.

**3.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Страта рэдукаваных галосных – гэта:

1) знікненне моцных рэдукаваных;
2) вакалізацыя моцных рэдукаваных;
3) знікненне слабых рэдукаваных;
4) замена рэдукаваных галоснымі поўнага ўтварэння.

**4.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Падкрэсленыя літары абазначаюць рэдукаваныя галосныя ў моцнай пазіцыі ў словах:

1) **бъчька**;
2) **дъно**;
3) **игълъка**;
4) **крьстъ**;
5) **къняжьство**;
6) **пьрьць**;
7) **съметана**;
8) **сънъникъ**;
9) **търнъ**;
10) **чьтьць**.

**5.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

У гэтых назвах асоб усе рэдукаваныя галосныя знаходзяцца ў слабых пазіцыях:

1) **жьньць**;
2) **купьць**;
3) **къметь**[1];
4) **отърокъ**;
5) **старьць**;
6) **тъкачь**.

---

[1]**къметь** – 'прыгонны селянін' (ПГССЛ. Т. 1. С. 314).

**6.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Падкрэсленая літара абазначае рэдукаваны галосны, які знаходзіўся ў безальтэрнатыўнай пазіцыі, у наступных словах – назвах роднасці і сваяцтва:

1) **братъ**;
2) **вьдова**;
3) **вънжкъ**;
4) **дъчерь**;
5) **дѣверь**;
6) **дѣдъ**;
7) **отьць**;
8) **снъха**;
9) **сынъ**;
10) **тьсть**.

**7.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Пад уплывам формаў ускосных склонаў, у якіх некалі быў рэдукаваны галосны, развіліся формы назоўнага склону наступных назваў беларускіх гарадоў:

1) Полацк < **Полотьскъ – Полотьска, Полотьску…**;
2) Слуцк < **Случьскъ – Случьска, Случьску…**;
3) Івянец < **Ивеньць – Ивеньца, Ивеньцу…**;
4) Камянец < **Каменьць – Каменьца, Каменьцу…**;
5) Пінск < **Пиньскъ – Пиньска, Пиньску…**;
6) Чачэрск < **Чечерьскъ – Чечерьска, Чечерьску…**

**8.** Запішыце праславянскую форму назоўніка, супаставіўшы сучасныя словы і ведаючы, што ў праформе выступалі два рэдукаваныя галосныя.

*Бел.* асот, *руск.*, *укр.* осот, *польск.*, *чэшск.* oset.

**9.** Пастаўце формы назоўніка *талакно* ў храналагічным парадку вядомых вам фанетычных змен.

1) толокно;
2) толкъно;
3) толокъно.

**10.** Адзначце правільны адказ.

Абапіраючыся на аналіз пазіцый рэдукаваных галосных, можна вылучыць «лішняе» слова:

1) **тълковати**;
2) **тълети**;
3) **търтовати**;
4) **тързати**;
5) **търпѣти**.

## Тэма 11

# Гісторыя рэдукаваных галосных: змены ў вакалізме, выкліканыя стратай рэдукаваных

Страта рэдукаваных галосных – знікненне іх у слабых пазіцыях і вакалізацыя ў галосныя поўнага ўтварэння [о] < *ъ і [э] < *ь ў моцных – выклікала шматлікія змены ў фанетычнай сістэме. У галіне вакалізму адбыліся наступныя з'явы:

1. Страта адрознення галосных па даўжыні/кароткасці.
2. Падаўжэнне этымалагічных *о і *е.
3. Узнікненне чаргавання [і] // [ы].
4. Бегласць галосных (чаргаванне галоснага з нулём гука).
5. Узнікненне ўстаўных галосных [о], [э].
6. Узнікненне пруставўных галосных [а], [і].
7. Узнікненне чаргаванняў *ро // ры, ло // лы, ле // лі* (гл. тэму 12).
8. Другое поўнагалоссе (гл. тэму 12).

1. Яшчэ ў праславянскай мове існавала супрацьпастаўленне галосных гукаў па колькаснай характарыстыцы, г. зн. па даўжыні/кароткасці гучання:

- доўгія: *а, *ä, *ě, *ę, *ǫ, *u, *і, *у;
- кароткія: *о, *е;
- звышкароткія: *ъ, *ь.

Страта звышкароткіх галосных у далейшым абумовіла знікненне проціпастаўлення галосных па даўжыні/кароткасці.

2. У агульным рэчышчы змен знаходзілася і падаўжэнне этымалагічна кароткіх *о і *е:

[дворъ] – [дво̄р], [кон'ь] – [ко̄н'], [сем'ь] – [се̄м].

На месцы [э] з падоўжанага *е ў помніках старажытнага пісьменства часта выступае графема ѣ (яць), якую называюць «новым яцем».

Ва ўкраінскай мове ў новых закрытых складах на месцы падоўжаных *о і *е з'явіўся гук [і]:

бел., руск. *кол* – укр. *кіл*,
бел., руск. *моль* – укр. *міль*,
бел. *печ*, руск. *печь* – укр. *піч*,
бел. *попел*, руск. *пепел* – укр. *попіл*,
бел. *сельскі*, руск. *сельский* – укр. *сільский*, але *село*.

Аднак гукі [о] і [э], якія ўзніклі на месцы моцных рэдукаваных, ва ўкраінскай мове не змяніліся на [і]:

**пѣсъкъ** – бел. *пясок*, руск. *песок*, укр. *пісок*,
**коупьць** – бел., руск. *купец*, укр. *купець*.

3. У сувязі са стратай рэдукаваных галосных знаходзіцца і лёс пераходу [і] → [ы], які стаў магчымым толькі пасля знікнення слабых рэдукаваных:

**съиграти**: [съиграт'и] → [сыграт'и],
**съ икрой**: [съ икрой] → [с^ыкрой],
**братъ Иванъ**: [братъ иванъ] → [брат^ыван],
**безъ иголъки**: [б'эзъ иголък'и] → [б'эз^ыголк'и].

4. Страта рэдукаваных прывяла да ўзнікнення чаргавання [о], [э] з нулём гука, якое прынята называць ***бегласцю галосных***. Бегласць галосных мае месца ў каранях слоў:

**дьнь – дьня** (*дзень – дня*),
**овьсъ – овьса** (*авёс – аўса*),
**окъньце – окъно** (*акенца – акно*),

а таксама ў былых суфіксах **-ък-**, **-ьк-**, **-ьн-**, **-ьц-**, якія выступаюць, па сутнасці, у двух фанетычных варыянтах: [ок] і [к], [эц] і [ц], [ен'] і [н']:

-ък-: **куСъкъ – куСъка** (*кусок – куска*),
-ьк-: **мѣшькъ – мѣшька** (*мяшок – мяшка*),
-ьн-: **грьбьнь – грьбьня** (*грэбень – грэбня*),
-ьц-: **стрѣльць – стрѣльца** (*стралец – стральца*).

Бегласць галосных узнікла як фанетычная з'ява, аднак ужо ў агульнаўсходнеславянскі перыяд яна пастунова ператвараецца ў з'яву марфаналагічную – пачынае выкарыстоўвацца як форма- і слова-

ўтваральны сродак. Напрыклад, у парах слоў *гандаль – гандлю, майстар – майстра, швагер – швагра* адзначаецца чаргаванне галоснага з нулём гука. Аднак ва ўсходнеславянскія мовы дадзеныя словы трапілі пазней XII ст., гэта значыць, што бегласць галосных у іх узнікла не ў сувязі са стратай былых рэдукаваных, а па аналогіі, як сродак слова- і формаўтварэння.

5. У групах зычных з апошнім санорным і рэдукаваным на канцы слова як сродак пазбаўлення ад цяжкага для вымаўлення збегу зычных узніклі ***ўстаўныя галосныя*** [о] і [э]:

**бъбръ** – *бабёр* – параўн.: *бабра, бабровы* (*каўнер*),
**журавль** – *журавель* – параўн.: *жураўля, жураўліны* (*клін*).

Устаўныя галосныя знаходзім і ў формах роднага склону множнага ліку назоўнікаў былога скланення на *ā:

*сясцёр* – параўн.: *сястра, сястрычка*,
*песень* – параўн.: *песня*.

У гутарковай мове ўстаўны галосны набываюць запазычаныя словы, на канцы якіх выступае спалучэнне зычнага з санорным: *метр – метар, матацыкл – матацыкал* і пад. Такая з’ява назіраецца і ў літаратурнай мове: *магістр – магістарскі, міністр – міністэрскі* і інш., аднак са стратай рэдукаваных галосных яна не звязана.

6. Адна з фанетычных і марфалагічных асаблівасцей беларускай (і ўкраінскай) мовы – наяўнасць ***прыстаўных***, або ***пратэтычных, галосных*** [а], [і]. Яны ўзнікалі пераважна ў пачатку слова перад новым збегам зычных, першым з якіх быў плаўны [л] або [р]:

**ръжь – ръжанъ – аржанъи,**
**львъ – львица – ильвица,**
**рьвати – ирвати.**

Паступова прыстаўныя [а], [і] сталі ўжывацца таксама перад збегам зычных, які пачынаўся санорным [м] і ў якім некалі выступаў слабы рэдукаваны галосны:

*амшары* < **мъх-**,
*імгненна* < **мьгн-**.

У асобных гаворках прыстаўныя [а], [і] сталі ўзнікаць нават не перад санорнымі зычнымі, напрыклад перад шумным зычным [с]: *іскрыпка, істужка*, там, дзе фанетычных умоў для ўзнікнення пратэтычнага галоснага не было. Часам гэта фанетычная асаблівасць трапляе і ў мову мастацкай літаратуры.

У некаторых словах з пачатковым *і* перад збегам зычных гэты галосны з’яўляецца часткай былой прыстаўкі, а не пратэтычным. Параўн.: *ізрэбны – зрэб’е*; *ізрэбны* ‘саматканы, суровы’ < **из-грєб-ьн-ъ**.

У сучаснай беларускай мове фанетычна заканамерныя формы з пратэтычнымі галоснымі спалучаюцца з варыянтамі, што развіліся паводле граматычнай аналогіі:

**льнъ – льна** > *лён – і̯льну* і *лёну*,
**лъбъ – лъба** > *лоб – і̯лба* і *лоба*.

І наадварот, па фанетычнай аналогіі з’явілася форма з пратэтычным [і] ў слове, дзе не было рэдукаванага ў корані:

**ледъ – ледꙋ** > *лёд – лёду* і *і̯льду*.

## Заданні

З а д а н н е 1. Назавіце фанетычную з’яву, якая прадстаўлена ў антрапонімах **Ольга** і **Ольгъ** і звязана са стратай рэдукаваных. Што вы ведаеце пра паходжанне гэтых імёнаў?

З а д а н н е 2. Параўнайце пары сучасных беларускіх і рускіх слоў з іх праславянскімі формамі.

1) *rъtъ – *rъta
*бел.*: рот – рота… (у) роце,
*руск.*: рот – рта… (во) рту;

2) *lъbъ – *lъba
*бел.*: лоб – лоба… (па) лобе,
*руск.*: лоб – лба… (по) лбу.

Патлумачце, якія фанетычныя змены адбыліся ў іх і чаму адсутнічае бегласць галосных у беларускіх словах.

З а д а н н е 3. Патлумачце адрозненні ў каранях беларускіх і ўкраінскіх словаформаў, ведаючы, што яны звязаны з лёсам рэдукаваных галосных. Якія фанетычныя з’явы прадстаўлены ў гэтых словах? У якіх фанетычных умовах яны адбыліся?

| Агульнаўсходнеславянская мова | Беларуская мова | Украінская мова |
|---|---|---|
| *sъnъ – *sъna | *сон – сну* | *сон – сну* |
| *vъlkъ – *vъlka | *воўк – воўка* | *вовк – вовка* |
| *nosъ – *nosa | *нос – носа* | *ніс – носа* |
| *več’erъ – *več’era | *вечар – вечара* | *вечір – вечора* |

З а д а н н е 4. Размяркуйце беларускія словы (параўноўваючы іх з украінскімі адпаведнікамі) на дзве групы ў залежнасці ад паходжання падкрэсленых галосных:

1) з рэдукаванага *ъ, які знаходзіўся ў моцнай пазіцыі;

2) з этымалагічнага *о.

| *бел.* | *укр.* | *бел.* | *укр.* |
| --- | --- | --- | --- |
| гаворка; | говірка; | прастор; | простір; |
| кош; | кіш; | ранак; | ранок; |
| кубак; | кубок; | сноп; | сноп; |
| рокат; | рокіт; | соль; | сіль; |
| падлога; | підлога; | хорт; | хорт. |

З а д а н н е 5. Размяркуйце беларускія словы (параўноўваючы іх з украінскімі адпаведнікамі) на дзве групы ў залежнасці ад паходжання падкрэсленых галосных:

1) з рэдукаванага *ь, які знаходзіўся ў моцнай пазіцыі;

2) з этымалагічнага *е.

| *бел.* | *укр.* | *бел.* | *укр.* |
| --- | --- | --- | --- |
| апенька; | опеньок; | рэмень; | ремінь; |
| зелле; | зілля; | самец; | самець; |
| крэмень; | кремінь; | сем; | сім; |
| лавец; | ловець; | студзень; | студінь; |
| мень (‘мянтуз’); | мень; | шэсць; | шість. |

З а д а н н е 6. У наступных сказах знайдзіце словаформы, што адлюстроўваюць пераход *і → [ы], выкліканы стратай рэдукаваных. Патлумачце фанетычныя ўмовы, у якіх адбылася гэта з’ява.

1) **у в ызбе белой лихтаровъ малыхъ мосендзовыхъ тры, лꙗхтарнꙗ одна** (АВК, XX, 136, 1598);

2) **не поспешаи одыйти Ѿ лица его, и не пребуди в деле зломъ** (Скар. КЕ, 12 адв.);

3) **вступилсꙗ в нашу опочину в ызвечную** (КП, II, 118);

4) **далъ мне у въ ыменью Шембелевскомъ, которое сꙗ намъ достало по жонахъ нашихъ** (АВАК, т. 17, 322);

5) **недавно паметаем, ижъ люде на Великъдень на санꙗх ездили, и птахи, вылетевши з-ырьꙗ, отъ зимна и снегу, который былъ напалъ, поздыхали** (Антырызіс, 258).

З а д а н н е 7. Адзначце прыклады з тымі словамі, у якіх прыстаўныя галосныя з’явіліся па фанетычных прычынах, абумоўленых стратай слабых рэдукаваных.

1. Над купчастай імшарынай пацешна ўзнімаецца бусел, паважна ляціць над полем, выцягнуўшы ўперад сваю задуменную дзюбу (*М. Лынькоў*).

2. Апамятаўся я толькі ў куп'істым імху, парослым шырокімі кустамі багуну і нягеглым смучаём. Скрозь плёўся журавіннік. Спелыя, сакавітыя ягады рассыпаліся па ўсяму мху чырвонымі каралямі (*Б. Сачанка*).

3. Андрэй прыпыняўся і… аглядаў ствалы дрэў, каб па амшэлых баках пазнаць, дзе поўнач (*П. Пестрак*).

4. Нават мёртвым успомню высокія зоры,
Над ракою чырвонай і цьмянай палёт кажаноў,
Белы ветразь на сініх, на гордых, як мора, азёрах,
І бары – акіяны, і неба – разлівы ільноў (*У. Караткевіч*).

5. Па гэты бок лесу, схаваная ў нізкарослых зарасніках, мінаючы каменні і ўзгоркі, імчалася ручаіна (*К. Чорны*).

6. Вось дрэмле курган на ўзмежку,
Ігруша шуміць на кургане, –
Расказвае былі былыя,
Мінуўшаму шэпча літанне (*Я. Купала*).

7. Знаю, Госпадзі,
Шмат я грашыў,
Як грашыў
Гэты люд навакольны...
Дык не дай жа
Сканаць у ілжы,
Дай нам, Божа,
Праўдзівую долю (*М. Башлакоў*).

8. Ірвёмся ў неабжытае
Адтуль, дзе мы раслі.
Але вяртае жыта
Дахаты, да зямлі (*Я. Янішчыц*).

9. Зямля Беларусі! Бары і дубровы,
Жытнёвае поле, шаўковы мурог,
У промнях рабіны заход вечаровы,
Што клёкат буслоў – ручаёў перамовы
І ў шумных прысадах істужкі дарог (*П. Броўка*).

10. Люблю свой край, зялёны і спакойны.
Сіваваронкі дрэмлюць на слупах,
Над хатамі – знаёмыя шпакоўні,
А ў хатах аржанога хлеба пах (*Г. Бураўкін*).

З а д а н н е 8. У запісах дыялектнага маўлення знайдзіце словы з прыстаўнымі галоснымі і падбярыце адпаведнікі з літаратурнай мовы, патлумачце фанетычныя адрозненні. Адзначце сказы з тымі словамі, у якіх прыстаўныя галосныя з'явіліся нефанетычным шляхам.

1. Агдзе парцізаны былі, ім людзі чым маглі пумугалі. Айдзе мы праходзілі, нас хлебам-соллю сустрікалі (*Макеевічы, Клімавіцкі р-н*);

2. Амсьціслыў – прыгожы горыд, стаіць на высокім месьці (*Старае Сяло, Мсціслаўскі р-н*). Амціслаў ат нас трыццаць кіламетраў (*Варанёва, Крычаўскі р-н*);

3. Амшэнь наш цёплый, капуста ні замірзаіць (*Селішча, Чэрыкаўскі р-н*);

4. Дужа твой плуг аржавый, ён жа пыхаць ня возьміць (*Жараціно, Мсціслаўскі р-н*);

5. Сяньні дажнець кымбаін жыта, а заўтрі можна будзіць гнаць кароў на іржэньня пасьціць (*Рымінка, Чавускі р-н*);

6. Мой хлопіц абосый пабегыў пы хаці, то сяньні вужо кашляіць (*Звянчатка, Клімавіцкі р-н*);

7. Нашу хату плотнікі сыгналі ўжо ў іструб, цяперь нада класьць балькі (*Слаўнае, Мсціслаўскі р-н*);

8. Нада было троху ражжыцца ільлянога семя (*Высокае, Клімавіцкі р-н*);

9. У мяне усе ўборы сымытканыя: суконный андырак, тонінькыя альліная сарочка і альляный хвартук (*Слаўнае, Мсціслаўскі р-н*);

10. Загані карову на ільнішча, ніхай паходзіць крошку! (*Нічыпаравічы, Шклоўскі р-н*).

З а д а н н е 9. Высвятліце паходжанне пачатковага галоснага ў падкрэсленых словах, для чаго аднавіце іх праформы. Пры неабходнасці звяртайцеся да «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы» (Т. 3. С. 402, 404).

1. Адзін быў <u>исподак</u> і той разьбіўся – цяпер мне хоць і чаю ня пі; гырачыга дужа ні люблю, а ў кружцы ня скора астыець (*Добрае, Мсціслаўскі р-н*);

2. Лі <u>іструба</u> столькі шчэпык ляжыць, нада ныбраць хоць ны паттопу (*Бярозкі, Хоцімскі р-н*).

З а д а н н е 10. Патлумачце розніцу ў графічнай перадачы падкрэсленага слова ў розных крыніцах. Аднавіце яго праславянскую форму. Якую фанетычную з'яву, звязаную са стратай рэдукаваных, перадае адно з падкрэсленых слоў? Якое напісанне адпавядае кніжна-славянскай традыцыі, а якое – жывому народнаму вымаўленню?

1) **<u>вѣтръ</u> повсталъ и погналъ их кгвалтомъ тую ночъ куды не хотѣли** (Трыст., 68);

2) **Вь осмую теды годину дунув вѣтер полудневый ззаду ихь** (Мам., 186).

З а д а н н е 11. Прачытайце наступны артыкул са «Слоўніка дыялектнай фразеалогіі Гродзеншчыны» М. А. Даніловіча (Гродна, 2000. С. 118). Патлумачце прычыны і ўмовы ўзнікнення ўстаўнога галоснага ў падкрэсленых словаформах.

**Набор (жмут) касцей і метар (мэтар) скуры.** *Іран.* Вельмі худы хто-н. (пра чалавека). *У нас у вёсцы ёсьць дзяўчына, дык на яе так і кажуць: набор касьцей і метар скуры, бо худая-худая* (*Аздобічы Шчуч.*). *І як шчэ яго вецер ні паваліць… Мо хіба за плот трымаяцца, як ідзе. Ні чалавек, а жмут касьцей і мэтар скуры* (*Старына Маст.*).

У ілюстрацыях знайдзіце яшчэ адно слова, у якім ёсць устаўны галосны. Як адрозніваецца яго паходжанне ад паходжання ўстаўнога галоснага ў падкрэсленых словаформах?

З а д а н н е 12. Патлумачце фанетычныя змены, што адбыліся з формамі падкрэсленага тапоніма, параўнаўшы іх з пачатковай формай – **Ръша**.

1) **и пришедши кн҃зь Михаило станеж на Рши** (Крас., 182); **Митку Ильвовичу у-во Рши чотыри следы**[1] **пустыхъ, на имя: Уваровича, да Омосова, да Золотилова, да Зайкуимушина. Пр[иказалъ] Сачко, маршалъко. Инъдик[тъ]** 8 (Метр., кн. ІІІ, 12 адв.);

2) **кн҃зь Свяцьславль смоленьскии преж быс под Витебьскомь. а потомь к Орши ходиль** (Увар., 91).

[1]**слєдъ** – ‘надзел зямлі’ (ГСБМ. Вып. 31. С. 416).

## ТЭСТ

**1.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

У наступных прыкладах падкрэсленыя словаформы адлюстроўваюць фанетычны працэс, звязаны са стратай рэдукаваных, а менавіта:

1) з выраўноўваннем асноў;
2) другім поўнагалоссем;
3) праясненнем моцных рэдукаваных у гукі поўнага ўтварэння;
4) узнікненнем прыстаўных галосных;
5) узнікненнем устаўных галосных;
6) чаргаваннем галоснага з нулём гука.

**Бедышовымъ сыномъ дали за трое локгошъ**[1] **и одни головки увязали и лубокъ**[2] **новый обшывали, за все дали зол. одинъ** (ИЮМ, V, 92, 1688).

**медꙋ преснаго лубковъ**[3] **четыри, важило пꙋдовъ двадцать** (ИЮМ, V, 254, 1688).

---

[1]**локгошъ** – ‘лаўка ззаду вазка для гайдука’ (ГСБМ. Вып. 17. С. 112).
[2]**лꙋбокъ** – 1) ‘лубяная будка ў вазку’ (Там жа).
[3]**лꙋбокъ** – 2) ‘лубянка, пасудзіна з лубу’ (Там жа).

Запішыце абодва падкрэсленыя словы па правілах X ст.

**2.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Устаўны галосны пасля страты рэдукаваных з’явіўся ў словах:

1) арол;
2) асёл;
3) асяцёр;
4) бабёр;
5) вугор;
6) дзяцел;
7) журавель;
8) казёл;
9) леў;
10) пёс.

**3.** Адзначце правільны адказ.

Ва ўсходнеславянскіх словах бел. *боль, падэшва, рок*, укр. *біль, підошва, рік*, руск. *боль, подошва, рок* падкрэсленыя літары адлюстроўваюць фанетычную з’яву:

1) чаргаванне галоснага з нулём гука;
2) падаўжэнне этымалагічнага галоснага;
3) праясненне моцнага рэдукаванага ў гук поўнага ўтварэння;
4) узнікненне ўстаўнога галоснага.

**4.** Адзначце правільны адказ.

Праформай усходнеславянскіх слоў бел. *гвозд*, укр. *гвіздь*, руск. *гвоздь* з’яўляецца:

1) *gvъzьdь;
2) *gvozъdь;
3) *gvozьdь;
4) *gvozdь;
5) *gvъzdь.

**5.** Адзначце сказ, у якім падкрэсленая словаформа прадстаўляе фанетычны пераход [і] → [ы], выкліканы стратай рэдукаваных.

1) **коли злодѣй изъ домꙋ вышелъ, а ꙋкрадетъ што и потеряеть, а любо што изъѣсть, а кромѣ жоны и дѣтей: ино домовыми статкы, што того татя влостное, заплатити** (АЗР, I, 81, 1468);

2) **а ѡнъ чты**[р]**десѧт**[ѕ] **дній постивши, дȣжшимъ на**[д] **всих зышолъ, бо былъ кормленымъ ѡд Бг҃а** (Мак., 113);

3) **ȣ четвергъ передъ полꙋдганем… было знамение прышло темность великаѧ** (Рач., 352).

**6.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Прыстаўныя галосныя развіліся нефанетычным шляхам у словах (літаратурных і дыялектных):

1) амшэннік (‘будынак, праканапачаны мохам’);
2) аржонішча (‘іржышча’);
3) аслабы (‘кволы’);
4) аспадніца;
5) ільгота;
6) імшарнік (‘грыб махавік’);
7) імшэль (‘дробны дождж’);
8) іскрутак;
9) іскрыпка;
10) іstrава (‘вараная ежа з гародніны’).

**7.** Адзначце найбольш дакладнае выказванне.

Устаўны галосны [о] або [э] ўзнік у становішчы паміж двума зычнымі гукамі:

1) другі з якіх – санорны, што знаходзіўся на канцы слова перад слабым рэдукаваным;
2) другі з якіх – санорны, што знаходзіўся на канцы слова перад моцным рэдукаваным;
3) другі з якіх – санорны, што знаходзіўся на канцы слова;
4) што знаходзіліся на канцы слова перад моцным рэдукаваным;
5) што знаходзіліся на канцы слова перад слабым рэдукаваным.

**8.** Адзначце правільны адказ.

Гістарычны фанетычны працэс, прадстаўлены ў формах *ognь > **огнь** > **огонь** (*агонь*):

1) праясненне моцнага рэдукаванага ў гук поўнага ўтварэння;
2) другое поўнагалоссе;
3) узнікненне прыстаўнога галоснага;
4) узнікненне ўстаўнога галоснага;
5) бегласць галосных.

**9.** Адзначце правільны адказ.

Праславянскай форме *ǫglь адпавядае сучасны назоўнік:

1) вуаль;
2) вугал;
3) вугаль;
4) вугор;
5) вуж.

**10.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Чаргаванне галосных гукаў, звязанае са стратай рэдукаваных, прадстаўлена ў парах слоў:

1) карабель – караблік;
2) клубок – клубка;
3) лавец – лаўца;
4) мяць – размінаць;
5) пачатак – пачынальнік;
6) песня – песенны;
7) рубель – рублёвы;
8) слодыч – салодкі;
9) срэбра – сярэбраны;
10) свёкар – свякроў.

Тэма 12

# Гісторыя рэдукаваных галосных: лёс рэдукаваных *ъ, *ь ў спалучэнні з плаўнымі *r, *l

Гаворачы пра гісторыю рэдукаваных галосных *ъ і *ь, асобна трэба адзначыць лёс іх спалучэнняў з плаўнымі *r, *l, які аказаўся адрозным ад лёсу гэтых жа рэдукаваных у іншых становішчах.

Магчымымі былі спалучэнні двух тыпаў:

1) рэдукаваны знаходзіцца ў прэпазіцыі да плаўнага:

*ъr, *ьr, *ъl.

У выніку лабіялізацыі перад цвёрдым [l] *ьl > *ъl: *vĭlkŏs > *vьlkъ > *vъlkъ;

2) рэдукаваны знаходзіцца ў постпазіцыі адносна плаўнага:

*rъ, *lъ, *rь, *lь.

Пры аналізе гісторыі гэтых спалучэнняў трэба ўлічваць два несінхронныя ў розных гаворках працэсы: страту рэдукаваных галосных і страту складовасці плаўных зычных.

Так, у паўднёваславянскіх гаворках рэдукаваны страціўся раней, а складовасць плаўнага на пісьме перадавалася напісаннем наступнай літары **ь** або **ъ**, што адлюстравана ў старaславянскіх тэкстах:

**врьхъ** [вр’х], **смрьть** [смр’т’] і інш.

Пазіцыя рэдукаванага ***перад плаўным*** лічыцца асаблівай, таму што ва ўсходнеславянскіх мовах на месцы рэдукаванага заўсёды з’яўляецца галосны поўнага ўтварэння. У *адных выпадках плаўны захоўваў складаўтваральнасць, а рэдукаваны перад ім быў у моцнай пазіцыі* і таму

праясніўся ў галосны поўнага ўтварэння, пасля чаго плаўны стаў нескладовым (закон адкрытага склада ўжо не дзейнічаў). Адпаведна [ъ] праясніўся ў [о], а [ь] – у [э]:

*tъrgъ > **търгъ** – *торг*,
*vъlkъ > **вълкъ** – *воўк*,
*vьrxъ > **вьрхъ** – *верх*,
*kočьrgā > **кочьрга** – *качарга*.

Вакалізацыя рэдукаванага мела месца і ў формах ускосных склонаў, дзе рэдукаваны знаходзіўся перад складам з галосным поўнага ўтварэння:

(*bezъ) *vъlka (*ваўка*), *vьrxu (*верху*),
(*o) *tъrzě (**торзѣ**), *kočьrzě (*качарзе*).

Узмацненне рэдукаваных галосных у такіх выпадках тлумачыцца «перацягваннем» складаўтваральнай функцыі з плаўнага на рэдукаваны.

Іншы раз складападзел праходзіў паміж рэдукаваным і плаўным:

*tъ-$r_o$-t.

Калі плаўны страціў складовасць (якая пераходзіць да першага рэдукаванага ў слове і ўзмацняе яго), утварыўся закрыты склад, што прывяло да развіцця галоснага пасля плаўнага:

*gъ-$r_o$-nъ > *gъ-$r^ъ$-nъ.

Гэту з’яву называюць *другім* (*II*) *поўнагалоссем*. Асаблівасць пазіцыі рэдукаваных у суседстве з плаўным праявілася ў тым, што абодва яны праясніліся ў галосныя поўнага ўтварэння:

*gъ$r^ъ$nъ > **горонъ** – *горан*.

У навуцы няма адзінай думкі адносна часу і механізму паходжання другога поўнагалосся. Аднак заўважана, што спрыяльнай умовай для яго развіцця ў слове з’яўляецца наяўнасць наступнага склада са слабым рэдукаваным. Параўн.:

бел. *маланка* < мъл$^ъ$нъка < **мълнъка**,
руск. *молния* < **мълниꙗ**.

Увогуле ж другое поўнагалоссе ў рускай літаратурнай мове прадстаўлена адзінкавымі прыкладамі: *веревка* (ад **вьрвъка**), *бестолочь* (ад **тълкъ**), *остолоп* (ад **стълпъ**), *пóлон* (ад **пълнъ**).

У *іншых выпадках ва ўсходнеславянскіх мовах рэдукаваны ў прэпазіцыі быў невыразным* (як у слабай пазіцыі), але суседства з плаўным паспрыяла таму, што на месцы невыразнага галоснага з'явіўся гук [и] або [ы]:

**търчати** > т$^{ъ}$рчати > *тырчаць*,
**чьрвонъи** > ч$^{ь}$рвоны$_{р}$и > ч$^{и}$рвоны – *чырвоны*.

Да такіх выпадкаў адносяцца таксама словы *кілзаць* ('класці цуглі ў рот каню'), *почырк*, *пырскаць*.

Спалучэнні другога тыпу (*rъ, *lъ, *rь, *lь) – рэдукаваны ***пасля плаўнага*** – знаходзіліся паміж зычнымі. Пазіцыя рэдукаванага тут вызначаецца на агульных падставах.

Рэдукаваныя ў моцнай пазіцыі сталі гукамі поўнага ўтварэння ва ўсіх усходнеславянскіх гаворках:

*krъvь > **кръвь** – бел. *кроў*, укр. *кров*, руск. *кровь*,
*glъtka > **глътка** – бел., укр., руск. *глотка*,
*krьstъ > **крьстъ** – бел. *хрэст*, укр. *хрест*, руск. *крест*,
*slьzъ > **сльзъ** – бел., руск. *слёз*, укр. *сліз* (Р. скл., мн. л.).

У слабых пазіцыях рэдукаваныя страціліся, што прыВяло да спалучэння ў межах аднаго склада цяжкіх для вымаўлення груп зычных:

**кръвавыи** > **крвавыи**, **глътати** > **глтати**,
**крьстъ** > **крстъ**.

Каб пазбавіцца ад гэтага, узмацняецца складаўтваральная роля плаўнага і пасля яго з'яўляецца невыразны галосны прыгук. У дыялектах, з якіх пазней утварылася беларуская мова, гэты прыгук паступова развіўся ў галосны поўнага ўтварэння [ы] або [і], ва ўкраінскай мове – у галосны [ы], а ў рускай (па аналогіі з моцнай пазіцыяй) – у галосныя [о] і [э]:

бел. *глытаць*, укр. *глитати*, руск. *глотать*,
бел. *хрысціць*, укр. *христити*, руск. *крестить*,
бел. *бліШчаць*, укр. *блищати*, руск. *блестеть*.

У выніку ў беларускай (як і ва ўкраінскай) мове ўзніклі чаргаванні *ро // ры*, *ло // лы*, *ле // лі*, напрыклад: *кроў – крывавы*, *хрэст – хрысціць*, *глотка – глытаць*, *блеск – бліщчаць* (*бляск*, *крэўны* – словы, запазычаныя з польскай мовы) і інш. Такога ж паходжання гук [ы] ў словах *брыво*, *трывога*, *яблык*.

## ЗАДАННІ

Заданне 1. Запоўніце табліцу, супаставіўшы прыведзеныя ў ёй словы.

| Праславянскае слова | Старaславянскае слова | Усходнеславянскае слова | Сучаснае беларускае слова |
|---|---|---|---|
| *gъrdъ | | **гърдъ** | |
| *gъrdlo | | | *горла* |
| *dъlgъ | **длъгъ** | | |
| | | **твьрдъ** | *цвёрды* |

Заданне 2. Праславянская форма назоўніка, падкрэсленага ў прыведзеных цытатах, – *pьrstenь (ЭСБМ. Т. 9. С. 97). Супастаўце старабеларускія напісанні і патлумачце іх варыянтнасць.

1) **снѧⷧ ц҃рь перьстень свои… и даⷧ его мордохаю** (Зб. 262, 131 б);

2) **Олексѣи… взеⷨ перстень златыи, даⷧ обрꙋченици своеи** (Чэцця, 147 б);

3) **два перъстени золотыхъ ѡдинъ с каменемъ тꙋркꙋсомъ а дрꙋгиⷥ з дыꙗменътоⷨ** (КВС, 443 б, 1552).

Заданне 3. Параўнайце сучасныя беларускія і рускія словы і аднавіце іх праславянскі корань.

| Беларускае слова | Рускае слова | Праславянскі корань |
|---|---|---|
| *тырчаць* | *торчать* | |
| *чыркануць* | *черкнуть* | |
| *чырвонец* | *червонец* | |

Заданне 4. Запішыце праформы падкрэсленых марфем у парах слоў:

1) ашаламіць – шлем;
2) дзёран – дзярніна;
3) жаронцы – жорны;
4) здравіца – здароўе;
5) прадчуванне – перадсвяточны;
6) човен – чаўнок.

Прааналізуйце чаргаванні ў іх. Чым адрозніваюцца чаргаванні, што з’явіліся на месцы I поўнагалосся, ад чаргаванняў на месцы II поўнагалосся?Дайце тлумачэнне няпоўнагалосным формам.

Заданне 5. Размяркуйце прыведзеныя ніжэй прыметнікі ў дзве групы:

1) словы, што адлюстроўваюць I поўнагалоссе;
2) словы, што адлюстроўваюць II поўнагалоссе.

Берагавы, варожы, вераснёвы, вяровачны, гарадскі, дзярновы, маланкавы, малочны, марозны, смяротны.

З а д а н н е 6. Назоўнікі *ганчар, гарнец, горан* узыходзяць да праславянскага кораня *gъrn-. Аднавіце іх праславянскія формы і патлумачце фанетычныя змены, што адбыліся з гэтымі словамі. Пры неабходнасці звяртайцеся да этымалагічных крыніц.

З а д а н н е 7. Аднавіце праформы ўсходнеславянскіх слоў.

*Бел.*: трывога, крышыць,
*укр.*: тривога, кришити,
*руск.*: тревога, крошить.

З а д а н н е 8. Патлумачце фанетычныя чаргаванні ў падкрэсленых аднакарэнных словах.

1. Неўзабаве яны засталіся толькі ўдзвюх: бабка Яснея і яе хата. І гаравалі ўдзвюх, калі цяжка і невыносна маркотна было восенню і зімою, і радаваліся, святлелі душою, калі на вясну большаў дзень, калі ўспаміналі, як яны абедзве былі маладыя і калі ў іх усё было, як у людзей: у хаце шчабяталі, смяяліся дзеці, каля хаты цвілі касацікі ды вяргіні, а на падворку кляпаў касу ці сек дровы таксама яшчэ малады гаспадар (*Я. Сіпакоў*).

2. Новую хату будавалі доўга, і ўсяго я не памятаю. Я падбіраў смалістыя трэскі, якія плылі з-пад сякер цесляроў, і насіў іх на дрывотню (*І. Навуменка*).

3. Яшчэ не скончылі яны палуднаваць, як узнялася завея, мяцеліца. Застагнаў, закрахтаў хвойнік. Пачаў кружыцца снег. Быццам белыя коні, уздыбіліся гурбы... Усе дрывасекі разбегліся хутка дамоў, а Цішка з Халімонам баяліся, каб бацька не наракаў, што зарана прыйшлі з лесу... Селі пад вялікай хвояй, прытуліліся адзін да аднаго і дрыжэлі... (*З. Бядуля*).

Растлумачце напісанні складаных слоў *дрывасек* і *дрованарыхтоўка*.

З а д а н н е 9. Прачытайце верш Я. Янішчыц. Растлумачце паходжанне спалучэнняў плаўнага з галоснымі ў падкрэсленых словах. Аднавіце праформы каранёў гэтых слоў.

**АБ МАСЕ**

З якой такой няроўнае натуры
І ў чым бы чалавек ні награшыў –
Мяне хвалюе масавасць культуры,
Як масавы зацюканы пашыў.
У век, дзе кроўны след ад амбразуры
Ад возера крывавага Пралік –
Мяне бунтуе масавасць халтуры,
Дзе што ні чаравік – то кроўны цвік.

Якая ж ты, народнасць а ці раса,
Што ўжо ідзеш сама сабой на звод?
Мяне само трывожыць слова «масса»,
Якое замяняе ўжо – народ.

З а д а н н е 10. Патлумачце фанетычныя і марфалагічныя змены, што адбыліся з праславянскім назоўнікам *ablъ-k-ъ < і.-е. *āblu-.

З а д а н н е 11. Растлумачце, чаму ў сучаснай беларускай мове ёсць наступныя рады аднакарэнных слоў:

1) *blьskъ > блеск, бліскавіца, бліскаць, бліснуць, блішчэць, *але* бляск;

2) *krъvь > кроў, кроўны, крывавы, крывянка, *але* крэўны.

З а д а н н е 12. Выберыце аднакарэнныя словы і згрупуйце іх у словаўтваральныя гнёзды. Патлумачце змены, выкліканыя стратай рэдукаваных галосных, што адбыліся ў каранях слоў адной групы.

Аграмадзіна, аграмадны, агромністы, грамабой, граматвержац, грамавы, грамада́, грама́да, грамадзянін, грамадскасць, грамадскі, грамаздзіць, гром, громавы, грымець, грымнуць, грымоты, загрымець.

## ТЭСТ

**1.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Другое поўнагалоссе адрозніваецца ад першага тым, што адбывалася:

1) у агульнаўсходнеславянскі перыяд;
2) у праславянскай мове;
3) на месцы спалучэнняў *tort, *tolt, *tert, *telt;
4) на месцы спалучэнняў *tъrt, *tъlt, *tьrt, *tьlt;
5) лакальна, прадстаўлена абмежаванай колькасцю слоў;
6) шырока, прадстаўлена вялікай колькасцю слоў;
7) да страты рэдукаваных галосных;
8) пасля страты рэдукаваных галосных.

**2.** Адзначце правільны адказ.

Другое поўнагалоссе прадстаўлена ў назоўніку:

1) залоўка;
2) свякроў;
3) цешча;
4) швагерка;
5) ятроўка.

**3.** Адзначце правільны адказ.

У Ф. Скарыны ў кнізе «Еклезіяст» чытаем фразу:

**вервь вотрое изⷹвитаѧ неборⷹзо порветсѧ** (Скар. ЕК, 8).

Падкрэсленаму назоўніку ў іншых помніках адпавядаюць:

1) **спустила ихъ жена окномⷹ по веревце** (Скар. Н, 7 б);

2) **рꙋскои земⷨли монарха ѡтбираⷧ ѡⷮ них в гоⷧдѣ вѣники и лыка на плетеⷩе веровокъ** (Стрыйк., 515);

3) **у подводки калоды мескіе дубовые вяровокъ две. и за працу дали асм. Деветнадцать** (ИЮМ, І, 36, 1679).

Гэтыя напісанні каранёвай марфемы **вьрв-** тлумачацца:

1) дыстантнай асіміляцыяй **ь** да галоснага наступнага склада;
2) праясненнем слабых рэдукаваных у галосныя поўнага ўтварэння;
3) развіццём І поўнагалосся ў гэтых словаформах;
4) развіццём ІІ поўнагалосся ў гэтых формах.

**4.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Другое поўнагалоссе прадстаўлена ў словах:

1) асталоп;
2) бесталач;
3) вароты;
4) верас;
5) горан;
6) качарэжнік;
7) колас;
8) салома;
9) халаднік;
10) човен.

**5.** Адзначце правільны адказ.

Праславянскай формай кораня, на базе якога ўзніклі гістарычна роднасныя назоўнікі *чарвяк*, *чырвань*, *чэрвень*, з’яўляецца:

1) *čyrv-;
2) *červ-;
3) *čirv-;
4) *čьrv-;
5) *čъrv-.

**6.** Адзначце правільны адказ.

У праформе назоўніка *блыха* рэдукаваны галосны знаходзіўся:

1) у прэпазіцыі адносна плаўнага: *ъl;
2) постпазіцыі адносна плаўнага: *lъ.

**7.** Сярод сказаў з твораў Я. Купалы адзначце той, у якім падкрэсленае слова мае заходнеславянскае (польскае) паходжанне.

1. Глядзі скрозь варотаў, Насцеж адкрытых, б’е бліск пазалотай (Эрос і Псіха, VII, 63).

2. Відаць, знае, што ўжо лішні Блеск яго [месяца] на свеце (Гайдамакі, V, 431).

3. Раптам асвечвае ўсё замчышча пажарны бляск (Сон на кургане, VI, 86).

**8.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Праслаўянскі корань *drъv- можна рэканструяваць для слоў:

1) драўляны;
2) дровы;
3) дрывотня;
4) дрэва;
5) дрэваапрацоўка.

**9.** Адзначце правільны адказ.

«Лішняй» формай у шэрагу прыведзеных з'яўляецца:

1) брыво;
2) грымоты;
3) крыніца;
4) крышыць;
5) скрыгатаць.

**10.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Спалучэнне *ро* < *rъ, дзе [ъ] выступаў у моцнай пазіцыі, узнікла ў словах:

1) варона;
2) гром;
3) дробны;
4) дровы;
5) дрогкі;
6) жарало;
7) кроўны;
8) крошка;
9) нарост;
10) просты.

# Тэма 13

## Гісторыя рэдукаваных галосных: рэдукаваныя [$ы_р$], [$и_р$]

Акрамя рэдукаваных [ъ] і [ь] ў агульнаўсходнеславянскую мову як спадчына ад праславянскага перыяду перайшлі рэдукаваныя [$ы_р$] і [$и_р$], фанемны статус якіх няпэўны, таму што іх функцыянаванне было абмежавана граматычна і лексічна: яны сустракаліся толькі ў асобных граматычных пазіцыях некаторых часцін мовы і ў каранях нешматлікіх слоў.

Рэдукаваныя [$ы_р$] і [$и_р$] знаходзім:

1) у канчатках поўных ***прыметнікаў*** мужчынскага роду адзіночнага ліку назоўнага склону, дзе яны паходзяць з былых *ъ і *ь перад *j:

*dobrъjь > **добр**[$ы_р$]**и**,
*sinьjь > **син**[$и_р$]**и**;

2) канчатках неасабовых ***займеннікаў*** мужчынскага роду адзіночнага ліку назоўнага склону, у якіх [$ы_р$] і [$и_р$] таксама паходзяць з *ъ і *ь перад *j:

*takъjь > **так**[$ы_р$]**и**,
*č'ьjь > **ч**[$и_р$]**и**;

3) спрагальных формах абвеснага ладу цяперашняга і будучага простага часу, а таксама ў формах загаднага ладу ***дзеясловаў*** з галосным [ы] або [и] ў аднаскладовым корані (тыпу *бити*, *брити*, *выти*, *крыти*, *лити*, *мыти*, *пити*, *рыти*: *крыю*, *крыеши*, *крыеть*... *крый!*), у якіх [$ы_р$] і [$и_р$] паходзяць з *y і *i перад *j:

*kry-jǫ > **кр**[$ы_р$]**ю**, *kry-ješ'i > **кр**[$ы_р$]**еши**... *kry-jь > **кр**[$ы_р$]**и**,
*bi-jǫ > **б**[$и_р$]**ю**, *bi-ješ'i > **б**[$и_р$]**еши**... *bi-jь > **б**[$и_р$]**и**;

4) формах ***назоўніка* шига**, у якіх [$и_р$] паходзіць з *і перад *j:

*š’i̯jā > **ш**[$и_р$]**га**.

Такім чынам, у азначаных формах прыметнікаў і неасабовых займеннікаў [$ы_р$] < *ъ, [$и_р$] < *ь перад наступным *j, у дзеяслоўных і назоўнікавых формах [$ы_р$] < *у, [$и_р$] < *і перад наступным *j.

Рэдукаваныя [$ы_р$] і [$и_р$], як і рэдукаваныя [ъ] і [ь], выступалі ў слабай і моцнай пазіцыях і падпалі пад змяненні ва ўсіх славянскіх дыялектах, дзе іх лёс аказаўся розным. Так, ва ўсходнеславянскіх гаворках у слабай пазіцыі [$ы_р$] і [$и_р$] страціліся. У тых усходнеславянскіх гаворках, з якіх развіліся беларуская і ўкраінская мовы, [$ы_р$] ў моцнай пазіцыі праясніўся ў [ы], а [$и_р$] ў [і] (пазней у беларускай мове адбылося яшчэ і адпадзенне канцавога [й]):

бел. *крывы, малады, верхні, сіні,*
укр. *кривий, молодий, верхній, синій.*

У тых усходнеславянскіх гаворках, што склалі аснову рускай мовы, моцны [$ы_р$] пад націскам даў [о]: *кривой, молодой*. У становішчы не пад націскам у рускай літаратурнай мове паступова замацавалася арфаграфічная традыцыя кніжна-славянскага пісьменства:

**красивъи** > *красивый,*
**сильнъи** > *сильный,*
**давньи** > *давний,*
**синьи** > *синий,*

хоць у маўленні доўга захоўваліся [ъй] і [ьй]:

[крас’ивъй], [с’ин’ьй].

На канцы поўных прыметнікаў і неасабовых займеннікаў у становішчы пасля заднеязычных першапачаткова выступаў [$ы_р$], таму што гэтага вымагаў прынцып складовага сінгарманізму. Аднак пазней спалучэнні *гы, кы, хы* перайшлі ў *ги, ки, хи*:

*tichъ̯jь > **тих**[$ы_р$]**и** – **тихий** – *ціхі,*
*takъ̯jь > **так**[$ы_р$]**и** – **такий** – *такі.*

У адзначаных формах [ы] з’явіўся таксама пасля зацвярдзення шыпячых:

*ryžь̯jь > **рыж**[$и_р$]**й** > *рыжы,*
*či̯jь> **ч**[$и_р$]**й** > *чый* (але *нечы*).

Змены [ы$_р$] і [и$_р$] адбыліся таксама ў дзеяслоўных формах і ў формах назоўнікаў. Так, [и$_р$] ў асабовых формах дзеясловаў з націскам на канчатку быў у слабай пазіцыі, таму перастаў вымаўляцца:

**бию** [б’и$_р$йу] – *бью*, а таксама *ую́*, *лью*[1], *пью*.

У формах загаднага ладу гэтых дзеясловаў моцны [и$_р$] праясніўся ў галосны поўнага ўтварэння; акрамя таго, адбылася рэдукцыя канцавога [й]:

**бий** [б’и$_р$й] – *бі!*, *ві!*, *лі!*, *пі!*

Дзеясловы гэтага тыпу з націскам на аснове захавалі на месцы моцных [ы$_р$] і [и$_р$] адпаведныя галосныя [ы] і [и]:

*мы́ю*, *ры́ю*, *шы́ю*; *мый!*, *рый!*, *шый!*

У назоўніку *шыя* спрадвечны [і] ў выніку зацвярдзення шыпячага стаў вымаўляцца як [ы].

## ЗАДАННІ

З а д а н н е 1. Патлумачце фанетычныя змены, што адбыліся пры ўтварэнні наступных поўных прыметнікаў:

1) *каменны* < *kamen(-ь) + *-ьn-ъ + *jь;
2) *лябяжы* < *lebęd(-ь) + *-j-ь + *jь.

З а д а н н е 2. Прачытайце ўрывак, знайдзіце ўсе словы з [ы$_р$] і [и$_р$].

**Коли[ж] оуже по пилатово[м] присоужении м[с]т[ї]выи г[с]ь на с[м]рть з ратоуша всюды свѧза[н] ланцюхи на шїю заложивши тѧгне[н] какъ бы ѡдинъ злодеи стало са збежанїє людеи за ни[м]** (Пак. Хр., 1).

З а д а н н е 3. Размяркуйце прыметнікі па дзвюх групах у залежнасці ад паходжання галосных у канчатках:

1) словы з былым рэдукаваным [ы$_р$], які ўзнік на месцы *ъj;
2) словы з былым рэдукаваным [и$_р$], які ўзнік на месцы *ьj.

Галубіны, гліняны, княжы, крайні, кужэльны, леташні, летні, лясны, млосны, мурожны, разумны, саляны, светлы, сівы, чужы.

З а д а н н е 4. Патлумачце фанетычныя асаблівасці пры ўтварэнні канчаткаў наступных прыметнікаў:

а) бязногі, доўгі, строгі;
б) далёкі, золкі, цяжкі; конскі, свойскі; зыркі, зябкі, крохкі;
в) віславухі, глухі.

---

[1]Варыянты *лію*, *ліеш* і іншыя з’явіліся ў выніку марфалагічнай аналогіі.

З а д а н н е 5. Аднавіце праформы падкрэсленых дзеясловаў (канчатак 3-й асобы множнага ліку цяперашняга часу для гэтых дзеясловаў – **-ють**) і патлумачце фанетычныя змены ў іх.

1) **люди твои, зъ твоєє земьли, въ нашой земьли звѣрь <u>бьють</u>, а пчолы дерꙋть, а по рѣкамъ бобры бьють и рыбы ловять** (АЗР, I, 71, 1456);

2) **лесть въ ср$^{\text{д}}$ци ты$^{\text{х}}$ которыи <u>рыють</u> зло а ты$^{\text{м}}$ которыи рѧдѧ$^{\text{т}}$ миръ веселье** (Зб. 262, 94 б);

3) **люде… робꙗ$^{\text{т}}$ з ни$^{\text{х}}$ шати, што є$^{\text{ст}}$ на$^{\text{ѕ}}$доро$^{\text{ж}}$шого, на$^{\text{д}}$ вси шаты, бо се коли скалꙗю$^{\text{т}}$, не <u>мыю$^{\text{т}}$</u> и$^{\text{х}}$ водою, але до ѡгнꙗ и$^{\text{х}}$ мечꙋ$^{\text{т}}$** (Бельск., 182).

З а д а н н е 6. Аднавіце праформы падкрэсленых дзеясловаў і патлумачце фанетычныя змены ў іх.

1) **ѡбрію, ѡброснꙋю. ѡбтираю, ѡстригаю… то$^{\text{ж}}$ и <u>брію</u>** (Бяр., 193);

2) **Лаю: Рыкаю, брешꙋ, щекаю, <u>выю</u>** (Бяр., 70);

3) **Извааю: Вырываю, <u>рыю</u>**[1], **выдовбꙋю, вырѣзꙋю** (Бяр., 54).

---

[1]**рити, рить, рыти** – ‘выразаць; гравіраваць; выдзёўбваць’ (ГСБМ. Вып. 30. С. 112).

З а д а н н е 7. Аднавіце праформы для ўсходнеславянскіх дзеяслоўных формаў.

*Бел.*: лі, пі, мый;

*укр.*: лий, пий, мий;

*руск.*: лей, пей, мой.

Патлумачце фанетычныя з’явы і адрозненні, што назіраюцца ў гэтых формах у розных усходнеславянскіх гаворках.

З а д а н н е 8. Акрамя назоўніка **шиꙗ** старажытнаму ўсходнеславянскаму пісьменству быў вядомы і іншы назоўнік з тым жа значэннем – **выꙗ**. Напрыклад:

1) **Паде на <u>выѭ</u> ѥго и облобыза и** (Астрам. ев., Лук. XV, 20);

2) **Жестокъ ѥси. и шиꙗ желѣзна <u>выꙗ</u> твоꙗ** (Златастр. XII, 127);

3) **кн҃зь повелѣ$^{\text{л}}$ и$^{\text{х}}$ повѧзати за <u>выи</u>** (Чэцця, 143 б – 144).

Паразважайце пра паходжанне назоўніка **выꙗ**, а потым параўнайце свае высновы з данымі «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы» (Т. 2. С. 293).

З а д а н н е 9. Прааналізуйце наступныя прыклады з «Гістарычнага слоўніка беларускай мовы» (Вып. 10. С. 135, 145):

**Завыекъ** *наз.* Футра з задняй часткі шыі звера. **Кꙋпили… шапъка зъ <u>завыекомъ</u> золот. в҃ и асм. єі҃** (ИЮМ, I, 101,1680);

**Завоекъ** *наз*. 2. Тое, што і *завыекъ*. **Чуга**[1] **шара сукна муравского съ** <u>**завойками**</u> **лисьими подшита... коштовала десеть копъ грошей литовскихъ** (АВК, VIII, 484, 1549).

---

[1]**чуга** – 'мужчынскі кафтан з кароткімі рукавамі, адкладным каўняром і двума бакавымі разрэзамі' (ПГССЛ. Т. 2. С. 426).

Як можна патлумачыць паходжанне падкрэсленых слоў і адрозненні ў іх напісанні?

З а д а н н е 10. Параўнайце формы займенніка *чый* у розных славянскіх мовах. Дакажыце, што ўсе яны маюць агульнае паходжанне, нягледзячы на адрозненні ў сучасным фанетычным афармленні.

| Усходнеславянскія мовы | Заходнеславянскія мовы | Паўднёваславянскія мовы |
|---|---|---|
| бел. *чый, чыя, чыё*<br>укр. *чий, чия, чиє*<br>руск. *чей, чья, чьё* | польск. *czyj, czyja*<br>чэшск. *čí*<br>слвц. *čí, čia, čie* | балг. *чий*<br>сербск. *чûј, чùјâ, чùјê*<br>славенск. *čîj, čigâ* |

## ТЭСТ

**1.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Рэдукаваныя [$ы_р$] і [$и_р$] выступалі ў формах прыметнікаў:

1) кароткіх;
2) поўных;
3) мужчынскага роду;
4) жаночага роду;
5) ніякага роду;
6) адзіночнага ліку;
7) множнага ліку;
8) парнага ліку;
9) назоўнага склону;
10) меснага склону.

**2.** Адзначце правільны адказ.

Рэдукаваны [$ы_р$] прадстаўлены ў праформе:

1) *rъdjavъ;
2) *rъdjavъјь;
3) *rъdjavoje;
4) *rъdjavaja.

**3.** Адзначце правільны адказ.

Рэдукаваны [$и_р$] прадстаўлены ў праформе:

1) *lěръš'ь;
2) *lěръš'ьјā;
3) *lěръš'ьјь;
4) *lěръš'ьје.

**4.** Размяркуйце прыметнікі па дзвюх групах у залежнасці ад паходжання галосных у канчатках:

1) словы з былым рэдукаваным [$ы_р$], які ўзнік на месцы *ъј;
2) словы з былым рэдукаваным [$и_р$], які ўзнік на месцы *ьј.

Жытні, зімні, кіслы, кніжны, кутні, левы, лішні, медны, нізкі, свежы.

**5.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Рэдукаваныя [$ы_р$] і [$и_р$] выступалі ў займенніках:

1) каторы;
2) мой;
3) нічый;
4) ты;
5) які.

**6.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Рэдукаваныя [$ы_р$] і [$и_р$] выступалі ў формах дзеясловаў тыпу *мыти*, *лити*:

1) абвеснага ладу;
2) загаднага ладу;
3) умоўнага ладу;
4) будучага простага часу;
5) цяперашняга часу;
6) прошлага часу;
7) адзіночнага ліку;
8) множнага ліку.

**7.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Дзеясловы, якія ў спрагальных формах маюць галосны [ы] або [і], што паходзіць з [$ы_р$] і [$и_р$]:

1) брыць;
2) быць;
3) выць;
4) жыць;
5) мыць.

**8.** Адзначце правільны адказ.

Галосны, які паходзіць з [$ы_р$], прадстаўлены ў словаформе:

1) шавец;
2) шаўца;
3) шыла;
4) шыць;
5) шыеш;
6) пашыў.

**9.** Адзначце правільны адказ.

Гук [и] (< [$ы_р$]) прадстаўлены ў падкрэсленым слове са сказа:

1) **Идеть <u>великаꙗ</u> река** (Валх., 80 б);

2) **перепꙋстилъ есть на него г$^{е}$дь богъ раны <u>великые</u>** (Скар. ІК, 3 б);

3) **Соколъ три рꙋбли гроше$^{ѕ}$, ꙗстребъ <u>велики$^{ѕ}$</u> две копе гроше$^{ѕ}$** (Ст. 1588, 513);

4) **прилет$^{т}$ѣли <u>великии</u> птахи чи$^{р}$воныи** (Алекс., 28).

**10.** З прыведзенага ніжэй урыўка выпішыце ўсе словаформы, у якіх ёсць галосны, што ўзнік на месцы [$ы_р$] ці [$і_р$].

А пасля на паляну выехаў у суправаджэнні чатырох латнікаў з паходнямі ў левай руцэ (правая ва ўсіх ляжала ці на шыйцы гакаўніцы[1], ці на рукаяці шаблі) туга збіты, але не дужа высокі чалавек у простай, але вельмі, відаць, дарагой мясцовай чузе[2]...

(*У. Караткевіч.* «*Чорны замак Альшанскі*»)

[1] **Гакаўніца** – ‘ручная агнястрэльная зброя з крукам унізе ствала’ (ПГССЛ. Т. 1. С. 127).

[2] **Чуга** – ‘мужчынскі кафтан з кароткімі рукавамі, адкладным каўняром і двума бакавымі разрэзамі’ (Там жа. Т. 2. С. 426).

## Тэма 14

# Гісторыя рэдукаваных галосных: змены ў кансанантызме, выкліканыя стратай рэдукаваных

Змены ў фанетычнай сістэме, выкліканыя стратай рэдукаваных галосных, закранулі як сістэму вакалізму, так і сістэму кансанантызму, у якой адбыліся наступныя з'явы:

1. Узнікненне пар, карэлятыўных па глухасці/звонкасці.
2. Развіццё непазіцыйнай мяккасці зычных.
3. Узнікненне новых груп зычных ([гт], [кт]; [дл], [тл]; гемінат).
4. Зацвярдзенне губных зычных ([б], [м], [п]).
5. Асіміляцыя ў новых групах зычных.
6. Дысіміляцыя ў новых групах зычных, у тым ліку і замена зычнага ётам.
7. Спрашчэнне ў новых групах зычных, у тым ліку і страта канцавога *l.
8. Сцяжэнне ў новых групах зычных.
9. Утварэнне падоўжаных зычных.

1. Пасля страты рэдукаваных з'явілася магчымасць супадзення алафонаў фанем звонкіх зычных з адпаведнымі алафонамі глухіх фанем.

Карэлятыўныя (г. зн. суадносныя) пары зычных гукаў па звонкасці/глухасці ўтварыліся ў выніку:

а) аглушэння звонкіх зычных на канцы слова:

**χлѣбъ** [**χл·ѣбъ**] > *хлеб* [хл'эп],
*хле<u>б</u>а* – (*са*) *скле<u>п</u>а* <б> – <п>,
*хле<u>б</u>* – *скле<u>п</u>* [п];

б) асіміляцыі па глухасці/звонкасці ў новых групах зычных:

**пѣсъкъ** > *пясок* – **возъкъ** > *вазок* <с> – <з>,
**пѣсъкꙋ** > *пяску* – **возъкꙋ** > *вазку* [с],

**ходъ, ходити** > *хадзіць* <д>: [дз’],
**молотъ, молотити** > *малаціць* <т>: [ц’],

*хадзьба* – *малацьба* [дз’].

2. Зычны памякчаўся перад галосным пярэдняга рада. Пасля страты рэдукаваных гэта мяккасць захавалася, яна называецца ***непазіцыйнай***. Непазіцыйная мяккасць зычных адзначаецца на канцы слова: *восьдзень, соль, косць* і пад., а таксама перад наступным цвёрдым зычным: *вазьму, пісьмо, хадзьба* і пад.

Пазней некаторыя мяккія ў становішчы перад цвёрдым зычным зведалі асіміляцыю па цвёрдасці: **розьныи** [**роз·ьны$_{ρ}$й**] > *розны*, **свѣтьлыи** [**св·ѣт·ьлы$_{ρ}$й**] > *светлы*.

3. У выніку страты рэдукаваных галосных у слабых пазіцыях з’явіліся новыя групы зычных і сталі магчымымі наступныя спалучэнні:

а) [гт], [кт] перад галоснымі пярэдняга рада:

**ногъти** > *ногти*, **локъти** > *локти*;

б) [дл], [тл] у межах аднаго склада:

**седьло** > *седло*, **метьла** > *метла*;

в) гемінаты (спалучэнні двух аднолькавых зычных гукаў):

**каменьныи** > *каменны.*

Аднак у новых групах працягвалі дзейнічаць патрабаванні да спалучальнасці зычных: два шумныя побач павінны быць аднолькавымі, г. зн. абодва звонкія ці абодва глухія. Гэта выклікала цэлы шэраг асіміляцый па глухасці/звонкасці.

4. Губныя зычныя ([б], [м], [п]) пасля страты наступнага слабага рэдукаванага [ь] зацвярдзелі ў пазіцыі:

а) на канцы слова: **голꙋбь** > *голуб*, **сємь** > *сем*, **стєпь** > *стэп*;

б) перад наступным [j]: **бью** > *б’ю* [бjу], **пьѥши** > *п’еш* [пjэш], **сємьꙗ** > *сям’я* [с’амjа].

5. У новых групах зычных адбыліся розныя віды асіміляцыі:

а) па звонкасці: **отъдати** > *аддаць*, **просьба** > *просьба* [проз’ба];
глухасці: **казъка** > *казка* [каска], **лєгъкыи** > *лёгкі* [л’охк’і].

Аднак перад санорнымі і [в] азванчэння не адбывалася: *летні, бацвінне*;

б) па цвёрдасці: **шꙋмьный** > *шумны*, **ꙗсьный** > *ясны*;
мяккасці: **пѣснꙗ** > *песня* [п’эс’н’а], **свѣтъ** > *свет* [с’в’эт];

в) па спосабе вымаўлення:

**возъчикъ** > *возчык* [вошчык], **съшити** > *сшыць* [шшыц’].

6. Дысіміляцыя адбылася ў некаторых групах зычных, утвораных пасля страты слабых рэдукаваных:

а) выбухны + выбухны > шчылінны + выбухны: **къто** > *хто*;

б) шумны + шумны > санорны + шумны: **молодьци** > *малайцы*.

7. У выніку страты рэдукаванага ў некаторых словах утварыліся цяжкія для вымаўлення спалучэнні зычных. Для палягчэння артыкуляцыі зычны з групы спрашчаўся (знікаў):

**сьрдьце** > *сэрца*, **злостьныи** > *злосны*, **множьства** > *мноства*.

Разнавіднасцю спрашчэння можна лічыць і страту затвора (змычнага элемента) у афрыкаце [ч] ([т͡ш]): **конечьне** > *канешне*.

Спрашчэннем з’яўляецца і страта канцавога *l у формах дзеясловаў прошлага часу (элавых дзеепрыметніках) мужчынскага роду з асновамі на зычны[1]:

**везлъ** > *вёз*, **неслъ** > *нёс*, **пеклъ** > *пёк*.

8. Калі пасля знікнення слабага рэдукаванага побач аказваліся два аднолькавыя зычныя, то яны сцягваліся ў адзін гук:

**русьскыи** > *рускі*.

Сцяжэннем з’яўляецца і ўтварэнне афрыкаты са спалучэння змычнага і шчыліннага гукаў ([тс] > [ц]):

**братъскыи** > *брацкі*.

Часам у адным слове адбывалася некалькі змяненняў:

**съжати** – асіміляцыя па звонкасці і спосабе вымаўлення: *зжаць* [жжац’];

**ткачьскый** – спрашчэнне шумнага элемента ў афрыкаце [ч] і сцяжэнне ў новую афрыкату ([ч] = [т͡ш] + -*ск*-): *ткацкі* ([т͡с] = [ц]).

9. Калі пасля страты рэдукаванага [ь] ў інтэрвакальным становішчы (г. зн. паміж двух галосных гукаў) апыналася спалучэнне зычнага з гукам [j], то ў выніку своеасаблівай асіміляцыі гука [j] утвараўся падоўжаны зычны: [весельjе] > *вяселле*, [житьjе] > *жыццё*, [колосьjе] > *калоссе*, [ночьjу] > *ноччу*.

Не падаўжаўся зацвярдзелы [р] і губныя [б], [в], [м], [п]: *шыр’ю*, *глыб’ю*, *кроўю* ([ў] < [в]), *сям’я*, *кап’ё*.

[1]Сюды не ўваходзяць дзеясловы з асновамі на *d, *t, якія спрасціліся яшчэ ў праславянскі перыяд: *vedlъ > *velъ, *pletlъ > *plelъ, *šedlъ > *šelъ.

Заднеязычныя [г], [к], [х] яшчэ ў папярэднюю эпоху зведалі I палаталізацыю, палаталізаваны зычны пасля страты рэдукаваных падоўжыўся:

**дорога – подорожьѥ** > *падарожжа*,
**око – въ очью** > *уваччу*,
**стрѣха – застрѣшьѥ** > *застрэшша*.

У старабеларускіх помніках пры адсутнасці строгай арфаграфічнай нормы падаўжэнне перадавалася рознымі спосабамі: напісаннем адной літары ў радку (**колосє**) або над радком (**колоⷭє**), дзвюх літар, адна з якіх – над радком (**колосⷭє**), і інш.

## ЗАДАННІ

З а д а н н е 1. Запішыце наступныя словы ў адпаведнасці з традыцыяй X ст. і растлумачце гістарычныя змены ў вымаўленні:

1) горад; князь; хлеб;
2) пераносчык; разжаліць; расшумецца;
3) голуб; сем; сям'я;
4) аб'язны; мноства; шчаслівы;
5) паводка; падправіць; павозка;
6) барацьба; касьба; малацьба.

З а д а н н е 2. Укажыце, у якіх з прыведзеных ніжэй слоў губныя зацвярдзелі:

1) **вьдова**;
2) **за столомь**;
3) **нашимь огньмь**;
4) **правьда**;
5) **разꙋмьный**;
6) **сємь**;
7) **сємьꙗ**;
8) **тємьныи**;
9) **отъдамь на цєрковь**;
10) **кꙋпимъ морковь**.

Чым выклікана цвёрдасць губных у астатніх словах?

З а д а н н е 3. У Лаўрэнцьеўскім летапісе чытаем:

**володимеръ… посла ко рогъволодꙋ полотьскꙋ гл҃ꙗ. хочю поꙗти <u>тъчерь</u> твою собѣ женѣ. ѡнъ же реⷱ <u>тъчери</u> своеи. хочеши ли за володимера** (Лаўр., 46–49).

Растлумачце напісанне формаў падкрэсленага слова.

З а д а н н е 4. Растлумачце, чым абумоўлены напісанні падкрэсленых слоў у наступных сказах са старабеларускіх помнікаў:

1) **ишли <u>чересъ</u> воды ꙋ поꙋстыне** (Валх., 20);
2) **чинили сознане до <u>кних</u> меских** (ИЮМ, XXXII, 242, 1577);

3) у мене была сусетка Марина Ивашъкова (АВК, XXXIX, 58, 1578);

4) будучи дей мне у месьте здешьнемъ гсдрьскомь Меньскомъ по некоторыхъ потребахъ его милосьти пана моего (АВК, XXXVI, 235, 1582);

5) Дша наша вже ся бридить тым велми леккимъ покармомъ (Хран., 141 б);

6) ку суженью припала справа… о всѣ гроши на свой пожитокъ оберненье, жалуючому неодданье и личбы неучиненье[1] (АВК, XV, 470, 1685).

---

[1]учинити личбу – 'даць рахунак, зрабіць справаздачу' (ГСБМ. Вып. 7. С. 262).

Заданне 5. Параўнайце напісанні падкрэсленых слоў у наступных сказах:

1) оцъ стое варвары разжеглъся гнѣвом великим (Чэцця, 87); дьяволъ… почал ражжигати и подтыкати стополка штобы оубил бориса (Чэцця, 240);

2) ѹглие… да росъсыплеть семо и тамо (Скар. ЛК, 38 б); панъ михаило… попелъ розсыпати и скрыни пожечи велелъ (КВЗС, 140 б, 1540);

3) ку россуженью нашому господаръскому (КСД, 1044, 1522); тымъ ѡбычаемъ ꙗко вышей ѡ ѡдном написано кѹ розъсуженью тыхъ справъ ѡбрати (Ст. 1588, 128);

4) Тмою и мраком невѣдомость о богу зоветь, а опять славою или свѣтом росширенью слова божіа (Будны, 174 б); слоужбоу бжью по всех ѡных сторонахъ ѡправила и рошширила (Валх., 74 б).

Якія з іх больш адпавядаюць жывому вымаўленню? Якія фанетычныя змяненні тут адлюстраваны?

Заданне 6. Супастаўце сучасныя адпаведнікі бел. *мяккі*, укр. *м'який* і руск. *мягкий*. Падбярыце роднасныя словы, выявіце марфемны склад і запішыце гэты прыметнік паводле агульнаўсходнеславянскай пісьмовай традыцыі X ст. Якія фанетычныя працэсы адбыліся ў гэтым слове ў кожнай з усходнеславянскіх моў?

Заданне 7. Запішыце словы ў адпаведнасці з пісьмовай традыцыяй X ст.

Вераб'і, вецце, галлё, дуб'ё, жыццё, зацішша, карэнне, ламачча, лісце, насенне, пер'е.

Чаму ў некаторых з прапанаваных слоў не ўтварыліся падоўжаныя зычныя?

З а д а н н е 8. Параўнайце напісанні падкрэсленых слоў у наступных сказах:

1) **приподобилося королевствъство небесное члвку, сеючому доброе семѧ на рольи своеи** (Цяп., 18); **пала на добрꙋю роллю насение ѡное** (Зб. 82, 1 б);

2) **ковалю за перекованье коней асм. ѕ҃і** (ИЮМ, I, 70, 1679); **за перекованне коней запл. 4 зол.** (ИЮМ, XIX, 34, 1711).

Якое з напісанняў больш адпавядае жывому вымаўленню? Запішыце пачатковую форму гэтага слова ў адпаведнасці з пісьмовай традыцыяй X ст. Растлумачце фанетычныя змены, што адбыліся ў слове.

З а д а н н е 9. Вызначце, ці аднолькавага паходжання суфіксы ў прапанаваных словах.

Блізкі, брэсцкі, вузкі, мастацкі, нізкі.

З а д а н н е 10. Назва якога сучаснага горада ў старажытнасці мела форму **Логожьскъ**? Назавіце фанетычную з'яву, якая абумовіла яе змяненне.

З а д а н н е 11. Да наступных агульнаўсходнеславянскіх слоў падбярыце і запішыце сучасныя адпаведнікі, прааналізуйце змены ў вымаўленні:

**рꙋсьский, бороздьна, братъство, полъвтора, рижьскый, прибѣглъ.**

У якіх словах пасля страты рэдукаваных адбылося спрашчэнне зычных, а ў якіх – сцяжэнне?

З а д а н н е 12. У прапанаваных сказах знайдзіце прыклады напісанняў, абумоўленых зменамі зычных у выніку страты рэдукаваных. Назавіце гэтыя змены.

1) **Сава послался на попа Борисовского на Спаского**[1]**, который же при томъ праве былъ** (КСД, 61, 1510);

2) **Хто жъ бы кольвекъ таковые товары лесные, складваючыся съ кꙋпъцами, робилъ...** (КПД, 175, 1551);

3) **велми было позно до Троковъ ехати** (Рач., 314);

4) **Того жъ рокꙋ на страснoⷥ недели в средꙋ гром загримелъ вельми грозныⷥ** (Барк., 165 б);

5) **посполꙋ з людоⷨ ꙋчаснико ⷨ в цеⷬкви быⷮ хотѣл** (Бельск., 247);

6) **Што видѣчи небожчик... о переволокꙋ для приготованья просилъ** (АЗР, V, 75, 1645).

---

[1] **Спасъский** – які належыць да царквы Хрыста Збавіцеля (Спаса).

## ТЭСТ

**1.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Асіміляцыя па звонкасці адбылася ў словах:

1) просьба;
2) ножка;
3) калодка;
4) барацьба;
5) лішні.

**2.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Асіміляцыя па глухасці адбылася ў словах:

1) малацьба;
2) лодка;
3) вішня;
4) дарожка;
5) вузкі.

**3.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Асіміляцыя па цвёрдасці адбылася ў словах:

1) купцы;
2) помста;
3) пожня;
4) смех;
5) слаўны.

**4.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Асіміляцыя па мяккасці адбылася ў словах:

1) аўца;
2) снег;
3) дзве;
4) кроўны;
5) звінець.

**5.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Зацвярдзенне губных адбылося ў словах:

1) грыб;
2) вераб'і;
3) восем;
4) сумны;
5) голуб.

**6.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Падоўжаныя зычныя ўтварыліся ў словах:

1) **гнильѥ**;
2) **листьѥ**;
3) **сбожьѥ**;
4) **копьѥ**;
5) **звѣрьѥ**.

**7.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Не было ўмоў для ўтварэння падоўжаных зычных у словах:

1) **лєторослью**;
2) **мытьѥ**;
3) **ночью**;
4) **солью**;
5) **счастьѥ**.

**8.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

У выніку страты рэдукаваных адбылося спрашчэнне ў словах:

| | |
|---|---|
| 1) аб'язны; | 6) капусны; |
| 2) выразны; | 7) месны; |
| 3) баразна; | 8) мясны; |
| 4) сонца; | 9) палахлівы; |
| 5) акенца; | 10) шчаслівы. |

**9.** Суаднясіце словы (1, 2, 3, 4, 5) і кансанантную з'яву, якая адбылася ў кожным з іх пасля страты рэдукаваных (а, б, в, г, д).

| | |
|---|---|
| 1) склізкі; | а) падаўжэнне; |
| 2) стэп; | б) асіміляцыя; |
| 3) канешне; | в) зацвярдзенне губных; |
| 4) рамеснік; | г) спрашчэнне; |
| 5) наваколле; | д) дысіміляцыя. |

**10.** Суаднясіце словы (1, 2, 3, 4, 5) і кансанантную з'яву, якая адбылася ў кожным з іх пасля страты рэдукаваных (а, б, в, г, д).

| | |
|---|---|
| 1) хто; | а) асіміляцыя; |
| 2) радасны; | б) дысіміляцыя; |
| 3) брацтва; | в) падаўжэнне; |
| 4) суддзя; | г) спрашчэнне; |
| 5) падсудны; | д) сцяжэнне. |

Тэма 15

# Гісторыя гука [ў]

У сучаснай беларускай мове гук [ў] чаргуецца з гукамі [в], [л], [у], мае неаднолькавае паходжанне і даўнюю гісторыю. Пашырэнню гэтага гука спрыяла страта рэдукаваных галосных.

**1. Пераход [в] → [ў]**

У некаторых усходнеславянскіх прадыялектах існаваў білабіяльны (губна-губны) санант *w. Гэты гук у становішчы перад галосным праяўляў сябе як нескладаўтваральны зычны:

*wečerъ > **вєчєръ** > *вечар*,

а перад зычным быў складовым, як галосны:

*wьčera > **вьчєра** > *учора*.

Пасля страты рэдукаваных галосных **въ** і **вь** на канцы слова ці перад наступным зычным у сярэдзіне слова перайшлі ў гук [ў].

Гэта асаблівасць вымаўлення адлюстравалася на пісьме праз змяшэнне літар **в** і **ѵ** ў полацка-смаленскіх, галіцка-валынскіх, а таксама ў некаторых паўночна- і паўднёварускіх помніках пісьменства:

**ѵздоѵмалъ** < **въздоѵмалъ**, **вмєръ** < **ѵмєръ**.

**2. Пераход [л] → [ў]**

У спалучэннях тыпу *tъlt (спрадвечных, а таксама ў тых, што паходзяць з *tьlt, дзе адбылася лабіялізацыя галоснага перад цвёрдым [l]: [ь] > [ъ]) [l] таксама стаў вымаўляцца як [ў]:

*vьlkъ > *vъlkъ > *воўк*,
*žьltъ > *žъltъ > *жоўты*.

У гэтых выпадках вымаўленне тлумачыцца фанетычнай пазіцыяй – становішчам [l] пасля [ъ]/[о] паміж двума зычнымі.

Такім чынам, гісторыя пераходу [л] → [ў] часткова звязана з гісторыяй рэдукаваных.

Не фанетычнымі прычынамі, а марфалагічнай аналогіяй абумоўлена ўзнікненне [ў] на канцы дзеясловаў прошлага часу мужчынскага роду (**ходилъ** > *хадзіў*, **носилъ** > *насіў*), якія генетычна з'яўляюцца актыўнымі дзеепрыметнікамі ў складзе формаў прошлага часу: перфекта і плюсквамперфекта. Адначасова ў мове існавалі самастойныя кароткія дзеепрыметнікі незалежнага стану з суфіксам **-в-** (**ходивъ** 'хадзіўшы'; **носивъ** 'насіўшы'), у якіх пасля страты рэдукаванага заканамерна вымаўляўся [ў]. Па аналогіі з гэтымі дзеепрыметнікамі сталі вымаўляцца і формы прошлага часу на **-л** (< **лъ**).

**3. Пераход [у] → [ў]**

Вымаўленне [ў] рознага паходжання (гл. вышэй) пасля галосных пашырылася і на спрадвечны ненаціскны [у]:

**за ѵтро** – *заўтра*,
*без ураджаю – неўраджайны, без увагі – няўважлівы.*

## Заданні

З а д а н н е 1. Запішыце словы па правілах X ст. (да страты рэдукаваных).

Даўжнік, дзіўны, маўчанне, праўда, свякроў, спраўны, траўка, унук, шоўк, чаўнок.

З а д а н н е 2. Растлумачце, чаму не ўтварыўся гук [ў] у словах *зёлкі, золкі, іголка, колкі, палка*.

З а д а н н е 3. Растлумачце, чаму ў словах *вол* < **волъ**, *дол* < **долъ**, *стол* < **столъ** захаваўся гук [л], а ў словах *вёў* < **велъ**, *даў* < **далъ**, *стаў* < **сталъ** вымаўляецца [ў].

З а д а н н е 4. Патлумачце, чаму ў словах *доўгі, маўчун, поўня* на месцы [л] узнік [ў], а ў словах *алмаз, алтар, алфавіт, балкон, балгарскі, гальштук, фальклор, холдынг* застаўся [л]. Чаму ў словах *аўтамабіль, аўтограф, дыназаўр, манеўр, маўзалей, негатыў, пнеўматычны* вымаўляецца [ў]?

З а д а н н е 5. Прачытайце наступныя сказы і прааналізуйце прыназоўнікі ў іх (паходзяць з **въ** або з **оѵ**, як суадносяцца напісанне і вымаўленне):

1) **было въ мєнє три чоловєки**… (КЗ, 473, 1448);

2) **Даⷲко с дроѵги своими оѵєха оѵ городъ** (Увар., 99);

3) **Здѣсє были въ насъ Ѳєдєць Станковичь** (КВС, 83, 1513);

4) [бог] **оѵкинѹлъ мѧ оѵ глиноѵ** (Зб. 262, 24 б);

5) **заборонѧеть… боꙗромъ и людемъ моимъ всимъ Миръскимъ ꙋездꙋ въ пушчꙋ Свержeньскꙋю мети** (КСД, 852, 1514);

6) **въездъ мевали ꙋ тую пꙋщꙋ** (КСД, 853, 1514);

7) **Ѹ дворе ворота выбившы и вырубившы, тын вкругъ двора поламавшы, до жоны моей в дом добывался** (АВК, XVII, 17, 1582).

З а д а н н е 6. Пакажыце, як перадаецца гук [ў] у прыведзеным ніжэй урыўку з запісу вялікай княгіні Ульяніі царкве Успення Прачыстай Багародзіцы на цям’яншчыну (падатак на фіміям) з маёнткаў Азярышчы, Ухані і Аляксееўшчына (паміж 1377 і 1392 гг.).

**С$^{\text{е}}$ ꙗ кн$^{\text{г}}$инѧ ѡгльгкир$^{\text{д}}$оваꙗ оульѧниѧ оуставила е$^{\text{с}}$ми бра$^{\text{т}}$ на црквъ бжию прч$^{\text{с}}$тои ꙋспениѧ те$^{\text{м}}$ꙗнъщинꙋ на го$^{\text{д}}$ securityполꙋ (ко)пе гро$^{\text{ш}}$ї оувозерище$^{\text{х}}$ на оухане$^{\text{х}}$ со ѡлексее$^{\text{в}}$щины.**

З а д а н н е 7. Патлумачце асаблівасці вымаўлення і паходжання гукаў, абазначаных падкрэсленымі літарамі ў наступных сказах:

1) **Люди добрые <u>ꙋ</u>копали мне полъбочки ечъменю** (КВС, 488 б, 1522);

2) **Чомужъ хотѧ видите же права сѧ у насъ ламаютъ, мо<u>в</u>чите** (Апокр., 218);

3) **<u>в</u>жо од того часу мают межи собою мешкать**[1] **сусетскимъ обычаемъ** (АВК, XXXIX, 66, 1578);

4) **а иные тꙋ$^{\text{р}}$ки мосты <u>ꙋ</u>же починили и на коне$^{\text{х}}$ до мѣста <u>в</u>$^{\text{ѕ}}$ежчали** (Бельск., 388);

5) **и кая<u>в</u>ся Богъ, іжъ человѣка сотворилъ** (Адказ. кл. Астр., 6 адв.);

6) **гды <u>у</u>еждалъ его мласть панъ Канцлеръ до Могилева, теды споткали его всеми цехами** (ИЮМ, IV, 69, 1686);

7) **ничого не <u>у</u>тратите, <u>у</u>се вамъ цало зоставаетъ** (Саб. Бер., 55 адв.).

---

[1] **мешкати** – ‘мець жыхарства; прытрымлівацца пэўнага прынцыпу паводзін’ (ГСБМ. Вып. 18. С. 30–31).

З а д а н н е 8. Знайдзіце ў наступных прыкладах адхіленні ад пісьмовай традыцыі, выкліканыя вымаўленнем гука [ў]:

1) **Ияковъ патриярхъ, егда унуки своя благословилъ, на головахъ ихъ рукы на-крыжъ положилъ** (Спіс. супр. лютараў, 204 адв.);

2) **на присегу се самъ доброволъне узялъ** (ИЮМ, VIII, 247, 1597);

3) **Подле фортки и ставу кухня, коминъ на стовпахъ мурованый** (АВК, VIII, 491, 1601);

4) **мꙋси$^{\text{л}}$ иѡанъ сты$^{\text{ѕ}}$ длꙗ це$^{\text{р}}$ковъны$^{\text{х}}$ потребъ задовъжи$^{\text{т}}$ сѧ на тысечꙋ фунтовъ** (Зб. 82, 143 б);

5) **тотъ листъ до книгъ земскихъ… уписанъ былъ** (АВАК, I, 17, 1607);

6) **Огурковъ солоныхъ въ той же пивницы кадь въ чотыри вшатки**[1] (АСД, III, 239, 1571);

7) **Не зъ рукъ въ руцѣ, але на кій узявшы** (Унія, 4-Ад).

---

[1] **вшатокъ** – ‘цэбар’ (ГСБМ. Вып. 35. С. 365).

З а д а н н е 9. У наступных прыкладах знайдзіце, як абазначаецца гук [ў], і растлумачце яго паходжанне:

1) **Тогда оузжала ꙗхиль жена ꙗверова колъ становый**[1] **и мѕлатъ** (Скар. КС, 11 б);

2) **жебы тое дерево такъ товсто, яко натовстей быть можеть, а вдолжъ по чотыри сажни** (КПД, 644, 1563);

3) **у волторокъ, будучы дей мне у месьте здешьнемъ гсдрьскомь Меньскомь** (АВК, XXXVI, 235, 1582);

4) **положылъ есми на именью… и у верею**[2], **ворота великие уезные того именья… увоткнулъ есми позов земски Виленски** (АВК, XX, 206, 1608);

5) **похвативши шкꙋрꙋ з золотою вовною вышли прꙋдко** (Бельск., 79 б);

6) **черезъ окенницу… стрелилъ, с которого стреленья тая куля у ухо левое и у голову упала** (АВК, XX, 254, 1618);

7) **коли сам ꙋзѕсѣлъ на конꙗ своего тогды вси повседали** (Алекс., 1697, 21 б).

---

[1] **становый** – ‘шатровы’ (ГСБМ. Вып. 32. С. 321).

[2] **верея** – 1. ‘слуп, да якога мацуюцца створкі варот’, 2. ‘брамка, вароты’ (Там жа. Вып. 3. С. 119).

З а д а н н е 10. Карыстаючыся слоўнікам А. М. Булыкі «Даўнія запазычанні беларускай мовы» (Мінск, 1972), прааналізуйце падкрэсленыя словы. Які гук абазначаны тут літарай в?

1) **По тыхъ голыхъ строкахъ литеры по польску пописавши удовжъ перомъ, <u>инкавстомъ</u> перетегнулъ** (АВК, XVIII, 169, 1600);

2) **его до <u>цекавзы</u> до вязенья… отъдано** (Дыяр., 177 б).

## ТЭСТ

**1.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Кожны гук [в]:

1) пасля галосных вымаўляецца як [ў];

2) на канцы слова пасля галосных вымаўляецца як [ў];

3) пасля галосных перад зычным вымаўляецца як [ў];

4) ператварыўся ў [ў] марфалагічным шляхам;

5) ператварыўся ў [ў] фанетычным шляхам.

**2.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

На месцы гука [л] з’явіўся [ў]:

1) толькі ў выніку страты рэдукаваных;

2) у спалучэннях тыпу *tъlt;

3) ва ўсіх выпадках на месцы канцавога спалучэння -**лъ**;

4) у словах славянскага паходжання, калі [л] знаходзіўся пасля галоснага перад зычным;

5) у дзеясловах прошлага часу мужчынскага роду адзіночнага ліку.

**3.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Гук [ў] < *wь ў словах:

1) роўны;
2) доўгі;
3) боўтаць;
4) кроўны;
5) паляўнічы.

**4.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Гук [ў] < *ъl у словах:

1) леў;
2) воўна;
3) маўчаць;
4) вяроўка;
5) таўкач.

**5.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Гук [ў]< *lъ ў словах:

1) пад’еў;
2) пад’еўшы;
3) страўнік;
4) наеўся;
5) наеўшыся.

**6.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Гук [ў] з’явіўся ў выніку марфалагічнай аналогіі ў словах:

1) поўны;
2) зрабіў;
3) траўка;
4) (многа) сяброў;
5) стараўся.

**7.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Фанетычнаму прынцыпу правапісу адпавядаюць старабеларускія напісанні:

1) **тълстыи**;
2) **вмерти**;
3) **вовкъ**;
4) **ꙋв окнѣ**;
5) **въ городѣ**.

**8.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Пры перадачы гука [ў] фанетычнаму прынцыпу правапісу адпавядаюць старабеларускія напісанні:

1) **лъ** на месцы **ль**: **палъцы**; 3) **вⷥ** на месцы **въ**: **ровⷥ**;
2) **в** на месцы **л**: **мовчати**; 4) **в** на месцы **ү**: **вжо**.

**9.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Напісанні падкрэсленых прыназоўнікаў адпавядаюць пісьмовай традыцыі ў сказах:

1) **абы жаденъ <u>въ</u> чүжүю єрархїю не мѣлъ втрүчаться**[1] (АВК, VIII, 45, 1601);

2) **до пана Криштофа Рокотовского мѣсяца Апрѣлꙗ второгонадцать днꙗ <u>ү</u> пятницү пришли** (АВК, V, 5, 1577);

3) **позычилъ <u>ү</u> него шесть копъ грошей** (АВК, XX, 325, 1638);

4) **што сꙗ дотычеть ѡзеръ, рекъ, тогды <u>ꙋв</u> озера ꙋвꙗзанье давано быти маєть** (Ст. 1588, 261);

5) **королеваѧ знала… и дѣвкү тэж задержала <u>в</u> себе, поки сѧ тут злүчыть з Онцалотом** (Трыст., 60).

[1] **втрүчатися, втрүчаться** – ‘умешвацца’ (ГСБМ. Вып. 5. С. 52).

**10.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Напісанні падкрэсленых слоў абумоўлены асаблівасцямі вымаўлення ў сказах:

1) **Тамъже видели само горнище**[1] **клүнное <u>въдовжъ</u> на гоны згонные** (АВК, XVIII, 352, 1647);

2) **Древо ѡное <u>въвеⷬженое</u> ѿ Іелисеꙗ вⷥ водꙋ** (Зб. 752, 413);

3) **Тогды єсми тебе ховала и <u>үзрос</u> єси ү моєго ѡтца дворе** (Бава, 156);

4) **Казалисмо єго** [лист] **до книгъ мескихъ <u>үписати</u>** (ИЮМ, VIII, 204, 1593);

5) **<u>Вⷥвели</u> єго вⷥ келью и посадили** (Пралог, 625 б).

[1] **горнище** – ‘месца, дзе размешчаны горан’ (ГСБМ. Вып. 7. С. 84).

## Тэма 16

# З'явы, не звязаныя са стратай рэдукаваных: пераход [э] ў [о]

У старабеларускім пісьменстве адлюстраваўся шэраг фанетычных працэсаў, не звязаных са стратай рэдукаваных. Адны з іх адбываліся пасля X ст. і ўласцівы ўсім усходнеславянскім мовам, іншыя здаўна прысутнічалі ў гаворках, што леглі ў аснову беларускай мовы.

**Гісторыя пераходу [э] > [о].** Ва ўсіх усходнеславянскіх мовах назіраецца пераход [э] > [о]:

бел. *ледзяны – лёд*,
укр. *лід* (< **лєдъ**) – *льодовий*,
руск. *ледяной – лёд*.

Гэта пераходнае чаргаванне напачатку адбывалася толькі пасля спрадвечна мяккіх зычных: *чобаты*, *шоўк*, *ёрш* [јорш]; пазней гэта з'ява распаўсюдзілася і на другасна памякчоныя зычныя: *вёсны, мёрзлы*, *лёгка*. У апошнюю чаргу пераход стаў адбывацца ў націскным канцавым адкрытым складзе: *усё*, *маё* [мајо], *жыццё*.

Неабходнай умовай для таго, каб пераход адбыўся, з'яўляецца патрабаванне: [э] павінен знаходзіцца ў націскным складзе пасля мяккага (у тым ліку і зацвярдзелага) перад наступным цвёрдым зычным. Менавіта гэты цвёрды зычны і спрыяў лабіялізацыі [э], які стаў вымаўляцца як [о].

У рускай мове пераход [э] > [о] назіраецца пасля спрадвечна мяккіх і другасна памякчоных: *шестой*, *четыре*; *жёлудь*, *шёпот*.

Ва ўкраінскай мове незалежна ад націску сёння пераход [э] > [о] можа здзяйсняцца толькі пасля спрадвечна мяккіх зычных:

*чотири*, *шостий*, *вечір – вечора*.

У словах, дзе паўмяккія зычныя зацвярдзелі, пераход не адбываецца:

*береза* [бэрэза], *мерзлий* [мэрзлый].

Такім чынам, гэта з’ява ва ўсходнеславянскіх прадыялектах была прадстаўлена неаднолькава.

Паколькі пераход [э] > [о] адбываецца не толькі на месцы спрадвечнага [э], але і таго, які паходзіць з [ь] ў моцнай пазіцыі, то з’яву датуюць часам пасля страты рэдукаваных, г. зн. пасля X ст.:

**льнъ** > *лен* > *лён*, **дьнь** > *дзень* – *дзённік*.

Аднак у сучаснай беларускай мове назіраецца цэлы шэраг выпадкаў, дзе пераход гэтага тыпу не прадстаўлены. Так, у азначанай вышэй пазіцыі [э] захоўваецца:

1) у царкоўнаславянізмах і словах з рэлігійнай сферы: *жыціе*, *каўчэг*, *неба*;

2) у выпадках, калі непазіцыйная мяккасць пасля страты рэдукаваных яшчэ захоўвалася:

- перад суфіксамі -(**ь**)**ш**-, -(**ь**)**ск**-, -(**ь**)**н**-: *лепшы*, *земскі*, *душэўны* < **лєпьшьи**, **зємьскъи**, **дѹшьвьнъи**;
- у спалучэннях рэдукаванага з плаўным [р]: *верх*, *першы* < **вьрхъ**, **пьрвшьи**;

3) у словах з прыстаўкамі *не-*, *без-*: *небылі́ца*, *бе́здань* < **нєбылица**, **бє́здъна**;

4) на месцы *ě (яць): *сена*, *дзед*, *дзве*, *у руцэ* < **сѣно**, **дѣдъ**, **дъвѣ**, **въ рѹцѣ**.

З гэтага вынікае, што ў час дэфаналагізацыі фанемы <ě> (яць) пераход [э] > [о] ўжо не адбываўся. Такім чынам, пераход быў здзейснены не раней за X ст. (пачатак пісьмовай пары), а ў XIII ст. (самыя раннія выпадкі дэфаналагізацыі фанемы <ě>) для беларускіх гаворак ён ужо губляў актуальнасць;

5) у выпадках, калі наступны зычны яшчэ не зацвярдзеў:

- у спалучэннях з мяккім [р’]: *бераг*, *перад* < **бєрєгъ**, **пєрєдъ**. Гук [р’] у асобных беларускіх гаворках зацвярдзеў к XIV ст.;
- перад [ц’]: *касец*, *маладзец* < **косьць**, **молодьць**. Зацвярдзенне [ц’] адлюстроўваецца ў пісьмовых помніках не раней XV ст.;
- перад шыпячымі: *ідзеш*, *лежучы*, *бяспечны* < **идєшь**, **лєжѹчи**, **бєспєчьный**. Паводле даных пісьмовых крыніц, зацвярдзенне шыпячых адбылося ў XVI ст.;

б) у запазычаннях:

*чэк* (англ. *check* < перс. *ček* ‘дамова, дакумент’),
*шэпт* (польск. *szept*, параўн.: усх-сл. **шьпътъ**),
*праблема* (грэч. *problema* ‘задача’).

Часам пераход [э] > [о] назіраецца там, дзе для яго няма ўмоў, а менавіта – перад наступным мяккім зычным:

*лёд – на лёдзе, клён – клёнік,*
*бяроза – на бярозе* ([р’] зацвярдзеў пазней).

Гэта з’ява тлумачыцца не фанетычнымі ўмовамі, а марфалагічнай аналогіяй (імкненнем захаваць аднастайны выгляд каранёвай марфемы).

Зрэдку паводле аналогіі на месцы спрадвечнага *ě (яць) сустракаецца [э] > [о]:

*гняздо* (**гнѣздо**) – *гнёзды,*
*вядро* (**вѣдро**) – *вёдры.*

У старабеларускай графічнай сістэме не было літары ***ё***. Гук [о] перадаваўся літарай ***о*** (**чотыри, весолый**) або – паводле ўзору польскай графікі – дыграфам ***іо*** (**ліосъ, зіолки**).

## Заданні

З а д а н н е 1. Запішыце сучасныя адпаведнікі наступным агульнаўсходнеславянскім словам:

| Н. скл., мн. л. | Н. скл., адз. л. |
|---|---|
| **берези** (пачатк. ф. – **берегъ**); | **быкъ**; |
| **березы**; | **копьк**; |
| **весны**; | **море**; |
| **озера**; | **плече**; |
| **неводи** (пачатк. ф. – **неводъ**); | **поле**. |

Чаму ў некаторых з іх не адбыўся пераход [э] > [о]?

З а д а н н е 2. Наступныя словы запішыце па правілах X ст. Чым адрозніваецца іх вымаўленне ад вымаўлення сучасных адпаведнікаў?

а) беражок, вучоны, кручок, пчолка, чэсны;

б) душою, зямлёю, мяжою; галлём, мячом (ад *меч*);

в) прынёс, прывёз, спёк, уцёк, памёр (NB! канцавы **-лъ** ў X ст. яшчэ не спрасціўся).

З а д а н н е 3. У словах, прыведзеных ніжэй, гук [э] стаіць пад націскам пасля мяккага зычнага перад цвёрдым. Чаму тут не адбыўся пераход у [о]?

Арэх, вера, мера, снег, хлеб, чалавек.

Запішыце гэтыя словы па правілах X ст., улічваючы, што па-ўкраінску:

горіх, віра, міра, сніг, хліб, чоловік.

З а д а н н е 4. Растлумачце, чаму не адбыўся пераход [э] > [о] ў прапанаваных словах.

Абед, аб'езд, белы, вецер, лес, лета, месца.

Запішыце гэтыя словы па правілах X ст., улічваючы, што па-польску:

obiad, objazd, biały, wiatr, las, lato, miasto.

З а д а н н е 5. Параўнайце словы *імёны* і *безыменны*.Чаму ў другім слове не адбыўся пераход [э] > [о]?

З а д а н н е 6. У словах *Смаленск*, *Віцебск* гук [э] знаходзіцца пад націскам пасля мяккага зычнага перад цвёрдым, аднак пераход [э] > [о] не адбываецца. Чаму? Запішыце словы па правілах X ст.

З а д а н н е 7. Падбярыце сучасныя адпаведнікі агульнаўсходнеславянскім словам **вьрба**, **смьрть**, **четвьргъ**. Чаму ў іх на месцы гука [э] не стаў вымаўляцца [о]?

З а д а н н е 8. Параўнайце словы *вязеш*, *грабеж*, *лежучы*, *нясеш*, *плацеж* з іх рускімі адпаведнікамі *везёшь*, *грабёж*, *лёжа*, *несёшь*, *платёж*. У якой мове шыпячыя зычныя зацвярдзелі раней?

З а д а н н е 9. Дзеяслоў прошлага часу *пёк* (< **пеклъ**) і назоўнік *пекла* (< **пекло**) – аднакарэнныя. Растлумачце адсутнасць пераходу [э] > [о] ў назоўніку.

З а д а н н е 10. Параўнайце сучасныя формы займеннікаў адзіночнага і множнага ліку.

Маё (тваё, сваё) акно – мае (твае, свае) вокны.

Як яны маглі быць напісаны ў X ст.?

## ТЭСТ

**1.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Для таго каб адбыўся пераход у [о], галосны [э] павінен стаяць:
1) пасля цвёрдага зычнага;
2) пасля спрадвечна мяккага зычнага;
3) пасля другасна памякчонага зычнага;

4) перад цвёрдым зычным;
5) перад мяккім зычным.

**2.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Для таго каб адбыўся пераход у [о], галосны [э] павінен стаяць:
1) у сярэдзіне слова пад націскам;
2) абсалютным пачатку слова не пад націскам;
3) канцавым закрытым складзе пад націскам;
4) канцавым адкрытым складзе пад націскам;
5) канцавым адкрытым складзе не пад націскам.

**3.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Пасля X ст. пераход [э] > [о] адбыўся ў словах:
1) **битьѥ**;
2) **бытьѥ**;
3) **вѣтьѥ**;
4) **гольѥ**;
5) **смєтьѥ**.

**4.** Адзначце правільны адказ.

У словах *возерам – азёры, вяслом – вёслы, вясной – вёсны, мятлой – мётлы, сястрой – сёстры* прычынай пераходу [э] > [о] з'яўляецца:
1) змена формы ліку;
2) змена формы склону;
3) змена націску;
4) галосны пярэдняга рада [ы] ў наступным складзе.

**5.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Словы, у якіх пасля зацвярдзення губных у форме творнага склону канчатак вымаўляўся як [ом]:
1) **кънꙗзьмь**;
2) **отцьмь**;
3) **плащьмь**;
4) **сторожьмь**;
5) **цєсарьмь**.

**6.** Знайдзіце адпаведнасці паміж словам (1, 2, 3, 4, 5) і прычынай (а, б, в, г, д) адсутнасці ў XIV ст. пераходу ў [о] гука, абазначанага падкрэсленай літарай.

| | |
|---|---|
| 1) пяро (< **пєро**); | а) стаіць не пад націскам; |
| 2) мера; | б) [э] < *ě (яць); |
| 3) пражэктар; | в) наступны зычны – мяккі; |
| 4) каменьчык; | г) наступны зычны зацвярдзеў пазней; |
| 5) межы; | д) слова іншамоўнае. |

**7.** Знайдзіце адпаведнасці паміж словам (1, 2, 3, 4, 5) і прычынай (а, б, в, г, д) адсутнасці ў XIV ст. пераходу ў [о] гука, абазначанага падкрэсленай літарай.

1) білет; а) стаіць не пад націскам;
2) вера; б) [э] < *ě (яць);
3) зерне; в) у спалучэнні **ьр** зычны быў мяккі;
4) жнец; г) наступны зычны зацвярдзеў пазней;
5) пчала (< **пчєла**); д) слова іншамоўнае.

**8.** Састаўце адпаведнасці так, каб атрымаліся правільныя выказванні.

У слове... (1, 2, 3, 4, 5) націскны гук [э] не змяніўся, таму што... (а, б, в, г, д).

1) каменны; а) уваходзіць у склад прыстаўкі;
2) бязбедны; б) [э] < *ě (яць);
3) секвестр; в) наступны зычны мяккі, бо суфікс пачынаўся з **ь**;
4) маладзец; г) наступны зычны зацвярдзеў пазней;
5) неслух; д) слова іншамоўнае.

**9.** Састаўце адпаведнасці так, каб атрымаліся правільныя выказванні.

У слове... (1, 2, 3, 4, 5) націскны гук [э] не змяніўся, таму што... (а, б, в, г, д).

1) аркестр; а) уваходзіць у склад прыстаўкі;
2) перарэзаць; б) [э] < *ě (яць);
3) усяленскі; в) наступны зычны мяккі, бо суфікс пачынаўся з **ь**;
4) невук; г) наступны зычны зацвярдзеў пазней;
5) цешча; д) слова іншамоўнае.

**10.** Састаўце адпаведнасці так, каб атрымаліся правільныя выказванні.

У слове... (1, 2, 3, 4, 5) націскны гук [э] не змяніўся, таму што... (а, б, в, г, д).

1) планета; а) уваходзіць у склад прыстаўкі;
2) печ; б) [э] < *ě (яць);
3) рэпа; в) наступны зычны мяккі, бо суфікс пачынаўся з **ь**;
4) асенні; г) наступны зычны зацвярдзеў пазней;
5) бяздараж; д) слова іншамоўнае.

# Тэма 17

# Адлюстраванне акання і якання

У шырокім значэнні ***аканне*** – неадрозніванне [а], [о], [э] ў ненаціскных складах. У вузкім значэнні – супадзенне [о], [э] ў гуку [а] пасля цвёрдых зычных. Пасля мяккіх зычных гэта з’ява абазначаецца тэрмінам ***яканне***.

Першапачатковая прычына акання – у рэдукцыі ненаціскных складоў, што выражаецца ў невыразным вымаўленні галоснага гука.

Калі характарызаваць аканне ва ўсходніх славян, то трэба адзначыць разнастайнасць яго структурных тыпаў, што праяўляецца ў вымаўленні ненаціскнога галоснага ў залежнасці ад размяшчэння склада адносна націскнога (перад або пасля, на колькі складоў аддалена) і якасці галоснага пад націскам.

Аканне – з’ява, уласцівая жывым гаворкам. Тыпалагічна вызначаецца *моцнае*, ці *недысімілятыўнае* (ненаціскны [а] вымаўляецца незалежна ад націскнога галоснага), і *дысімілятыўнае* (ненаціскны [а] вымаўляецца ў тым выпадку, калі пад націскам не [а]; калі ў націскным складзе [а], то ў ненаціскных на месцы [а], [о], [э] вымаўляецца [ы]); *поўнае* (аканне закранае ўсе пераднаціскныя і паслянаціскныя склады, як адкрытыя, так і закрытыя) і *няпоўнае* (у канцавым адкрытым складзе захоўваецца ненаціскны [о]). Пры гэтым у гаворках прадстаўлены розныя тыпы акання:

- моцнае поўнае: [ва̲да́], [наˆга̲лаве́], [мно́га̲];
- моцнае няпоўнае: [з’і́мно̲], [до́бро̲], [мно́го̲];
- дысімілятыўнае: [вадо́й] – [вы̲да́], [наˆгалав’э́] – [гы̲лъва́].

У помніках пісьменства аканне пачынае адлюстроўвацца па меры паслаблення пісьмовай кніжна-славянскай традыцыі. Арфаграфічнай нормай у старабеларускім пісьменстве аканне не стала. Выпадкі напі-

санняў адпаведна вымаўленню спарадычныя, напрыклад **старона** замест **сторона**, **похавати** замест **поховати**.

Цікавая з’ява – гіпернармальныя напісанні, г. зн. ужыванне літары **о** там, дзе гук [о] ніколі не вымаўляўся: **б<u>о</u>ранъ, запо<u>д</u>ъ**. Гэта слушна ў тым ліку пры адаптацыі запазычанняў: **т<u>о</u>лантъ, <u>о</u>лтынъ**.

Да гіпернармалізмаў можа быць аднесена і напісанне літары **є** на месцы [’а], што ўтварыўся з *[ę] ([eⁿ]): *мес<u>е</u>ць, св<u>е</u>тый, п<u>е</u>тнадцать, старатис<u>е</u>*. А. М. Булыка кваліфікуе такія напісанні як «ускоснае адлюстраванне якання» (*Булыка А. М.* Развіццё арфаграфічнай сістэмы старабеларускай мовы. Мінск, 1970. С. 118).

Уплывам польскай мовы тлумачацца напісанні тыпу *бялый*, *стяна* замест **бѣлыи, стѣна**, дзе адлюстравана польскае вымаўленне гука на месцы старажытнага [ě] (яць).

## Заданні

З а д а н н е 1. Параўнайце два варыянты аднаго і таго ж слова (падкрэслены ў цытатах). Патлумачце адрозненні ў іх арфаграфічным афармленні. Як пісалася слова адпаведна кніжна-славянскай і ўсходнеславянскай традыцыям?

1) **Не оувидишь по них жадного**[1] **оущепленіѧ <u>расказȣ</u> ȣмысла твоего** (Арыст., 161);

2) **ижъбы… тыхъ пенезей… ни на чый <u>росказъ</u> не выдавали, одно на посполитую оборону земъскую** (КПД, 142, 1547).

[1] **жадный** – ‘ніхто; ніякі; усякі’ (ГСБМ. Вып. 9. С. 245–247).

З а д а н н е 2. У прапанаваных сказах знайдзіце словы, у якіх адлюстравана аканне.

1) **заставилъ есми емȣ ѳасу**[1] **свою съ таваромъ** (КСД, 356, 508);

2) **съ того копца**[2] **стеною въ Лесковое капецъ, зъ Лесковего копца стеною въ Липовы капецъ** (ИЮМ, XVIII, 219, 1663);

3) **ꙗвиⷧсꙗ с҃тыⷥ иѡаⷩ неꙗкомȣ кереме ⷣникови то есть гаⷩчарови или стрихарови**[3] (Зб. 752, 161 б);

4) **оучн҃ицы сⷥхажалисѧ ламати хлѣба въ едину ѿ суботъ** (Будны, 45);

5) **Купили вилъ трое и лапату, дали асмаковъ десять** (ИЮМ, I, 19, 1683);

6) **вино вароное гȣстое едꙗⷮ цȣⷤрованое хлебъ салодꙗⷮ** (Наб. тур., 24).

[1] **ѳаса** – ‘дзежка’ (ТСБМ. Т. 5, кн. 2. С. 117).
[2] **копець** – ‘насып як памежны знак’ (ГСБМ. Вып. 15. С. 298).
[3] **стрихаръ** – ‘цагельнік’ (Там жа. Вып. 32. С. 484).

З а д а н н е 3. Прачытайце ўрывак тэксту і супастаўце колькасць выпадкаў рэальнага і патэнцыяльнага адлюстравання акання і якання.

**Тотъ же Матыс Сосновский менил передо мъною возным шкодъ собе на тотъ час сталых: взяли дей скрыни сребра грывны две и скойцы**[1] **два готового з шабли заставного**[2]**, жупан бурнатный**[3] **утерфиновый**[4] **лисами подшытый… бликами сребраными, который дей каштовалъ грошей копъ дванадцать, футро лисее завыйковое**[5]**, которое дей коштовало копъ осмъ грошей, колпакъ фалюндышовый**[6] **бурнатный куницами подшитый, коштовал дей тры копы и деветь грошей, кафтаникъ бавелъняный… повлочоный коштовалъ дей грошей осмъдесять** (АВК, XXXVI, 1582).

---

[1] **скоецъ** – 'старажытная польская манета' (ГСБМ. Вып. 31. С. 348).

[2] **заставный** – 'які знаходзіцца ў закладзе' (Там жа. Вып. 11. С. 175).

[3] **бурнатный** – 'карычневага колеру' (Там жа. Вып. 2. С. 224).

[4] **утерфиновый** – 'зроблены з тонкага сукна' (Там жа. Вып. 35. С. 252).

[5] **завыйковый** – 'зроблены з шыйных частак шкур' (Там жа. Вып. 10. С. 149).

[6] **фалюндышовый** – прыметнік ад **фалюндышъ** 'тоўстае галандскае або французскае сукно' (Там жа. Вып. 35. С. 38).

З а д а н н е 4. Параўнайце варыянты напісанняў падкрэсленага слова. Якія з іх больш адпавядае гучанню ў мове – крыніцы запазычання?

1) **Даси мне лвомъ срогимъ коли мене увидять <u>рахмаными</u> будуть** (Зб. 752, 244 б);

2) **Волъ ожилъ и станулъ а <u>рохманымъ</u> ся учинилъ** (Зб. 82, 296 б).

*Для даведкі*: тур. *Rahman* (Булыка. С. 274); 'лагодны' (ЭСБМ. Т. 11. С. 153).

З а д а н н е 5. Знайдзіце гіпернармалізмы ў адлюстраванні акання ў наступных сказах:

1) **отъ корована**[1]**, кгды з Орды идеть, старост: камка Александрыйская на золоте, литра шолку, коверъ** (Арх. ЮЗР, VII-1, 82, 1552);

2) **речы рухомые… мис цыновых чотыры, приставечка одна, толерок**[2] **цыновых шесть** (АВК, XXXII, 313, 1596);

3) **на насъ Москвичи тамъгу**[3] **емлютъ** (РЛА, 120, 1405);

4) **пятьсотъ алътынъ**[4] **денегъ узялъ** (КЗ, 361, 1484);

5) **Корней… будучы у Смоленску, заплатилем за него томги олтын шест, чого довел реестром замку Смоленског от тых томожников Смоленских** (АВК, XXXIX, 337, 1579).

---

[1] **корованъ** – польск. *karavan* < франц. *caravane* < перс. *Karvan* (Булыка. С. 172).

[2] **толерка** – польск. *talerz* < ням. *Talier* 'талерка' < лат. *tagliare* 'рэзаць' (Там жа. С. 316; Фасмер. Т. 4. С. 24).

[3] **тамга** – цюрк. *tamqa* 'гандлёвы падатак, пячатка' (Булыка. С. 316).

[4] **алътынъ** – тат., тур. *altyn* 'залаты' (Фасмер. Т. 1. С. 72).

З а д а н н е 6. Патлумачце напісанні падкрэсленых слоў.

1) мȣж твоⷥ... именье мое речею по смеⷬти ѡтъца моего деⷬжалъ кольконаⷣцать летъ (КВЗС, 15 б, 1537);

2) мꙋ южъ зъ ласки божей лятъ шестдесять минꙋло (Еўл., 136);

3) еже что принеслъ бꙋдеть все цѣло и да возьметь ѿ него золотника два (Лаўр., 12 б);

4) боронечы папежское звирхности и цалости светое веры (Бер. саб., 40).

*Для даведкі*: польск. *lato* ‘год’, *cały* ‘цэлы’, *całość* ‘цэласць’, *święty* ‘святы’.

З а д а н н е 7. Укажыце, якая з’ява адлюстравалася ў напісаннях падкрэсленага запазычання.

1) Панъ Томашъ Сегинъ, подстароста и лянтвойтъ Кричевскій и Олꙋчицкій державца, лист... до актовыхъ книгъ Майдебꙋргскихъ Кричевскихъ подалъ (АЗР, V, 120, 1669);

2) панъ Янъ Грꙋша лентвойтъ[1] места Менского, жаловалъ и оповедалъ тымъ способомъ (АВК, XXXVI, 220, 1582).

---

[1]лентвойтъ – ‘намеснік войта, начальнік гарадскога пасялення’, ад с.-в.-н. *lentvoget* (Булыка. С. 188).

З а д а н н е 8. Падкрэсленае ў наступных прыкладах слова мае агульнаславянскі корань *vĕd- і сучасны польскі адпаведнік *świadectwo*. Дайце тлумачэнне старабеларускім арфаграфічным варыянтам.

1) А семꙋ на свѣдетство, наша печять привѣшена есть (АЗР, I, 26, 1489);

2) Мы тыхъ людеⷥ водȣлгъ слȣшного ихъ выводȣ в томъ сведеⷰтве правыхъ нашли (КВЗС, 36 б, 1538);

3) Не моⷡ ѳаⷧшивого свꙗдеⷰтва протиⷡ блиⷤнемȣ (Зб. 261, 83 б);

4) На него того спротивеньꙗ свѧдецтствоⷨ врѧдовымъ ꙗко вышей ѡписано доведеⷮ (Трыб., 14).

З а д а н н е 9. Размяркуйце падкрэсленыя словы па групах:

а) літара *я* (ꙗ) перадае гук [’а]-спрадвечны;

б) літара *я* (ꙗ) перадае гук [’а] < [ę];

в) літара *я* (ꙗ) перадае гук [’а] < [е], [ĕ]: вынік якання.

1) вѧдно речено есть з латинского ꙗзыка какъ бы дорога пекельнаꙗ (Пак. Хр., 25);

2) ѡтецъ твои тиснꙋⷧ наⷭ ꙗрмоⷨ велми твеⷬдыⷨ (Біблія, 423);

3) члонъки мяⷬтвели, и внȣтрности ихъ заражало зиⷨно ѡное (Пралог, 503);

4) Петръ святый нигды епископомъ Римꙋ не былъ, и оные слова Петрꙋ реченые до столицы Римскоѣ не стягаются, яко бы она сама только

мѣла власть на земли вязати и рѣшити и двери до неба ключами Петровыми отворяти (АЗР, IV, 233–234, 1600–1605);

5) вяночковъ, зiолокъ, травы всего того за недостаткомъ купили асм. за деветнадцать (ИЮМ, I, 43, 1679);

6) по$^{в}$стала бурꙗ вѣтры и навално$^{ст}$ великаꙗ з велми стра$^{ш}$ными тȣчами ажъ сꙗ и парȣсы поȣрывали (Зб. 81, 188).

З а д а н н е 10. Размяркуйце перадачу галосных гукаў у падкрэсленых словах па групах:

а) адпавядае традыцыйна-этымалагічнаму прынцыпу правапісу;

б) адпавядае фанетычнаму прынцыпу правапісу;

в) з’яўляецца гіпернармалізмам.

1) талерка цынованая, лаханка меденая, оловеникъ меденый (ИЮМ, XXI, 400, 1598);

2) сн҃ъ… егда же родилъсѧ и хотѣ мт҃и измыти его в лохани (Чэцця, 88);

3) Коли змелетъ спечеть то у печи испече$^{т}$сѧ, а з лопаты ȣ печъ не зложи$^{т}$ с печи ажъ ѡполоником выбере$^{т}$ (Барк., 164);

4) До цекавзу купили лапатъ семъ, одна по осм. два (ИЮМ, IX, 33, 1692);

5) будуть ремесники въ мѣстѣ Полоцкомъ мѣшкати, пекары, мясники (АЗР, I, 215, 1500);

6) коменданту Бочкановъскому одеслали мяса у розныхъ месниковъ купуючы за два золот (ИЮМ, VI, 61, 1686).

З а д а н н е 11. Размяркуйце перадачу галосных гукаў у падкрэсленых словах па групах:

а) адпавядае традыцыйна-этымалагічнаму прынцыпу правапісу;

б) адпавядае фанетычнаму прынцыпу правапісу;

в) з’яўляецца гіпернармалізмам.

1) мы казали есмо Бартошȣ брата своего ѡтискивати за четыри недели ѡт святого Петра; а не ѡтыйщет Бартошь, тагды вси шкоды Бартошь маеть емȣ поплатити (КСД, 56, 1510);

2) чинить намъ самымъ и подданымъ нашимъ великiе кривды быдломъ своимъ пашни нашой… тровить (АВК, VI, 48, 1589);

3) с ты$^{х}$ борано$^{в}$ рожаꙗ вышли боранове лесныи, ижь соу$^{т}$ велми велики а сыты. и доужи держа$^{т}$ велике роги толсты мохнаты ка$^{к}$ козе$^{л}$кове (Валх., 50 б);

4) его королевская милость, взявши вѣдомость отъ подданыхъ своихъ мѣщанъ Полоцкихъ… рачилъ имъ надати… листомъ своимъ вольность на чотыри годы… вызваляючи отъ чопового, шосового, также отъ стругӧвъ бранья (АВК, VIII, 501, 1615);

5) алею квартъ пять, по осмаковъ пятнадцать (ИЮМ, IV, 133, 1686).

## ТЭСТ

**1.** Дапоўніце, каб атрымалася правільнае выказванне.

Калі гаворцы ўласціва моцнае аканне, то гук [а] вымаўляецца на месцы спрадвечнага:

1) [о]; 4) [э];
2) [у]; 5) [и].
3) [ы];

**2.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Аканне адлюстравана ў напісанні слоў:

1) **коробачка**; 4) **коробъ**;
2) **коробка**; 5) **корабъ**.
3) **коробочка**;

**3.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Яканне адлюстравана ў напісанні слоў:

1) **верея**; 4) **вянути**;
2) **вялость**; 5) **вяровка**.
3) **вянокъ**;

**4.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Напісанне літары *я* тлумачыцца польскім уплывам у словах:

1) **вясло**; 4) **вядро**;
2) **вятръ**; 5) **вяра**.
3) **вязень**;

**5.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Фанетычнаму прынцыпу арфаграфіі адпавядаюць напісанні падкрэсленых слоў у прыкладах:

1) **очи погамꙋймо, жебы зѕ пожадливостѕю и безѕ встыдꙋ на чꙋжꙋю <u>красотꙋ</u> не смотрели** (Каліст, I, 109 б);

2) **аще хочешь… ведати <u>красатꙋ</u> женьскоую и любовь достоить дꙋмати по смотренью єⷭ творити** (Плячо, 81 б);

3) **се же видимъ братиꙗ нине роженого во вбогои печере <u>пребагатого</u> цр҃ѧ нбⷭного** (Чэцця, 120);

4) **да соуⷮ оу бж҃ей доли моужове преростропны и велми добрые лекари и <u>пребогатыи</u> торговци** (Валх., 84 б);

5) **иногды мног ѡмылѧютсѧ лѣкари въ людех, а <u>оуморѧютъ</u> их** (Арыст., 219);

6) **ѡнъ <u>ꙋмарꙗет</u> и ѡживлꙗет, и заражает и лѣчыт** (Зб. 82, 43).

**6.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Марфалагічнаму прынцыпу арфаграфіі адпавядаюць напісанні падкрэсленых слоў у прыкладах:

1) **онѕ… стоꙗлъ ꙋбо естъ при женцехъ свои$^{х}$ и где вѧзали снопы на поли** (Скар. КЮ, 13);

2) **ѡнъ же держить лице прѣстола своего, и протѧгаетѕ над нимъ мѕглу свою** (Скар. ІК, 31 б);

3) **панъ Щасный… половицу того поля тымъ подданымъ пана воеводы Троцкого пустилъ и протегалъ** (АВК, XXI, 31, 1555);

4) **Вядеръ три, решотъ чотыри, то дей все коштовало копу грошей** (АВК, VIII, 466, 1593);

5) **за просечене рыны**[1] **поденщику у браме Дубровенской, которую вода почала подмывать, осм. пять** (ИЮМ, V, 31, 1688).

[1]**рина, рына** – 'жолаб, латок' (ГСБМ. Вып. 30. С. 111).

**7.** Састаўце адпаведнасці так, каб атрымаліся правільныя выказванні.

У падкрэсленым слове са сказа… (1, 2, 3, 4, 5) адлюстравалася… (а, б, в).

1) **какъ боранекъ пре$^{д}$ стрыгучи$^{м}$ голосоу не да$^{л}$** (Хран., 10 б);

2) **если ты колѣна свои на мл̃твꙋ скланѧешъ, а мыслей твоихъ што иншого не розрываетъ** (Мак., 133);

3) **тагды вси шкоды Бартошь маеть емꙋ поплатити** (КСД, 56, 1510);

4) **На што ижъ ся вже вышей достаточне отказало и вывело, якие тамъ суды были, не хочу одное речы два разы повтарати** (Антыр., 290);

5) **Склонѧи шию его во младыхъ днехъ его** (Скар. ІС, 49);

а) аканне;

б) гіпернармальнае аканне;

в) напісанне па этымалагічна-традыцыйным прынцыпе.

**8.** Састаўце адпаведнасці так, каб атрымаліся правільныя выказванні.

Падкрэсленая літара ў слове са сказа… (1, 2, 3, 4, 5) абазначае гук [э], які не змяніўся, таму што… (а, б, в).

1) **мы казали есмо Бартошꙋ брата своего ѡтискивати за четыри недели** (КСД, 56, 1510);

2) **на томъ служебнику моемъ знято чуга сукна лунского** (АВК, XXXVI, 81, 1582);

3) **одеслали мяса у розныхъ месниковъ купуючы за два золот.** (ИЮМ, VI, 61, 1686);

4) **корали, серги, чепцы золотые и перстенки, то все зостать пры малжонце моей** (ИЮМ, XXI, 422, 1625);

5) **Былисмо прошены о выданьє зъ книгъ канцеляріи нашой... єкстрактомъ справы нижей выражоноє, которая сє въ книгахъ светобливоє памєти королевоє єє милости Боны нашла** (АВК, III, 1, 1661);

а) напісанне адпавядае этымалагічна-традыцыйнаму прынцыпу;

б) стаіць пад націскам, адпавядае вымаўленню;

в) у напісанні прадстаўлена гіпернармальнае адлюстраванне [’a] < [ę].

**9.** Састаўце адпаведнасці так, каб атрымаліся правільныя выказванні.

У падкрэсленым слове са сказа... (1, 2, 3, 4, 5) адлюстравалася... (а, б, в).

1) **тая Ганка передъ нами поведила, штожъ тыи два слѣды**[1] **дала єй небожчыца пани Сенковая** (КЗ, 560, 1494);

2) **вси кмети... съ кождоє волоки, сляду, жребя, або лану**[2] **оселого мають платити по грошей** 10 (КПД, 532–533, 1569);

3) **У падводки калоды мескіє дубовыє вяровокъ двє и за працу, дали за въсє ас. девєтнадцать** (ИЮМ, I, 36, 1679);

4) **въ которой пуни сяна єсть зложоного возовъ шесть** (АВК, XIV, 411, 1591);

5) **єсть ꙗкъ насѣньѧ пшеницы албо ꙗчменѧ, которіи нє зараз по ѡдданю сѣменъ земли корени пꙋскатъ** (Мак., 154);

---

[1] **слѣдъ** – тут ‘надзел зямлі’ (ГСБМ. Вып. 31. С. 416).

[2] **ланъ** – ‘адзінка меры ворнай зямлі’ (Там жа. Вып. 16. С. 292).

а) яканне;

б) напісанне па этымалагічна-традыцыйным прынцыпе;

в) уздзеянне польскай мовы на напісанне слова.

**10.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Напісанне галоснага (**о** або **а**) у корані падкрэсленага запазычанага слова адпавядае вымаўленню ў мове-крыніцы ў сказах:

1) **Давши имъ мандатъ**[1] свой (АЗР, II, 246, 1533);

2) **Стерегу мондатовъ твоихъ** (Пс. XVII, 139);

3) **монэту**[2] **нашу фалшовалъ** (Вісл., 17);

4) **Тридцать гривенъ польскоє манеты** (КСД, 278, 1516);

5) **Панъ Петръ Мартиновичъ поведалъ: нє былом при тоимъ коли продал, хиба коли могорыч пили тогдымъ я з ними пил** (АВК, XXX, 66, 1590);

6) **Дали имъ на магарычъ**[3] **на горелку осмаковъ дванадцать** (ИЮМ, IV, 144, 1686);

7) **мне с коморки дей взята скрынка... таляровъ**[4] **трдцать осмь, бобровъ выделаныхъ три** (АВК, XXI, 85, 1555);

8) **Я на томъ ярмарку и иншые пески продалемъ по толяру** (АВК, XXXIX, 343, 1579).

---

[1] **мандатъ** – ‘каралеўскі ўказ; выклік у суд’ (польск. *mandat* < лац. *mandatum*) (Булыка. С. 197).

[2] **монета** – ‘манета’ (польск. *moneta* < лац. *moneta*) (Там жа. С. 206).

[3] **могоричъ** – ‘пачастунак удзельнікам гандлёвай здзелкі’ (ГСБМ. Вып. 18. С. 114); цюрк.-араб. *mahar̃iğ* (Булыка. С. 205).

[4] **талеръ, талярь** – ‘манета’ (польск. *talerz* < ням. *Teller*) (Там жа. С. 316).

Тэма 18

# Адлюстраванне асаблівасцей беларускага кансанантызму: зацвярдзелыя зычныя, [дз′] і [ц′]

## Зацвярдзенне [р’]

Цвёрды [р] з’яўляецца нормай беларускай літаратурнай мовы, аднак уласцівы не ўсім беларускім гаворкам: мякка вымаўляецца гэты гук на паўночна-ўсходняй тэрыторыі Беларусі. Відавочна, што ў старабеларускі перыяд зацвярдзелы [р] таксама сустракаўся не паўсюдна. Старабеларускімі кніжнікамі гэта рыса перадаецца спарадычна з XIV ст., у XV–XVII стст. яна прадстаўлена ўжо даволі шырока. Адлюстраваннем цвёрдага вымаўлення этымалагічна мяккага [р’] з’яўляюцца наступныя напісанні: **сентябра, борысъ, рэмесло, кручокъ**.

Напісанні тыпу **риба, откритый, крюжокъ** можна кваліфікаваць як гіпернармалізмы толькі ў тым выпадку, калі вядома, што помнік паходзіць не з Віцебшчыны ці Магілёўшчыны, для якіх характэрна мяккаэрае вымаўленне і дзе такія напісанні з’яўляюцца прыкладамі фанетызацыі правапісу.

## Зацвярдзенне шыпячых

Зацвярдзенне шыпячых, якія, як вядома, у праславянскай мове былі заўсёды мяккімі, адзначаецца ў XIII ст. напісаннямі тыпу **должонъ, жоною, разроушонъ** замест традыцыйных **долженъ, женою, разроушенъ**.

Пазней з’яўляюцца напісанні літары *ы* пасля *ж*, *ш*, *ч*, *щ* (**почынати, нашы, близшы**[5], **пожытки, жыто, головщызна**), а ў XVI ст. зацвярдзенне шыпячых перадаецца ўжо даволі шырока, асабліва ў помніках справавога жанру (**чэсть, прыложывшы, рэчы, єщэ, щырость, вжэ, врочыщо, здавшы**). Напісанні тыпу **хочю, чюдо** з’яўляюцца гіпернармалізмамі.

### Зацвярдзенне свісцячага [ц’]

Зацвярдзенне свісцячага этымалагічна мяккага [ц’] адлюстроўваецца ў старабеларускім пісьменстве толькі з XVI ст., у справавых помніках гэта рыса прадстаўлена больш-менш паслядоўна:

**сэрцо, на ѹлицы, в цэлости, лисицою, цыбѵли, в рѹцэ, при моцы.**

Напісанні **ци – цѧ – ць – цю – цє** ў помніках іншых жанраў XVI–XVII стст. сведчаць пра царкоўнаславянскую традыцыю або пра ўплыў стараўкраінскай арфаграфіі, паколькі ні ў старaславянскай, ні ў стараўкраінскай мове зацвярдзелага [ц] не было.

### Дзеканне і цеканне

Карэлятыўныя рады па цвёрдасці/мяккасці, што ўтварыліся ў выніку другаснага памякчэння зычных, мелі некаторыя адрозненні ў асобных усходнеславянскіх гаворках. Так, для большасці гаворак, што леглі ў аснову беларускай мовы, цвёрдыя выбухныя пярэднеязычныя ([д], [т]) маюць мяккай парай свісцячыя афрыкаты ([дз’], [ц’]):

*мёд – у мёдзе, ход – хадзіць;*
*хата – у хаце, палёт – ляцець.*

Дзеканне і цеканне, на думку лінгвістаў, з’явілася ў беларускай мове не пазней за XIV ст., аднак на пісьме гэта рыса пачала спарадычна абазначацца толькі з XVI ст.:

**людзи, ѡцєць, сєць, выцєсалъ.**

Перавагу ў старабеларускім пісьменстве складаюць напісанні паводле традыцыйна-этымалагічнага прынцыпу накшталт:

**стати, в статѵтє, шлꙗхтичъ, ѡповєдилъ, добродѣйство, сѹдіꙗ,**

што ў некаторай меры можа быць растлумачана ўплывам стараўкраінскай мовы, якой чаргаванні [д] // [дз’] і [т] // [ц’] невядомы.

## ЗАДАННІ

З а д а н н е 1. Дайце тлумачэнне варыянтам напісанняў падкрэсленых слоў.

1) **погрєбли такъ ꙗкъ ходилъ: в волосꙗницы, в жѹпицы**[1] **в рꙗсѣ** (Зб. 81, 43);

2) **спо$^{т}$кавшы ѹбогого свою ємѵ расѵ да$^{л}$, а са$^{м}$ сꙗ ѡбнажи$^{л}$** (Зб. 752, 38 б);

3) **Въ то$^{ѕ}$ скрынцє были рєчы матки моєє. Рє$^{ѕ}$стръ пана Сѡлътана скаръбѹ, што ѹ Вильни былъ пры нємъ** (КСД, 873, 1516);

4) таковы$^{\text{х}}$… гэ$^{\text{т}}$манъ на$^{\text{ш}}$ ꙋв особливы$^{\text{ѕ}}$ рээстръ маєть казати ꙋписати (Ст. 1566, 23);

5) ижъ всимъ геретическимъ и дъяволскимъ сектамъ волно о порадку межы своими промышляти (Унія, 2 б);

6) жо$^{\text{л}}$нере грецкие до неприꙗте$^{\text{л}}$ се тиснꙋли, и ѡныхъ забива$^{\text{ли}}$, порꙗ$^{\text{д}}$кꙋ не гледꙗчи (Бельск., 338);

7) тые порѧдки на Артыкꙋлы раздѣливши прикладомъ иншихъ братствъ, ведлꙋ$^{\text{г}}$ которыхъ справоватисѧ мають, сами$^{\text{ж}}$ спорѧдивши, покладали пред$^{\text{ѕ}}$ нашим$^{\text{ѕ}}$ смиреніємъ (Ст. бр., 4).

[1] жупица – 'камізэлька' (ГСБМ. Вып. 10. С. 56).

З а д а н н е 2. Адзначце словы, у якіх адлюстравана зацвярдзенне [р'], у наступных сказах:

1) Дворъ церковный… впоперекъ земли сажен трынадесять (Пін., 14, 1511);

2) дрꙋгие прыровнываю$^{\text{т}}$ до ты$^{\text{х}}$ бы$^{\text{д}}$лꙗ$^{\text{т}}$ которые ѡборочаю$^{\text{т}}$ коло млыновоє (Зб. 261, 128 б);

3) хто бы єзами а$^{\text{л}}$бо млынами га$^{\text{т}}$ми мостами рэки по$^{\text{р}}$товые гамова$^{\text{л}}$ (Ст. 1566, 51);

4) будучи мне на добровольном рынку гдрском в месте тутошним Менском, межи раду соляного яко дня торгового, то пак дей тот Ивашко… до мене с чеканом порвалсе (АВК, XXXVI, 366, 1582);

5) Цена птахомъ домовымъ… за кꙋра, албо курыцꙋ калакꙋцкꙋю двадъцать гроше$^{\text{ѕ}}$ (Ст. 1588, 513).

З а д а н н е 3. Размяркуйце перадачу [р] у падкрэсленых словах па групах:

1) напісанне паводле традыцыйна-этымалагічнага прынцыпу;

2) паводле фанетычнага прынцыпу;

3) гіпернармалізм.

1) потомъ виделъ єсми и сѣ третии зверь подобенъ рису (Скар. ДП, 23);

2) ꙋставуе$^{\text{м}}$ цену звере$^{\text{м}}$ дикимъ… за се$^{\text{р}}$ну полкопы грше$^{\text{ѕ}}$ а за рысь рубль грше$^{\text{ѕ}}$ (Ст. 1529-Ф, 121);

3) вделаешь… столпецъ єго и прутие чаши и кружки и кветие с него выходящеє (Скар. КВ, 47);

4) на лѣвомъ крилосѣ Пречистой образъ со младенцомъ на крюжкахъ (АВК, VI, 493, 1549);

5) купили до тое жъ светлицы… крюки и зъ пробоями два (ИЮМ, IV, 237, 1686);

6) зробили кручковъ паръ три и завесъ до оконницъ паръ три (ИЮМ, X, 185, 1695).

З а д а н н е 4. Адзначце словы, у якіх адлюстравалася зацвярдзенне шыпячых. На падставе чаго выявілі гэту з’яву?

1) **бꙋдꙋ тежъ робити кошыки из листꙗ палмоваⷢ** (Зб. 81, 238 б);

2) **Юрко… взелъ дей кошикъ въ которомъ сети вожоны** (АВК, XVII, 361, 1541);

3) **до оное страчоное през прадѣда адама ѿчызны нашее приверненое собѣ през второго адама, право и дѣдичство** (Карп., 4 б);

4) **у волторокъ, праве вжо надъ вечор, пан Василей Павлович… подданыхъ нашых зашедшы, позбивали** (АВК, XXXVI, 110, 1582);

5) **теды помененый панъ Германъ Ширай… берегучы здоровья своєго и з убогими жывотишками своими, што моглъ вывезть з собою… кгды до Могилева приєхалъ** (АВК, XXXIV, 61, 1655).

З а д а н н е 5. Адзначце словы з зацвярдзелым [ц]. На падставе чаго вызначылі, што гэты гук менавіта зацвярдзелы?

1) **напротивку подозреного хочемъ оборонцою быти** (АЗР, I, 25, 1388);

2) **мы имъ тое именьецо, делницу брата ихъ князя Иванову, и дворъ городскій дали по тому, какъ братъ ихъ держалъ** (АЗР, I, 99, 1482);

3) **до того на ярыну, на цыбулю, на соль и на перецъ выдали осм. девять** (ИЮМ, VI, 125, 1689);

4) **прышло єму копе** [тут – **копье**] **в серцэ, и спалъ с конѧ мертвъ** (Бава, 133);

5) **квитацыю одобрали оддали до скарбцу шляхетному пану Денису, райцы, который книгами заведуетъ** (ИЮМ, II, 100, 1684).

З а д а н н е 6. Прааналізуйце наступныя напісанні:

1) **жаръ, чара;**

2) **ножь – ножа, ножу; врачь – врача, врачу; отьць – отьца, отцу.**

Чаму напісанне літар **а** і **у** пасля шыпячых і **ц** не дае падстаў сцвярджаць, што гэта зацвярдзелыя зычныя?

З а д а н н е 7. Дайце каментарый да напісанняў падкрэсленых слоў.

1) **онъ далъ ми тыхъ рѣчеи ꙋмение правое… розделы древъ и моць корни** (Скар. ПБ, 12);

2) **сторона поводовая, злецилъ и далъ моцъ отъ себе у суду въ справѣ своей нижейписаной, моцованому прыятелеви своему** (АВК, II, 217, 1580);

3) **Трышчан єго вдарыл всєю моцю што мѣлъ у собе** (Трыст., 127).

Параўн.: **кровью** > *кроўю*, **солью** > *соллю*.

Якую форму творнага склону назоўніка *моц* прапануе акадэмічная граматыка (гл.: Беларуская граматыка. Мінск, 1985. Ч. 1. С. 83)?

З а д а н н е 8. У прапанаваных сказах прааналізуйце перадачу на пісьме шыпячых гукаў і этымалагічнага [ц] і размяркуйце словы па групах:

1) напісанне паводле традыцыйна-этымалагічнага прынцыпу;

2) напісанне паводле фанетычнага прынцыпу.

1) **онъ... на той сеножати сена моего кошеного шесть возъ побралъ** (АВК, XXI, 172, 1556–1557);

2) **инъшое на сеножати кошоное покинула** (АВК, XXXVI, 182, 1582);

3) **искала кнегиня Семеновая подъ ними имѣнья, отчины своеѣ, на имя Остра, што держалъ небощикъ отецъ еѣ** (АЗР, I, 98, 1481);

4) **Дмитръ передъ нами реклъ: далъ мнѣ тое дворыщо тесть мой Васько Юсковичъ, небожщыкъ** (РПП, 298, 1510);

5) **жаловалъ на ѡⷭца пана Петрова, небожчыка пана Станислава Петровича** (КСД, 909, 1516);

6) **платили мужи мытници царевы, и купци и вси инии она же зброю продавали** (Скар. ТЦ, 150–150 б);

7) **шли гости, то есть купцы, до мѣста ѹзаⷩтиꙗ земли погаⷩскоⷩ** (Зб. 81, 182).

З а д а н н е 9. Прааналізуйце арфаграфічныя варыянты падкрэсленага слова ў наступных сказах:

1) **мѣщанинъ Виленскій, провади съ Кролевца соли лаштовъ і҃, <u>следи</u> лаштовъ г҃, цукру фарину бочка а҃, въ ней важитъ каменей д҃і** (АВК, XIV, 651, 1599);

2) **вина куфу, <u>следзи</u> бочку... кгвалтовне и безправне забралъ** (АВК, XV, 348, 1676);

3) **п. Помарнацкому купили пива гарнецъ... три десятка <u>следзей</u>** (ИЮМ, XVII, 27, 1710).

Якую фанетычную асаблівасць заўважылі?

З а д а н н е 10. Укажыце, якой фанетычнай асаблівасцю беларускай мовы тлумачацца падкрэсленыя арфаграфічныя варыянты.

1) **Дмитръ передъ нами реклъ: далъ мнѣ тое дворыщо <u>тесть</u> мой Васько Юсковичъ, небожщыкъ, за дочкою своею** (РПП, 298, 1510);

2) **казали есмо ему тотъ ставъ держати вѣчне подлугъ старого засыпаньꙗ пана Ивана подскарбего <u>цстя</u> его** (КСД, 1320, 1519);

3) **жеребецъ <u>тисавый</u>**[1] **одинъ** (АВК, VIII, 74, 1607);

4) **За перекованье двохъ коней, дерешоватого**[2] **и <u>цисавого</u> Микитє ковалю дали...** (ИЮМ, X, 52, 1695);

5) **въ томъ же дей свирнѣ... жупанъ шарый каразеи**[3] **накрапяной зъ чирвоной <u>нитью</u>** (АВК, VIII, 465, 1593);

6) **на <u>ници</u> кравцу до каждой либерыи**[4] **дали по осм. тры** (ИЮМ, XIII, 55, 1699);

7) **при томъ бои взяли… ножы… костю оправлены** (АВК, XXXIX, 440, 1579);

8) **до тыхъ шуфлядъ косци робили** (ИЮМ, XIV, 42, 1700).

---

[1] **тисавый, цисавый** – ‘цёмна-гняды, каштанавы’ (ГСБМ. Вып. 33. С. 307).

[2] **дерешоватый** – ‘дарашаваты, шараваты (пра масць каня)’ (Там жа. Вып. 8. С. 48).

[3] **каразея** – ‘гатунак тоўстай суконнай тканіны’ (Там жа. Вып. 14. С. 277).

[4] **либерия** – ‘ліўрэя’ (Там жа. Вып. 17. С. 32).

З а д а н н е 11. Састаўце адпаведнасці так, каб атрымаліся правільныя выказванні.

У сказе… (1, 2, 3, 4, 5) ёсць слова, дзе адлюстравалася… (а, б, в).

1) **нехай намъ выведе$^{т}$, што за поровнан$^{ѕ}$е короны троистой золотистой, з$^{ѕ}$ венеце$^{м}$ терновы$^{м}$** (Апокр., 175 б);

2) **ты мнѣ даи которого своего витезѧ… штобы мог рыцэрство носити** (Бава, 171);

3) **немцо$^{в}$ не мало зразꙋ на плꙗцꙋ полегло** (Хр. пол., 23 б);

4) **за кацелокъ заплатили въ чомъ укропъ грели осмаковъ пятнадцать** (ИЮМ, IV, 130, 1689);

5) **начинается пета першая тое границы з березы у дубъ з рубежами подле копъца** (ИЮМ, XXV, 342, 1719);

а) зацвярдзенне [ц’]-этымалагічнага;

б) неадлюстраванне [ц’]-этымалагічнага;

в) цеканне ([т’] > [ц’]).

## ТЭСТ

**1.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Зацвярдзенне этымалагічна мяккага [р’] адбылося ў словах:

1) рабіна; 3) рака; 5) рысь; 7) рыцар.
2) рабыня; 4) рак; 6) рыс;

**2.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Словы, што адлюстроўваюць зацвярдзелы [р], ёсць у сказах:

1) **украдено… съ хлева воловъ оромыхъ два – рыжого и рабого** (АВК, XVIII, 101, 1548);

2) **крылатые нѣжкіе войска, свѣ$^{т}$лые вси… прохожалисѧ** (Варл., 279 б);

3) **ѡбличꙗ на погледенью велми грозны, бороды долгие, волосы не стрыжоны** (Атыла, 180);

4) єсть на мори єдина рыбка невелика, зовꙋть єхиній (Хран., 6 б);

5) за зробене зъ готовое скурки рынкгорта[1], за колцо и пражку дали осм. (ИЮМ, XI, 43, 1697).

[1] рынкгортъ – 'рэмень для прымацавання сядла' (ГСБМ. Вып. 31. С. 16).

**3.** Састаўце адпаведнасці так, каб атрымаліся правільныя выказванні.

У падкрэсленым слове сказа... (1, 2, 3, 4, 5, 6) пры перадачы гука [р] адлюстраваны... (а, б, в).

1) Приносити будуть ѿ даровъ мирныхъ жертву гсду... брюхо и вси чрева (Скар. КЛ, 9 б);

2) проклято буди ненасычоное горло моє, же для тебе и для бруха моєго слѣпоту тую маю (Зб. 752, 572);

3) было в церкви корито ѡдно (Зб. 82, 52);

4) у броваре... корытъ пивныхъ тры (АВК, XXXVI, 286, 1582);

5) рꙋшившисе ѿтамтоля пришли до ѡстаточнои стороны ѡдной гори (Алекс., 37 б);

6) пришли ку ѡднои горы и убачили на неи замок (Бава, 157);

а) фанетычны прынцып арфаграфіі;

б) марфалагічны прынцып арфаграфіі;

в) гіпернармалізм.

**4.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Пра адлюстраванне на пісьме вымаўлення зацвярдзелага шыпячага можна гаварыць з упэўненасцю, калі пасля яго напісана літара:

1) а; 2) о; 3) у; 4) ы; 5) э.

**5.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Прыклады, якія адлюстроўваюць зацвярдзенне шыпячых, ёсць у сказах:

1) Яцута Богдановичъ... во второкъ, собравши толоку и на томъ поли... жита пожалъ (АВК, XXI, 43, 1555);

2) билъ намъ чоломъ, абыхмо єго при томъ зоставили (АВК, II, 5, 1555);

3) крол желерус... хотѣлъ боронит берегов греком, але ранен и поражен ѿ ахилея (Бельск., 83 б);

4) крупъ овсяныхъ два ж корцы, абы толъкна такъ же два корцы, пшона корецъ (КПД, 670, 1563);

5) панове депутаты тые вси грабежы, которые до даты теперешнее въ ратушу были, пристойнее и слушъне ошацовавшы, попродавать казали (ИЮМ, V, 253, 1652).

**6.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Прыклады напісання шыпячых паводле традыцыйна-этымалагічнага прынцыпу ёсць у сказах:

1) **медосытцемъ за сычене того меду, отъ пуда по грошей шесть** (ИЮМ, IV, 35, 1686);

2) **жо$^{л}$нери… ꙋпле$^{т}$шы коронꙋ с те$^{р}$нꙗ вложыли на голову е$^{г}$** (Зб. 255, 270);

3) **онъ… на той сеножати сена моего кошеного шесть возъ побралъ** (АВК, XXI, 172, 1556–1557);

4) **В которомъ ольстрꙋ было… брытвы, ножыцы, гребене** (АВК, XX, 141);

5) **в дому Исака постригача нашли кравчыка Дмитра Єсковича, робечы ремесло кравецкое** (АВК, XXXIX, 346, 1579).

**7.** Састаўце адпаведнасці так, каб атрымаліся правільныя выказванні.

У сказе… (1, 2, 3, 4, 5) ёсць словы, дзе адлюстравана… (а, б, в).

1) **пожираетъ тернье огон$^{ѕ}$, и ѿ горѧчести поломенѧ запалѧетсѧ** (Варл., 78 б);

2) **за помо$^{ч}$ю Бж҃ею зведе$^{м}$ битву, а ѡ$^{н}$ вниве$^{ч}$ ѡберне$^{т}$ неприꙗтели** (Пс., XVII, 46 б);

3) **Смела и важыласе… въ притолоки ножъ втыкати** (ИЮМ, IX, 297, 1637);

4) **тогды ѡны$^{ѕ}$ скоморохъ покинꙋвъшы пища$^{л}$ки свои шо$^{л}$ за пафнотие$^{м}$ на пꙋщꙋ** (Зб. 82, 199);

5) **наделалъ есть царь Саломонъ двесте щитовъ злата чиста** (Скар. ТЦ, 150 б);

а) захаванне традыцыйна-этымалагічнага прынцыпу пры напісанні шыпячых;

б) зацвярдзенне шыпячых;

в) гіпернармальная перадача зацвярдзелага шыпячага.

**8.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Напісанне слоў паводле фанетычнага прынцыпу з зацвярдзелым [ц]-этымалагічным ёсць у сказах:

1) **сынове его не то$^{л}$ко сталисе хре$^{с}$тиꙗны але те$^{ж}$ в це$^{р}$кви божо$^{ѕ}$ славни** (Зб. 255, 277 б);

2) **миловали его панове, ꙗкъ свое сэрцо** (Трыст., 41);

3) **насъ бо ради пращаеть слѣпца ср$^{д}$цевидець** (Чэцця, 350);

4) **Рꙋшаетсѧ трѧсенімъ и землѧ, але зновꙋ в своей моцы зоставает$^{ѕ}$** (Кін., 57 б);

5) **по правой руцѣ подъ городищомъ свиренъ зъ кганкомъ** (АСД, V, 206, 1597).

**9.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Пераход [т’] > [ц’] (цеканне) адлюстраваны ў словах са сказаў:

1) **На тотъ часъ пошовъ былъ лаванъ стрычь овцы** (Хран., 48);

2) **Наняли оного абы полмиски и талерки змывал а другій оциралъ, дали ползолотого** (ИЮМ, V, 137, 1688);

3) **несть того ѡбычаа и каждом живом, чтобы не было в человецех… оупрѧм ꙗко синица трьпѧще ꙗко свиніѧ** (Арыст., 160);

4) **панъ Иванъ Чорны… цивуна Виленъского мещанин, жаловалъ** (АВК, XXXIX, 19, 1578);

5) **З росказання пана войта, в домъ купили мяса целяччого** (ИЮМ, XVIII, 34, 1710).

**10.** Адзначце ўсе правільныя адказы.

Гіпернармальныя напісанні ёсць у сказах:

1) **пришли предъ насъ наши горожяне и то намъ поведали...** (РЛА, 26, XIII–XIV);

2) **ѿ крикꙋ и верескꙋ пога҃ско҃ землꙗ гꙋчала** (Стрыйк., 494 б);

3) **листы… у себе задержал, не хотечи ему вернуть, ани тому Минчукови верицелеви оддал** (АВК, XXXIX, 71, 1578);

4) **Єгда же ꙋслышить трубу веселитсѧ, здалека чюєть бой, напоминание, воеводъ и крык҃ воиска** (Скар. КІ, 47 б);

5) **за взятьемъ вѣдомости съ положоного позву отъ еи милости пани Регины Соколинской, судиной земской Троцкой** (АВК, VIII, 120, 1637).

# Тэксты для аналізу

## Астрамірава Евангелле (1056–1057)

Самая старажытная з вядомых у сучаснасці ўсходнеславянскіх кніг. Евангелле перапісана дзякам Грыгорыем для наўгародскага пасадніка Астраміра, што вынікае з запісу на аркушы 294. Мова – царкоўнаславянская ўсходнеславянскай рэдакцыі.

Прыведзены ўрыўкі з публікацыі ў кнізе «Хрестоматия по истории русского языка» (М., 1990. С. 12, 15–16). Знак / паказвае канец радка ў арыгінале. У дужках пасля ўрыўка – нумар старонкі (аркуша) арыгінала.

**Въ оно врѣмѧ• / приде і҃съ въ градъ самареи/скъ • нарица/ѥмы соухა/рь • близъ вьси[1] ѩ/же дасть иꙗковъ / иосифоу сыноу || своѥмоу бѣ же тоу / стѫденьць[2] иꙗковль ісъ же троу/ждь сѧ отъ пѫти / сѣдѣаше тако на стѫденьци • годи/на же бѣ ꙗко шеста/ꙗ приде жена отъ / самариꙗ почрѣтъ / воды • гл҃а ѥи і҃съ / даждь ми пити / оучници бо ѥго о/шьли[3] бѣахѫ въ гра/дъ • да брашно[4] коу/пѧть** [...]

(*арк. 29*)

[...] **Написахъ же еⷢѵ/лие се • рабоу б҃жию нареченоу сѫщоу / въ кр҃щени иосифъ • а мирьскы остро/миръ • близокоу[5] сѫщоу изѧславоу кн҃ѧ/зоу • изѧславоу же кънѧзоу тогда / прѣдрьжащоу обѣ власти • и о҃ца свое/го ꙗрослава • и брата своѥго володимира • / самъ же изѧславъ кънѧзь • правлꙗа/ше столъ о҃ца своѥго ꙗрослава кыѥвѣ • / А брата своѥго столъ порѫчи правити •/ близокоу своѥмоу остромироу новѣ/городѣ•**

(*арк. 294*)

---

1 **вьсь** – ‘вёска’.
2 **стѫденьць** – ц.-сл. **студеньць** ‘калодзеж’.
3 **ошьли** – тут памылка, павінна быць **отошьли**.
4 **брашно** – ‘вараная страва, ежа’.
5 **близокъ** – ‘сваяк, родзіч’.

**Заданні**

1. Знайдзіце прыклады палаталізацый заднеязычных, растлумачце гэтыя фанетычныя змены і пакажыце іх умовы.

2. Адзначце царкоўнаславянізмы з няпоўнагалоснымі спалучэннямі. Супастаўце прыклады, дзе прадстаўлены змены спалучэнняў тыпу *tort, у першым (частка Евангелля) і другім (прыпіска ад пісара) урыўках.

3. Прааналізуйце ўжыванне юсоў. Ці вымаўляліся насавыя ў гаворцы пісара?

## ЗБОРНІК (1073)

Зборнік перапісаны з перакладаў з грэчаскай мовы, зробленых для балгарскага цара Сімяона (892–972). Гэты зборнік пачалі перапісваць для князя Ізяслава. Пасля таго як князь Святаслаў выгнаў свайго старэйшага брата Ізяслава з Кіева ў 1073 г., зборнік пераадрасавалі Святаславу.

Паводле зместу гэта энцыклапедыя свайго часу, у якой сабраны звесткі з самых розных галін ведаў.

Прыведзены ўрывак з публікацыі ў кнізе «Хрестоматия по истории русского языка» (М., 1990. С. 21). Знак / паказвае канец радка ў арыгінале.

**Мⷭци по римлѧнемъ / о различьныихъ / мѣсѧциихъ/ А҃ марта •л҃а• сладъко ѧ/ждь и пии •в҃• апри/лѧ •л҃• рѣпы не Ѣжь[1] / •г҃• маиꙗ •л҃а• порⷪсѧте/ не ꙗждь •д҃• иоунѧ •л҃• / въ чѧсъ въторыи пи/и воды мало •е҃• иꙋлиꙗ •л҃а• въздьржи сѧ о/тъ афродисии[2] •ѕ҃• аꙋ/гоуста • слѣза[3] не ꙗждь / з҃• сетембра •л҃• млѣка / не ꙗждь •и҃• октѧврѧ / •л҃а• не ꙗждь оцьтана[4] •ѳ҃• октѧбрѧ •л҃• не мы/и сѧ чѧсто •і҃• декѧбра •л҃а• капоусты не ꙗждь / •і҃а• иѥноуара •л҃а въ часъ •в҃• пии вина цѣла[5] /мало •в҃і• феꙋроуарѧ / •к҃и• сеꙋкла[6] не ꙗждь**

[1] **Ѣжь** – рэдкае напісанне ётаванага ѣ; параўн.: **ѧждь, ꙗждь**.
[2] **афродисии** – рымскія святы ў гонар Афрадыты.
[3] **слѣзъ** – 'расліна мальва' (выкарыстоўвалася ў грэчаскай кухні).
[4] **оцьтанъ** – 'кіслы'.
[5] **цѣлыи** – 'неразбаўлены'.
[6] **сеꙋкла** – 'бурак'.

**Заданні**

1. Знайдзіце ва ўрыўку прыклады:
а) змен пачатковых спалучэнняў *ort;
б) змен спалучэнняў тыпу *tort;
в) розных відаў палаталізацый.

2. Прааналізуйце ўжыванне юсоў.

## ЗБОРНІК (1076)

Змест рукапіснага зборніка – цытаты і выказванні візантыйскіх айцоў царквы на агульнамаральныя тэмы. Перакладзены з грэчаскай мовы на царкоўнаславянскую ўсходняй рэдакцыі.

Прыведзены ўрывак «Пра карысць чытання кніг» з публікацыі ў кнізе «Хрестоматия по истории русского языка» (М., 1990. С. 23). Знак / паказвае канец радка ў арыгінале.

**[…] ѥгда чь/теши книгы • не тъшти[1] сѧ҃ / бързо иштисти[2] до доугы/ꙗ главизны[3] • но поразоу/мѣи чьто г҃лють книгы / и словеса та • и тришьды / обраштаꙗ сѧ о ѥдинои / главизнѣ • рече бо въ сь/рдьци моемь съкр҃ыхъ / словеса твоꙗ да не съгрѣ/шѫ тебѣ Не рече оусты / тъчью нзглаахъ • нъ и / въ сьрдьци съкрыхъ да || не съгрѣшѫ тебѣ • и пора/зоумѣваꙗ оубо истинь/нѣ писаниꙗ правимъ ѥ/сть ими • рекоу же • оузда / коневи правитель ѥсть / и въздьржаниѥ • правь/вьдьникоу[4] же книгы ѩ / Не съставить бо сѧ кора/бль без гвоздии ни п/раведьникъ бес почита/ниꙗ книжьнааго […]**

[1] шт = щ, щ (афрыката [ш’ч’]); тъшти сѧ – ‘імкнуцца’.
[2] иштисти = изчисти ‘дачытаць’, шт = щ.
[3] главизна – ‘раздзел, глава’.
[4] правьвьдьникоу – тут памылка, павінна быць правьдьникоу.

**Заданні**

1. Перакажыце змест урыўка.

2. Выявіце фанетычныя царкоўнаславянізмы і прывядзіце іх усходнеславянскія адпаведнікі.

3. Дайце тлумачэнне варыянтам напісання прыназоўніка *без* (без): без гвоздии – бес почитаниꙗ.

## ВІЦЕБСКАЯ ГРАМАТА (XIII–XIV стст.)

Першая грамата на бяросце, знойдзеная на тэрыторыі Беларусі. Адшукана падчас археалагічных раскопак у 1959 г. у Віцебску. Фота і апісанне граматы апублікаваны ў часопісе «Советская археология» (1960. № 1).

Прыведзены тэкст уяўляе сабой расшыфроўку апублікаванага фота.

**От Стьпана ко Нежилови. Оже єси про**
**дало порты[1], а коупи ми жита за**
**•г• гривено. А ли цего єси не про**
**дало, а посли ми лицеме[2]. А ли єси**
**продало, а добро сътворя оу**
**коупи ми жита**

[1] портъ – ‘адзенне’.
[2] лицємь – ‘наяўнасцю’ (= ‘вярні тавар’).

